

*Святая маці Тэрэза з Калькуты.*
*Кананізацыйны абраз.*




Надзвычайны Юбілейны Год Божай Міласэрнасці стаў добрай нагодай для таго, каб вярнуцца да сапраўднага біблейскага аблічча Бога, які не толькі праяўляе міласэрнасць, але і сам ёю з'яўляецца. <...>

На пачатку была Божая любоў, а Яго міласэрнасць з'явілася як адказ бязмежнай любові Бога на грэх чалавека. Сваім вучэннем і дзейнасцю Езус сцвярджае, што міласэрнасць — гэта не толькі чын Нябеснага Айца, але і крытэрый, які дазваляе зразумець, кім павінны быць Яго сапраўдныя дзеці. Таму мы, якія спазналі Божую міласэрнасць, павінны ёю жыць (пар. MV 10). Менавіта таму яна мае моц збавіць свет. Нам жа, у адказ на яе, паводле словаў св. апостала Паўла, неабходна апрануцца ў міласэрнасць (пар. Клс 3, 12).

Калі Бог літуецца над чалавекам (пар. Пс 103 (102), 13), то і мы таксама павінны ўзаемна літавацца адзін над адным. Спазнаўшы Божую міласэрнасць, мы не маем права пакінуць яе толькі для сябе. Гэта той дар, якім мы павінны дзяліцца з іншымі, каб і іх прывесці да крыніцы бязмежнай Божай міласэрнасці.

Толькі так мы зможам у сваім жыцці рэалізаваць дэвіз Юбілейнага Году — «Міласэрныя, як Айцец».

*З пастырскага паслання*
***«Божая міласэрнасць на вякі»***
*арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча*
*на завяршэнне Надзвычайнага Юбілейнага Году*
*Божай Міласэрнасці.*



у нумары 4/2016

НАША ВЕРА



У лістападзе ва ўсім свеце адбылося ўрачыстае закрыццё Брамаў міласэрнасці ў сувязі з заканчэннем Надзвычайнага Юбілейнага Году Божай Міласэрнасці. З гэтай нагоды прапануем увазе чытачоў рэферат **Віцебскага біскупа Алега Буткевіча**, прачытаны на ІІІ Міжнароднай сустрэчы партнёраў *Caritas Belarus — 2016*, што прайшла 10–11 кастрычніка 2016 г. у Мінску.

# Міласэрнасць на дарогах людскіх трагедый

На пачатку нашых разважанняў хачу звярнуць увагу шаноўнага спадарства на два фундаментальныя паняцці, аб’яднанне якіх і з’яўляецца назваю гэтага рэферата. Гэта паняцці міласэрнасці і дарогі. Абодва іх можна назваць біблійнымі, бо яны існуюць не толькі ў Святым Пісанні — кожны з іх мае сваю спецыфіку ў кантэксце тэалогіі. Для пачатку засяродзімся асобна на кожным з гэтых паняццяў, каб зразумець, пра што яны нам гавораць, калі выступаюць разам.

**1. Дарога**

Хацелася б пачаць з кароткага аналізу біблійнага паняцця дарогі. Я зраблю акцэнты на найбольш важных тэалагічных аспектах, з якіх складаецца гэты біблійны вобраз, бо яго разумеюць досыць шырока ў розных адценнях значэння

(напрыклад, такіх, як вандроўка, пілігрымка, падарожжа і г.д.).

Па-першае, матыў дарогі з'яўляецца адным з найбольш істотных тэалагічных элементаў у біблійным пераказе гісторыі выбранага народа, якая — варта пра гэта памятаць — з'яўляецца таксама гісторыяй збаўлення.

Першы патрыярх Абрагам стаў пілігрымам, калі, паслухмяны Божаму закліку, выйшаў са сваёй зямлі, з Ура Халдэйскага, і вырушыў да невядомага, каб даць пачатак вялікаму народу і стаць пасрэднікам у перадачы Божага благаслаўлення ўсім народам зямлі. Гэтак жа і жыццё кожнага з патрыярхаў, нашчадкаў Абрагама, было поўнае падарожніцкага, пілігрымскага, выгнанніцкага досведу.

І для Абрагама, і для іншых патрыярхаў дарога стала праверкаю іх веры і вернасці Пану Богу, даверу і аддання сябе Яго волі. Гэта была добрая нагода для асабістага духоўнага росту, адкрыцця новых даляглядаў веры, перажывання асабістага досведу сустрэчы з Богам, прысутным у розных жыццёвых здарэннях.

Чарговаю пілігрымкаю, у якой прыняла ўдзел не сям'я альбо клан, а цэлы народ, стаў зыход з Егіпта і шматгадовае падарожжа праз пустыню да абяцанай зямлі. Менавіта там, у пустыні, Ізраэль становіцца народам у поўным значэнні гэтага слова. У пустыні выбраны народ праходзіць праз шматлікія выпрабаванні і вучыцца быць верным Богу, захоўваць сыноўскую паслухмянасць і безумоўны давер Яму. З цягам часу, з развіццём гістарычнай і рэлігійнай самасвядомасці народа Ізраэля, гэты перыяд прабывання ў пустыні пачалі называць ідэалам адносінаў паміж Богам і людзьмі, заснаваных на сапраўднай узаемнай любові. Таму не дзіва, што ў пасланнях Осіі і Ераміі гучаць абяцанні «новага зыходу»: Пан Бог зноў выведзе выбраны народ у пустыню і там будзе прамаўляць да яго сэрца, гэтак жа, як у часы яго маладосці (пар. Іс 2, 2; Ос 2, 16).

Па-другое, матыў дарогі становіцца таксама істотным элементам канстытуцыйнай самасвядомасці выбранага народа. Калі ізраэліты пасяліліся ў абяцанай зямлі, яны не перасталі ўсведамляць сябе пілігрымамі, намадамі-качэўнікамі. Напрыклад, кароль Давід, збіраючы дары на будоўлю святыні, гаворыць: «Пілігрымы мы перад Табою і чужынцы, як былі ўсе бацькі нашыя ( пар.1 Сам 29, 15).

Быць пілігрымам і чужынцам — гэта не толькі мінулы, але і заўсёды актуальны досвед сыноў выбранага народа. Вядомае выслоўе рабінаў з Талмуда наказвае кожнаму ізраільцяніну заўсёды адчуваць сябе ўдзельнікам зыходу з Егіпта, падобна продкам, якія насамрэч гэта перажылі.

Ментальнасць пілігрыма, якая, відаць, назаўсёды закадаваная ў духоўным ДНК выбранага народа, падтрымлівае ў ім адчуванне хуткаплыннасці і зменлівасці ўсяго тленнага, хоць на першы погляд яно здаецца стабільным і трывалым. Вельмі слушна пра гэта гаворыць аўтар Паслання да Габрэяў: «Не маем тут трывалага горада, але шукаем будучага» (пар. Гбр 13,14).

Такім чынам, мы звяртаемся да трэцяга вымярэння паслання дарогі, якое можна назваць месійна-эсхаталагічным.

Досвед пілігрымавання выклікае ў выбранага народа тугу па будучыні і становіцца ўрадлівай глебаю для чакання Месіі. Гісторыя ўспрымаецца ім як няспынны рух наперад, да мэты, якою будзе сустрэча з Месіяй. Таму не здзіўляе, што ў Новым Запавеце Езус увасабляе шмат рысаў пілігрыма. Асабліва гэта заўважна ў Евангеллі паводле Лукі, дзе амаль палова прамоваў і ўчынкаў Езуса адбываецца падчас вялікага падарожжа (ці пілігрымкі) да Ерузалема — горада, дзе павінна споўніцца Яго Пасха (Лк 9 –19).

З месійным аспектам цесна звязаны эсхаталагічны аспект. У Кнізе Апакаліпсісу гісторыя чалавецтва паказана як дарога да новага Ерузалема — горада надзеі і будучай славы, дзе Бог выцірае кожную слязу і ўжо не будзе ні смерці, ні смутку, ні плачу, ні болю (гл. Ап 21,1–4).

Падсумоўваючы, можна сцвердзіць, што ў біблійнай трактоўцы вандроўка, падарожжа, пілігрымка з'яўляюцца адным з асноўных экзістэнцыяльных доследаў кожнага чалавека, а дарога ўспрымаецца як метафара чалавечага жыцця, якое па сутнасці з'яўляецца падарожжам праз час да акрэсленай мэты, краіны свайго канчатковага прызначэння.

**2. Міласэрнасць**

Наступным этапам нашых разважанняў будзе тлумачэнне біблійнага паняцця міласэрнасці. На пачатку я хацеў бы звярнуць увагу на вельмі цікавы факт: у нашым лексіконе, як і ў большасці сучасных славянскіх, раманскіх, германскіх моваў, этымалогія слова «міласэрнасць» паходзіць ад слова «сэрца». Менавіта гэты орган чалавечага цела з'яўляецца свайго роду фізічным сімвалам міласэрнасці. Зусім інакш гэтае паняцце тлумачыцца ў грэцкай і габрэйскай мовах, дзе сімвалам міласэрнасці з'яўляецца не сэрца, а матчына ўлонне.

Габрэйскі назоўнік «reḥem»

і яго форма множнага ліку «raḥămîm» у сваім першым, асноўным значэнні, перакладаецца як улонне, дзетародныя органы жанчыны. Трансфармаваўшыся, гэтае паняцце стала метафараю міласэрнасці, суб'ектам якой (тым, хто праяўляе міласэрнасць), як правіла, з'яўляецца Пан Бог і толькі у нешматлікіх выпадках чалавек.

Як прыклад ужывання гэтага слова і звязаных з ім вобразаў згадаю некалькі цытатаў са Старога Запавету:

«Ці забудзе жанчына пра сваё немаўля, каб не пашкадаваць сына ўлоння свайго? Але калі б нават і забыла, Я не забуду пра цябе» (Іс 49,15).

«Як літуецца бацька над сынамі, так змілуецца Пан над тымі, хто Яго баіцца» (Пс 103, 13).

«Пан, Пан Бог міласэрны і літасцівы, доўгацярплівы і шматміласцівы, і праўдзівы. Які захоўвае міласэрнасць на тысячы пакаленняў, які прабачае беззаконні, і злачынствы, і грахі» (пар. Зых 34, 6-7).

«На малы час Я пакінуў цябе, але з вялікай міласцю прыму цябе» (Іс 54,7).

«Як учыню табе, Эфраіме, як пакінуць цябе, Ізраэлю? Уздрыгаецца на гэта сэрца Маё, і адначасова разгараецца літасць Мая. Полымя гневу Майго не распалю» (пар. Ос 11,8-9).

«Змілуйся нада мною, Божа, у вялікай міласці Тваёй і ў паўнаце міласэрнасці Тваёй знішчы беззаконні мае» (Пс 51, 2).

У гэтых і многіх іншых тэкстах Старога Запавету, дзе ёсць слова «raḥămîm» альбо яго вытворныя, Божая міласэрнасць разумеецца як поўная спантанная, абсалютная, бескарыслівая любоў, якая не чакае ўзаемнасці — яна натуральная і асноўная, як любоў маці да дзіцяці — плода яе ўлоння. Адначасова гэтая любоў больш дзейсная і глыбокая, чым якаясьці чалавечая любоў.

У грэцкай мове Новага Запавету для азначэння міласэрнасці ўжываюцца розныя словы. Найчасцей гэта дзеяслоў «*eleéo*» і назоўнік «*éleos*», якія ў розных формах выкарыстоўваюцца 78 разоў. Адна з дзеяслоўных формаў гэтага слова — вядомае нам з літургіі «*Kyrie, eleison*», што ў літаральным перакладзе азначае «Пане, будзь міласэрны».

Я хацеў бы звярнуць увагу на іншы дзеяслоў — «*splanchnídzomai*», які паходзіць ад назоўніка «*splánchna*» і азначае, як і габрэйскі адпаведнік, «улонне маці». Дзеяслоў «*splanchnídzomai*» выкарыстоўваецца ў Новым Запавеце 12 разоў. Яго суб'ектам з'яўляецца Езус у розных прыкладах сваёй дзейнасці, напрыклад, калі ў вёсцы Наін сустракае пахавальную працэсію з памерлым адзіным сынам ўдавы (Лк 7, 13), калі бачыць перад сабою галодны натоўп, які слухае Яго навучанне (Мк 1, 41), калі на Яго шляху з'яўляецца пракажоны (Мк 1, 41) альбо двое сляпых з Ерыхона (Мц 20, 34).

У гэтых і іншых эпізодах Евангелісты апісваюць Езуса, які сустракае на сваім шляху церпячых і, гледзячы на іх, адчувае глыбокую любоў і спагаду. Варта адзначыць, што ва ўсіх вышэйзгаданых прыкладах унутранае ўзрушэнне Езуса з'яўляецца большым за звычайныя пачуцці, бо выходзіць за межы эмацыйнага і рэалізуецца ў канкрэтных дзеяннях у адносінах да людзей з мэтаю палегчыць іх пакуты.

### 3. Міласэрнасць на людскіх дарогах

Такім чынам, мы набліжаемся да асноўнага прадмету нашых разважанняў. Даведаўшыся пра асноўныя біблійныя канатацыі паняццяў дарогі і міласэрнасці, паспрабуем разгледзець, як яны спалучаюцца. Возьмем як прыклад дзве прыпавесці з Евангелля паводле Лукі, дзе дарога ў літаральным, прасторавым значэнні ператвараецца ў экзістэнцыяльны сімвал, які існуе ў кантэксце праяўлення міласэрнасці. Гэта прыпавесць пра міласэрнага самараніна (Лк 10, 25–37) і прыпавесць пра марнатраўнага сына (Лк 15, 11–32).

Героем першай прыпавесці з'яўляецца «адзін чалавек», падарожнік альбо пілігрым, які ідзе з Ерузалема ў Ерыхон, пераадольвае звілісты, цяжкі і небяспечны шлях. У адрозненне ад іншых герояў прыпавесці, мы нічога не ведаем пра гэтага пілігрыма: ні яго нацыянальнасці, ні веравызнання, ні грамадзянскай пазіцыі, ні прафесіі. Ён трапляе ў рукі злачынцаў і пасля нападу, ледзь жывы, ляжыць на дарозе, самотны і бездапаможны.

Нарэшце, на даляглядзе з'яўляецца святар, які, хутчэй за ўсё, вяртаецца са святыні дадому. Ёсць надзея, што ён дапаможа параненаму, але адразу прыходзіць расчараванне: святар, «убачыўшы яго, прайшоў міма». Ён пабаяўся, што кантакт з крывёю альбо, што яшчэ горш, з мёртвым целам, зробіць яго рытуальна нячыстым і не дазволіць некаторы час прымаць удзел у набажэнствах у святыні.

Пазней міма праходзіць левіт, які таксама ўдзельнічае ў рытуалах у ерузалемскай святыні. Ён, як і святар, «паглядзеў і прайшоў міма», напэўна, таксама ад страху

стаць рытуальна нячыстым. Напружванне ўзрастае, а надзея параненага на паратунак становіцца ўсё слабейшаю.

І нарэшце да яго набліжаецца самаранін. Ці можна чакаць нечага ад таго, хто ў вачах габрэяў з'яўляецца ерэтыкам, палітычным і рэлігійным ворагам, прадстаўніком народа, які, паводле Кнігі Сіраха, «дурны народ, які прабывае ў Сіхеме» і насамрэч нават не з'яўляецца народам (пар. Сір 50, 25-26). Аднак толькі ён, самаранін, затрымліваецца і нахіляецца над параненым, глядзіць на яго і ўзрушаецца. На мове арыгінала яго ўзрушэнне перададзена ўжо вядомым нам дзеясловам «*splanchnízomai*». Гэтае ўзрушэнне падобнае да ўзрушэння матчынага ўлоння, вельмі інтымнага, моцнага і далікатнага пачуцця.



Узрушэнне самараніна — гэта не толькі пачуццё, але і шэраг канкрэтных паслядоўных і эфектыўных дзеянняў з мэтаю ўратаваць жыццё і здароўе параненага.

Самаранін нібы забывае пра мэту ўласнага падарожжа, пра страчаны час, пра выдаткі на дапамогу параненаму. Перад чалавечымі пакутамі і небяспекаю смерці ўсе іншыя справы трацяць значэнне. Для святара і левіта паранены быў перашкодаю, якую яны абмінулі, працягнуўшы сваё падарожжа далей. Самаранін ставіць сябе на месца гэтага невядомага яму чалавека, праяўляе да параненага міласэрнасць, не звяртаючы ўвагі на выдаткі і небяспеку, не чакаючы ні ўзнагароды, ні ўдзячнасці. Святар і левіт дэманструюць фармальную і штучную рэлігійнасць, якая аддаляе іх ад бліжняга. Самаранін дае прыклад сапраўднай веры, што набліжае яго да бліжняга, які знаходзіцца ў патрэбе, і падштурхоўвае да міласэрнасці, каб прынесці яму палёгку ў цярпенні і ўратаваць яго жыццё.

Варта звярнуць увагу на кантэкст прыпавесці. Езус апавядае яе ў адказ на пытанне кніжніка: «А хто мой бліжні?» Гэтае пытанне вельмі «аб'ектыўнае», тэарэтычнае, абыякавае, гэта просьба даць дэфініцыю: хто заслугоўвае таго, каб называцца маім бліжнім (і адпаведна, хто гэтага не заслугоўвае), альбо да якой катэгорыі людзей адносіцца запаведзь любіць бліжняга, як самога сябе. Напрыканцы прыпавесці Езус замест прамога адказу задае свайму суразмоўцу пытанне, на першы погляд падобнае, але па сутнасці зусім іншае, дыяметральна супрацьлеглае: «Хто з гэтых трох быў бліжнім таму, хто трапіў у рукі разбойнікаў?» Відавочная змена разумення запаведзі любові: замест таго, каб «аб'ектыўна» дыскутаваць пра дэфініцыю паняцця «бліжні», трэба стаць «суб'ектыўна» бліжнім у адносінах да кожнага, хто знаходзіцца ў патрэбе і чакае ад нас спачування і міласэрнасці.

Дарога, як адзін з элементаў гэтай прыпавесці, набывае выразныя сімвалічныя рысы. Для самараніна яна з'яўляецца магчымасцю канкрэтна ажыццявіць

запаведзь любові да бліжняга праз праяўленне міласэрнасці, а параненаму дае магчымасць асабіста адчуць і зразумець, што такое сапраўдная міласэрнасць.

Хачу адзначыць, што ў патрыстычнай экзэгезе гэтай прыпавесці існуе плынь, якая, напэўна, бярэ пачатак у вучэнні св. Аўгустына, які бачыць у постаці самараніна вобраз самога Езуса. Як Месія, Езус становіцца на бок чалавека, падымае яго пасля ўпадку, лечыць яго раны і ратуе ад вечнай смерці, паміраючы за яго на крыжы. Ідучы шляхам гэтых разважанняў, мы можам разглядаць прыпавесць як ілюстрацыю Божай міласэрнасці, якая сустракае чалавека на звілістых і небяспечных жыццёвых шляхах і вядзе да вечнага збаўлення.

Другім прыкладам выразнага сімвалічнага і глыбока тэалагічнага вобраза паяднання міласэрнасці і дарогі з'яўляецца прыпавесць пра марнатраўнага сына. У гэтым выпадку падарожжа адбываецца ў двух кірунках: спачатку гэта ўцёкі малодшага сына з дому, што з'яўляецца сімвалам непаслухмянасці, бунту і маральнага заняпаду, а пасля — вяртанне дамоў як сімвал навяртання, паяднання і збаўлення.

Прыметнік «марнатраўны», які традыцыйна і не зусім слушна мы адносім толькі да малодшага сына, характарызуе ўсіх трох галоўных герояў прыпавесці: бацька «марнатраўны» ў сваёй міласэрнай любові да абодвух сыноў, малодшы сын «марнатраўны» ў сваім бунце і граху, старэйшы сын «марнатраўны» ў сваёй ганарыстасці і абыякавасці.

Ужо з першых словаў прыпавесці бачна, якую важную ролю адыгрываюць у ёй дзеясловы руху. Малодшы сын, атрымаўшы сваю частку маёмасці, паехаў у далёкі край (у грэцкім арыгінале ён літаральна пакідае свой «*dḗmos*» — сваю тэрыторыю, ваколіцу, вёску, сямейны асяродак).

Падчас побыту ў далёкім краі, пасля кароткага перыяду перажывання ілюзорнай свабоды, ён сутыкаецца з суроваю рэчаіснасцю, прозаю жыцця, і краіна так званай свабоды і шчасця раптам становіцца варожым і небяспечным месцам. Юнак апынаецца ў бядзе, упадку і безнадзейнасці. Гэта тыповы механізм дзеяння граху: тое, што спачатку здаецца «дасканалаю інвестыцыяй», у рэшце рэшт аказваецца поўным банкрутцвам. Цікава, што ў Старым Запавеце грэх часта паказаны з дапамогаю словаў, якія азначаюць блуканне, бадзянне без канкрэтнага кірунку, страту мэты і г.д.

Надыходзіць паваротны момант, і юнак прымае рашэнне: «Устану і пайду да айца майго»; і адразу рэалізуе гэтае рашэнне: «ён устаў і пайшоў». Гэта дарога вяртання пасля доўгага блукання па духоўным бездарожжы і падманных сцежках зла і граху на адзіную правільную дарогу — тую, што вядзе да мэты, якою з'яўляецца дом айца. Хоць арыгінальная мова Евангелля — грэцкая, тут бачны выразны габрэйскі старазапаветны падтэкст: у Старым Запавеце габрэйскі дзеяслоў «*šûḇ*», які літаральна можна перакласці як «вяртацца», таксама азначае «*навяртанне*», як і сёння ў многіх сучасных мовах.

Цяпер як слухачы ці чытачы прыпавесці мы перанясемся ў дом айца і паглядзім, што адбываецца там з «бацькоўскай» перспектывы. Айцец не пагадзіўся з сыходам сына, бацькоўская любоў змушае яго штодня чакаць вяртання сына. І таму, здалёк убачыўшы знаёмы сілуэт, менавіта ён, бацька, праяўляе ініцыятыву: выбягае насустрач, кідаецца сыну на шыю і цалуе яго. Гэтыя паводзіны айца, на першы погляд спантанныя і эмацыйныя, акрэслівае знаёмы нам дзеяслоў «*splanchnídzomai*», глыбокі сэнс і значэнне якога, на жаль, не ў стане перадаць пераклад на сучасныя мовы: прыблізна ён азначае «глыбока ўзрушыцца», «зжаліцца» і г.д. Узрушэнне айца — гэта не толькі эмоцыі, а сапраўдная праява яго міласэрнай любові, якая парадаксальным чынам выразна прыпадабняецца да мацярынскай, цялеснай любові, нібы ўпісваючыся ў прыроду бацькоўства. Прабачаючы сыну, бацька нібы нанова «нараджае» яго, вяртае яму жыццё, як, зрэшты, ён і сам гаворыць: «Гэты сын мой быў мёртвы і ажыў, прапаў і знайшоўся».

Гэтае вымярэнне матчынай міласэрнай любові геніяльна перадаў Рэмбрандт у сваёй знакамітай карціне «Вяртанне марнатраўнага сына». Уважліва прыглядаючыся, можна ўбачыць, што далоні бацькі, якія ляжаць на плячах сына, вельмі адрозніваюцца адна ад адной: першая сапраўды мужчынская, моцная, спрацаваная, а другая нагадвае далікатную жаночую. Іншая асаблівасць карціны, якая прыцягвае ўвагу, — гэта галава сына: яна лысая, як у немаўляці. Трэцяя асаблівасць — гэта размяшчэнне фігураў на палатне. Сын прытуляе галаву да ўлоння бацькі. Гэта сімвалічнае другое нараджэнне сына з улоння бацькі, якое становіцца духоўна «плодным» праз міласэрнасць.

Важна задаць сабе рытарычнае пытанне: ці сапраўды маці марнатраўнага сына, пра якую няма ні слова ў прыпавесці, ад-

сутнічае? Прапаную паразважаць над гэтым пытаннем сам-насам...

Цяпер я абміну другую частку прыпавесці, дзе ў цэнтры ўвагі апынаецца старэйшы сын. Яна таксама вельмі цікавая і сімвалічная, бо і тут істотную ролю адыгрывае рух: дарога з поля дадому, паводзіны сына перад уваходам у дом, выхад бацькі, яго размова з сынам і заканчэнне без развязкі. Няма адказу на пытанне, ці быў старэйшы сын перакананы бацькам, ці ўвайшоў ён у дом або застаўся звонку.

Падсумуем развагі аб прыпавесці пра марнатраўнага сына словамі айцоў Касцёла: «Там, дзе ёсць міласэрнасць, ёсць Бог. Там, дзе пануюць строгасць і суровасць, можа і ёсць слугі Божыя, але самога Бога там няма» (св. Амброзій). «Чым ёсць грэх перад Божай міласэрнасцю? Гэта толькі павуцінне, якому хопіць лёгкага ветрыку, каб паляцець прэч» (св. Ян Хрызастом).

На ўзгаданай карціне Рэмбрандта ў бацькі заплюшчаныя вочы, і гэта нагадвае мне легенду пра аднаго манаха: калі адзін з яго вучняў учыніў цяжкую правіну, але пасля пакаяўся і навярнуўся, астатнія браты супольнасці губляліся ў здагадках пра пакаранне, якое прызначыць яму духоўны кіраўнік. Ішлі дні, месяцы, гады, але кары так і не было. Нарэшце адзін з братоў не вытрымаў і запытаў: «Ойча, ці Бог не даў табе вачэй? Ці ты не бачыў, што зрабіў твой вучань? Чаму ты нічога не робіш?» А манах адказаў: «Пан Бог даў мне не толькі вочы, але і павекі».

На падставе аналізу моўных паняццяў і біблійных тэкстаў я пастараюся сфармуляваць канчатковыя тэзісы, якія могуць стаць штуршком для вашай далейшай асабістай рэфлексіі.

Дзве прыпавесці з Евангелля паводле Лукі, дзе паяднаныя вобразы міласэрнасці і дарогі, можна зразумець як парадыгмы дзвюх праблемных экзістэнцыяльных сітуацый чалавека: сітуацыі цялеснага, бязвіннага няшчасця (прыпавесць пра самараніна) і духоўнага няшчасця з уласнай віны (прыпавесць пра марнатраўнага сына). У пэўным сэнсе да гэтых дзвюх стэрэатыпных сітуацый у розных канфігурацыях, якія тычацца віны суб’екта, можна аднесці ўсе магчымыя пакуты і няшчасці чалавека. Яны заўсёды маюць цялеснае і духоўнае вымярэнне, а часам і абодва адразу, і могуць спараджацца ўласнаю віною або не мець віны.

Лёгка можна прасачыць падабенства гэтых дзвюх прыпавесцяў. І адно, і другое няшчасце, што звальваюцца на чалавека, перашкаджаюць яму дасягнуць мэты: ён альбо вымушаны спыніць падарожжа, альбо трапіць на памылковы шлях. Больш за тое, мы бачым, што чалавек не ў стане выйсці з гэтых сітуацый сам, яму неабходная дапамога. У абодвух выпадках гэтая дапамога прыходзіць дзякуючы міласэрнасці, што з’яўляецца не проста праяваю эмоцый, а каталізатарам, які запускае мноства канкрэтных учынкаў. Абедзве гісторыі заканчваюцца шчасліва, бо міласэрнасць дапамагае чалавеку, якога напаткала няшчасце, зноў знайсці дарогу да мэты.

У абодвух выпадках можна заўважыць пэўную двузначнасць: асоба, якая праяўляе міласэрнасць, мае і чалавечыя, і Боскія рысы. Гэта значыць, што ў прыпавесцях гучыць не толькі запрашэнне быць міласэрнымі ў адносінах з людзьмі, але і даецца ілюстрацыя Божай міласэрнасці ў адносінах да чалавека. Гэтую двузначнасць, якую заўважылі айцы Касцёла, можна пракаментаваць з дапамогаю добра знаёмай цытаты, якая стала дэвізам Юбілейнага Году Міласэрнасці: «Будзьце міласэрнымі, як і Айцец ваш міласэрны» (Лк 6, 36).

Паколькі мы перажываем заканчэнне Надзвычайнага Юбілейнага Году Міласэрнасці, які з’яўляецца заклікам для ўсяго Касцёла яшчэ глыбей «спыніць свой позірк на міласэрнасці» (MV, 3), на падсумаванне я працытую словы папы Францішка з булы *Misericordiae Vultus*, якія абагульняюць нашыя разважанні: «Міласэрнасць — гэта найвышэйшы і канчатковы чын, праз які Бог выходзіць нам насустрач. Міласэрнасць — гэта асноўны закон, які жыве ў сэрцы кожнага чалавека, калі ён глядзіць шчырымі вачыма на свайго брата, якога сустракае на жыццёвым шляху. Міласэрнасць — гэта шлях, які лучыць Бога з чалавекам, бо адкрывае сэрца на надзею, што мы будзем умілаваныя назаўсёды, нягледзячы на недасканаласць, якой ёсць грэх» (MV, 2).

*Біскуп Алег Буткевіч,*
*ардынарый Віцебскай дыяцэзіі.*



Тэрэза Сатоўска

# Яна была дарам для Касцёла і свету

*4 верасня адбылася кананізацыя благаслаўлёнай маці Тэрэзы з Калькуты — заснавальніцы Кангрэгацыі Місіянерак Любові, «Анёла ўбогіх і паміраючых». Яна вярнула надзею многім людзям, якія яе ўжо не мелі.*

«Яна была дарам для Касцёла і свету», — казаў пра яе Ян Павел II падчас урачыстасці беатыфікацыі ў Рыме.

Благаслаўлёная маці Тэрэза, вядомая ў Індыі як «Анёл убогіх», памерла 5 верасня 1997 г. у Калькуце. Ян Павел II абвясціў яе благаслаўлёнаю 19 кастрычніка 2003 года. Беатыфікацыйны працэс маці Тэрэзы быў найкарацейшым у сучаснай гісторыі Касцёла.

«Памерлым з'яўляецца толькі той, хто забыты», — можна часам прачытаць у некралогах. Калі так, то маці Тэрэза з Калькуты — Анёл паміраючых — сёння гэтаксама прысутнічае ў свеце, як пры жыцці. Яна заўсёды застаецца ў жывой памяці свету, і нікому не трэба нагадваць пра тое, кім была гэтая сціплая жанчына ў белым сары з блакітнымі палоскамі, з усмешкаю, якая ніколі не сыходзіла з яе ўсыпанага маршчынкамі твару.

Агнэс Гонджа Баяджыў нарадзілася 26 жніўня 1910 г. у горадзе Скоп'е ў албанскай каталіцкай сям'і. Назаўтра яе ахрысцілі, і гэты дзень яна пазней святкавала як дзень свайго нараджэння. У 18 гадоў Агнэс уступіла ў ірландскую супольнасць ларэтанак. Пасля кароткага побыту ў Ірландыі яна выехала на місію ў «новую айчыну — легендарную Індыю». Пастулат і навіцыят праходзіла ў Дарджылінгу, у штаце Заходняя Бенгалія ў Гімалаях. Падчас першых манаскіх абяцанняў 23 мая 1929 г. прыняла імя Марыя Тэрэза ад Маленькага Езуса. У Калькуце 24 мая 1937 г. склала вечныя манаскія абяцанні.

Большасць часу Марыя Тэрэза працавала настаўніцаю, а пазней стала дырэктарам элітнай школы для дзяўчат. Усяго ў ларэтанак яна пражыла 20 гадоў.

### Уласны шлях

Прагнучы бязмежна аддацца ўбогім, у 1948 г. Марыя Тэрэза прыняла важнае рашэнне аб заснаванні ўласнай манаскай супольнасці. Яна тлумачыла гэта простымі словамі: «Бог мяне паклікаў». Кангрэгацыя Сясцёр Місіянерак Любові была зацверджаная Апостальскаю Сталіцаю праз два гады, 7 кастрычніка 1950 г., у дзень Маці Божай Ружанцовай. Маці Тэрэза хацела быць беднаю разам з беднымі, каб лепш іх разумець. Яна пасялілася ў адным з бедных раёнаў Калькуты. Хутка знайшла дзяўчат, ахвотных да супрацоўніцтва. Дом на вуліцы *Lower Circular Road*, 54, са сціплаю, цяпер ужо заіржавелаю шыльдаю «Missionaries of Charity», хутка стаў «апошняю дошкаю ратунку» для тых, хто быў пазбаўлены ўсялякай апекі.

Згодна з воляю заснавальніцы, місіянеркі любові, апрача манаскіх абяцанняў убоства, чыстасці і паслухмянасці, абавязваюцца таксама служыць найбяднейшым з бедных. Мэта кангрэгацыі — дапамога ўбогім, бяздомным і хворым, у тым ліку заражаным ВІЧ і вязням.

Паміраючым беднякам сёстры забяспечваюць апеку і ўмовы годнай смерці. Яны таксама апякуюцца дзецьмі, даючы ім магчымасць вучыцца ў школах і жыць у дзіцячых дамах. Манаскім адзеннем сясцёр з'яўляецца белае сары з трыма блакітнымі палоскамі — такое, як у Індыі носяць бедныя жанчыны. Гэтае ўбранне дапамагае ім атаясамлівацца з церпячымі.

Маці Тэрэза заснавала таксама некалькі супольнасцяў у межах адной манаскай сям'і: дзейную (1963) і кантэмпляцыйную (1979) мужчынскую Кангрэгацыю Братоў Місіянераў Любові, кантэмпляцыйную супольнасць Місіянерак Любові (1976) і святарскую супольнасць Айцоў Місіянераў Любові (1984); у многіх краінах свету дзейнічае рух *Corpus Christi* для святароў і Міжнароднае таварыства супрацоўнікаў маці Тэрэзы.

Ідэя манаскай сям'і маці Тэрэзы ў тэалагічным сэнсе абапіраецца на агульную місію Езуса, якога Айцец паслаў на зямлю, каб збавіць усіх людзей. Знакам гэтай духоўнай сям'і з'яўляецца выява ўкрыжаванага Хрыста з прамоўленым Ім на крыжы словам: «Прагну!».

**Індыя — другая айчына**

«У мяне індыйскае грамадзянства. Я — манашка. Паводле паклікання належу ўсяму свету. Але маё сэрца цалкам аддадзенае Езусу. Усё, што я раблю, я раблю для Езуса», — сказала маці Тэрэза ў адным з інтэрв'ю. Яна прызналася, што Індыя стала для яе другой айчынаю, яна палюбіла яе, асабліва Калькуту, якая з'яўляецца «душою і адначасова кашмарам Індыі», бо менавіта тут было найбольш хворых і прыніжаных, а значыць тых, хто нагадваў церпячага Хрыста. Не могучы ўладкавацца на пастаянную працу і не маючы даху над галавою, беднякі жылі на вуліцах і там жа паміралі, пакінутыя на волю лёсу. Мала ў якім месцы на свеце так моцна была патрэбная маці Тэрэза, як у Калькуце. Яна штодзённа хадзіла па вуліцах, дзе на голай зямлі ляжалі калекі, пракажоныя, паміраючыя ад голаду.

Кожны дзень прыносіў маці Тэрэзе драматычны вопыт. У 1952 г. яна заснавала ў Калькуце Дом чыстага сэрца — *Nirmal Hriday*. Апрача лекаў, давала хворым і паміраючым тое, што для іх межавала амаль з цудам і чаго ім найбольш не хапала, — сваю мацярынскую, чалавечую любоў. Сярод убоства Калькуты яна заўсёды паўтарала: не дазволь, каб той, каго ты сустрэнеш, не быў задаволены пасля сустрэчы з табою!

Падапечных — хворых і паміраючых — сёстры знаходзілі на вуліцах горада. У 1980 г., амаль праз 30 гадоў існавання дому, падагульняючы гіганцкую працу сваіх сясцёр, маці Тэрэза сказала, што толькі ў адной Калькуце яны сабралі з вуліцаў больш за 40 тысяч хворых, а 18 тысяч чалавек памерлі на іх руках. На школьнай дошцы, якая вісіць у доме для паміраючых у Калайэт, адзначаецца штодзённы «баланс». 4 лютага 1986 г. перад гэтаю дошкаю затрымаўся Ян Павел II. Глыбока ўзрушаны, ён прачытаў сухую інфармацыю: «3 лютага 1986: прыбылі 2 чалавекі, выйшлі — 0, памерлі — 4».

**«Мая таямніца — гэта Езус»**

У 1955 г. у Калькуце быў заснаваны Дом пакінутага дзіцяці. Цяпер у Індыі і за яе межамі ў дамах апекі сясцёр жыве і вучыцца больш за 80 тысяч пакінутых, адпрэчаных і паміраючых дзяцей. Сёстры знаходзілі іх на сметніках, на вуліцы. Сярод іх былі дзеці хворыя і сляпыя. Дзякуючы маці Тэрэзе многіх з іх удалося выратаваць, часта іх таксама ўсынаўлялі сем'і з розных краінаў свету.

З 1957 г. місіянеркі любові дапамагаюць пракажоным. У 1961 г. маці Тэрэза заснавала для іх пасёлак Шанці Нагар («Месца спакою»). На скарбонках для збору сродкаў дзеля гэтай мэты яна змясціла надпіс: «Дакраніся да пракажонага сваім сэрцам». У яе вачах пакінутасць гэтых людзей грамадствам і пазбаўленне іх магчымасці годнага жыцця было большым няшчасцем, чым сама хвароба. Пракажоныя пад кіраўніцтвам сясцёр навучыліся выконваць простую працу, зарабляючы такім чынам на ўласнае ўтрыманне. Яны перасталі быць «адкідамі» грамадства і адчулі сябе патрэбнымі іншым.

«Найбольшая хвароба свету — гэта не прaказа і не рак. Гэта адзінота, усведамленне, што ты пакінуты і забыты ўсімі людзьмі», — сцвярджала маці Тэрэза. Яна падкрэслівала, што «людзі, якія не спазнаюць радасці і любові, якім не хапае нармальных людскіх адносінаў, церпяць найбольш трагічна, і іх колькасць пастаянна ўзрастае».

У 1985 г. у ЗША узнік першы прытулак для хворых на СНІД. «Спадзяюся, што гэтыя людзі будуць жыць і паміраць у супакоі дзякуючы дапамозе і апецы нашых сясцёр, а таксама іншых людзей», — сказала маці Тэрэза падчас адкрыцця гэтага прытулка, прымаючы першых 15 пацыентаў. Цяпер дамы для хворых на СНІД існуюць ужо ў некалькіх іншых краінах.

«Я ўсведамляю, што мы — маленькая кропля ў вялікім акіяне беднасці і цярпення, але калі б не было гэтай кроплі, то людскія пакуты і ўбоства былі б яшчэ большыя», — сказала маці Тэрэза пра сваю працу і служэнне місіянерак любові.

**Шанаваная ва ўсім свеце**

Напэўна, ніводны іншы чалавек, акрамя Яна Паўла II,

не змог такім яўным чынам паказаць маладым людзям, як належыць выконваць хрысціянскую запаведзь любові да «найменшых братоў». У апытанні пра тое, хто ў наш час з'яўляецца самым яскравым прыкладам для наследавання, моладзь найчасцей згадвала заснавальніцу Кангрэгацыі Сясцёр Місіянерак Любові.

Маці Тэрэза падтрымлівала кантакты з кіраўнікамі дзяржаваў, багатымі і папулярнымі людзьмі, часта вярталася пасля размоваў з імі ўжо з чэкамі на значныя сумы або з абяцаннем, што гэтыя людзі дапамогуць у дзейнасці сясцёр. У галаве яна заўсёды мела чарговыя праекты дапамогі найбяднейшым і з усіх сілаў старалася іх рэалізаваць.

Калі ў 1979 г. маці Тэрэза атрымлівала ў Осла Нобелеўскую прэмію міру, яна падзякавала коратка: «Гэта дапаможа бедным». Яна ўжо планавала, што прэміяльных грошай хопіць на пабудову 200 новых дамоў для яе падапечных. Разам з тым маці Тэрэза ветліва адмовілася ўдзельнічаць ва ўрачыстым абедзе ў яе гонар, сказаўшы, што не можа гэтага сабе дазволіць, бо многія людзі ў гэты час церпяць голад і паміраюць. Урэшце, грошы, прызначаныя на банкет, уручылі маці Тэрэзе як дар для найбяднейшых.

Добра вядомая таксама яе непрымірымая пазіцыя ў справе абароны жыцця. У 1994 г., апынуўшыся ў Кангрэсе Злучаных Штатаў, яна змагла сказаць у прысутнасці прэзідэнта Біла Клінтана, адкрытага прыхільніка абортаў, што «кожны чалавек, які адабрае аборт, вучыць людзей не любові, а насіллю для таго, каб дасягнуць пастаўленай мэты». «Калі закон дазваляе забіваць дзяцей, што ж перашкаджае таму, каб мы пазабівалі адзін аднаго?», — запыталася маці Тэрэза. Яна



лічыла, што аборт — найбольшая пагроза для міру. «Калі знішчаецца жыццё, якое паходзіць ад Бога, калі маці становіцца забойцаю ўласных дзяцей, то што гаварыць пра іншыя забойствы і войны?» — задавала яна рытарычнае пытанне.

Калі ў маці Тэрэзы спыталі, як ёй удаецца так шмат усяго і так добра зрабіць, яна адказала: «Мая таямніца — гэта Езус, Яго вялікая любоў да нас, людзей, малітва, медытацыя, штодзённая гадзінная адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту, манаскія абяцанні. Дэвізам майго жыцця з'яўляюцца словы: „Усё для Езуса, усё для Езуса праз Марыю!“».

«Дзе маці Тэрэза знаходзіла сілу і моц, каб так ахвярна і дарэшты аддацца служэнню іншым?» — задумваўся падчас беатыфікацыйных урачыстасцяў Ян Павел II. І адказваў: «Яна знаходзіла іх у малітве і ў ціхай кантэмпляцыі Езуса Хрыста, Яго аблічча, Яго Найсвяцейшага Сэрца. Яна сама прывыкла казаць: „Плёнам цішыні з'яўляецца малітва; плёнам малітвы — вера; плёнам веры — любоў; плёнам любові — служэнне; плёнам служэння — супакой“». Супакой, нават у хвіліну смерці, нават сярод народаў, якія вядуць вайну, нават перад абліччам атакаў і несправядлівай крытыкі. Гэта была малітва, якая напаўняла яе сэрца Хрыстовым супакоем і вучыла выпраменьваць яго для іншых».

**Сустрэчы з Папамі**

Справа маці Тэрэзы знаходзіла вялікае прызнанне ў вачах Папаў. Пій XII дазволіў ёй у 1950 г. заснаваць Кангрэгацыю Місіянерак Любові, якая ў 1965 г. набыла статус супольнасці на папскіх правах. Павел VI падчас візіту ў Індыю ў 1964 г. падарыў ёй свой аўтамабіль — прыгожы лімузін, атрыманы ў дар ад аднаго з амерыканскіх універсітэтаў. Гэтая машына стала «гульнёю» вялікай латарэі, прыбытак ад якой паспрыяў будоўлі паселішча Шанці Нагар; ад гэтага ж Папы маці Тэрэза атрымала ў 1967 г. прэмію міру імя Яна XXIII. Павел VI прапанаваў ёй таксама ў 1968 г. адкрыць дом у Рыме і аплаціў ёй білет на самалёт з Калькуты ў Рым і назад.

Вельмі шчырыя стасункі ядналі маці Тэрэзу з Янам Паўлам II. Калі пасля атрымання Нобелеўскай прэміі міру ў 1979 г. яна вырашыла цалкам аддаліцца ад грамадскага жыцця і вярнуцца да працы сярод пракажоных, Папа не выказаў на гэта згоды. Ён папрасіў, каб яна сведчыла пра Хрыста ва ўсім свеце як «прыклад жывога Евангелля і сапраўдная сведка жыцця, прысвечанага Богу і церпячым людзям». У 1980 г. Ян Павел II запрасіў маці Тэрэзу да ўдзелу ў Сінодзе Біскупаў па праблемах сям'і ў сучасным свеце. У сказанай там прамове яна нагадала, што «сучаснаму свету і ўсім нам патрэбныя святыя святары».

Падчас душпастырскага візіту ў Індыю (з 31 студзеня да 11 лютага 1986 г.) Ян Павел II наведаў

Калькуту і дом для паміраючых, сустрэўся з маці Тэрэзаю і яе сёстрамі. У 1989 г. ён падарыў місіянеркам любові дом для бедных і бяздомных, які знаходзіцца побач з Залаю аўдыенцый Паўла VI у Ватыкане. У красавіку 1993 г., падчас аднадзённага візіту ў Албанію, ён наведаў горад Шкодэр. У прамове пасля святой Імшы ён прывітаў маці Тэрэзу і публічна падзякаваў ёй ад імя Каталіцкага Касцёла за адданае жыццё і справы хрысціянскай любові, нагадаў жыхарам гэтай краіны, што «нават у часы поўнай ізаляцыі гэтая сціплая манашка, пакорная слуга найбяднейшых, праслаўляла на ўвесь свет імя сваёй айчыны». Маці Тэрэза была таксама ганаровым госцем урачыстасцяў у Ватыкане падчас заканчэння Міжнароднага году сям'і ў 1994 годзе.



**Засталася жывая памяць у справах**

Паўсюль вядомая як «Анёл убогіх і паміраючых», лаўрэатка Нобелеўскай прэміі міру заўсёды пазбягала адказаў на пытанні, якія датычыліся яе жыцця і паходжання. «Я нішто. Няма чаго пра мяне пісаць. Я толькі прылада ў руках Бога, і таму гаварыць трэба не пра мяне, а пра справу, да якой мяне паклікаў Бог», — казала маці Тэрэза.

Яна часта пакутавала ад малярыі і лячылася ў шпіталях (заўсёды неахвотна). Памерла 5 верасня 1997 г., пахаваная ў сваім родным доме місіянерак любові ў Калькуце. У вечнасць адышоў незвычайны чалавек, і ў гэтым былі перакананыя ўсе, у тым ліку нехрысціяне і няверуючыя.

Улады Індыі наладзілі пахаванне манашкі з усімі ўшанаваннямі, якія належаць толькі кіраўніку дзяржавы. Труну з яе целам везлі на тым самым гарматным лафеце, на якім везлі двух вялікіх людзей Індыі: Махатму Гандзі і Джавахарлала Нэру. «Памяць пра маці Тэрэзу з Калькуты жывая ў сэрцы кожнага з нас, ва ўсім Касцёле і свеце. Якая ж цудоўная справа, здзейсненая гэтаю маленькаю жанчынаю са сціплай сям'і дзякуючы сіле веры ў Бога і любові да бліжняга!» — сказаў Ян Павел II у першую гадавіну яе смерці.

«Не забывайма вялікага прыкладу, які яна нам дала, і не абмяжоўваймася ўспамінамі пра яе толькі на словах! Давайце заўсёды з адвагаю ставіць на першае месца чалавека і яго асноўныя правы», — заклікаў Святы Айцец.

Ужо пры жыцці гэтую вялікую жанчыну лічылі святою. Яе родная Албанія абвясціла дзень 19 кастрычніка, у які была беатыфікаваная маці Тэрэза, нацыянальным святам. У Калькуце адкрыты помнік маці Тэрэзе, а адна з вуліцаў гэтай шматмільённай мітраполіі атрымала яе імя.

**«Маці Тэрэза ёсць»**

«Маці Тэрэза ёсць» — такі надпіс зроблены на драўлянай шыльдачцы каля дзвярэй дома на вуліцы Lower Circular Road, 54 у Калькуце. «Маці Тэрэза заўсёды з намі, яна моліцца за нас, а яе сіла ў небе яшчэ большая, чым пры жыцці», — сказала яе наступніца і выхаванка сястра Нірмала (зрэшты, у знак павагі да сваёй папярэдніцы яна адмовілася ад наймення «маці», сцвярджаючы, што гэты тытул належыць толькі заснавальніцы кангрэгацыі). У капліцы, у тым месцы, якое звычайна займала маці Тэрэза, устаноўлена яе маленькая мармуровая статуэтка. Да магілы заснавальніцы Кангрэгацыі Місіянерак Любові прыходзяць натоўпы пілігрымаў з усяго свету. Хоць маці Тэрэзы няма ўжо 19 гадоў, яе дух і харызма заўсёды жывыя ў справах, якія працягваюць сёстры з кангрэгацыі. Тое, што для сясцёр маці Тэрэза заўсёды жывая, пацвярджаў і арцыбіскуп Калькуты на пенсіі Генры Д'Соўза, дадаўшы, што яна стала «часткаю гісторыі чалавецтва».

*Пераклала з польскай мовы Ганна Шаўчэнка.*
*Паводле: niedziela.pl*

# У міласэрнасці няма альтэрнатывы

## Урывак з гаміліі Святога Айца Францішка, прамоўленай на святой Імшы кананізацыі благаслаўлёнай маці Тэрэзы з Калькуты



<...> Богу даспадобы кожны ўчынак міласэрнасці, бо, дапамагаючы брату, мы пачынаем бачыць у ім аблічча Божае, якога ніхто не можа ўбачыць (гл. Ян 1, 18). І кожны раз, схіляючыся да патрэбаў нашых братоў, мы становімся тымі, хто накарміў і напаіў Езуса, апрануў, падтрымаў і наведаў Божага Сына (гл. Мц 25, 40). Карацей, мы становімся тымі, хто дакрануўся да цела Хрыстовага. <...>

І кожны з нас можа сказаць: «Гэтак жа, як Пан выйшаў мне насустрач і схіліўся нада мною ў хвіліну патрэбы, і я выходжу насустрач Яму і схіляюся над тымі, хто страціў веру або жыве так, быццам Бога няма, над моладдзю без каштоўнасцяў і ідэалаў, над сем'ямі, што перажываюць крызіс, над хворымі і вязнямі, над бежанцамі і імігрантамі, над слабымі і безабароннымі целам і душою, над падлеткамі, пакінутымі самім сабе, гэтак жа, як і над старымі, якія засталіся ў адзіноце. Паўсюль там, дзе працягваецца рука і чалавек просіць дапамогі, каб падняцца на ногі, павінны з'явіцца мы і Касцёл, які падтрымлівае і дарыць надзею». Трэба рабіць гэта, заўсёды памятаючы пра тое, як Пан працягнуў мне сваю руку, калі я ляжаў на зямлі.

Маці Тэрэза ўсё сваё жыццё шчодра раздавала Божую міласэрнасць, заўсёды аддавала сябе ў распараджэнне іншым, прымаючы і абараняючы чалавечае жыццё, і ненароджанае, і забытае, і адкінутае. Яна абараняла жыццё, няспынна абвяшчаючы, што «той, хто яшчэ не нарадзіўся, з'яўляецца самым слабым, самым малым, самым мізэрным». Яна схілялася над знямоглымі людзьмі, над тымі, каго пакінулі паміраць пры дарозе, прызнаючы годнасць, якою Бог адарыў іх; яна прымусіла моцных гэтага свету пачуць яе голас, каб яны прызналі сваю віну перад злачынствамі — перад злачынствамі! — беднасці, якую яны самі стварылі. Міласэрнасць стала для яе «соллю», што давала смак кожнаму яе ўчынку, і «святлом», якое раз'ясняла змрок тых, у каго нават слёз не было, каб аплакаць сваё ўбоства і пакуты.

Місія, якую яна здзяйсняла на ўскраінах гарадоў і на ўскраінах быцця, застаецца ў нашыя дні красамоўным сведчаннем таго, што Бог блізкі да самых убогіх сярод убогіх. Сёння я перадаю гэтую сімвалічную постаць жанчыны і манашкі ўсяму свету валанцёраў: няхай яна будзе для вас узорам святасці! Я думаю, што, магчыма, нам будзе складана называць яе «святая Тэрэза»: яе святасць настолькі блізкая нам, настолькі пяшчотная і плённая, што мы мімволі працягваем казаць «маці Тэрэза». Няхай гэтая нястомная працаўніца на ніве міласэрнасці дапамагае нам усё лепш разумець, што адзіным крытэрыем нашых учынкаў з'яўляецца бескарыслівая любоў, свабодная ад усялякай ідэалогіі і ўсялякіх абмежаванняў і скіраваная да ўсіх, незалежна ад мовы, культуры, расы або рэлігіі. Маці Тэрэза любіла казаць: «Магчыма, я не размаўляю на іх мове, але я магу ўсміхацца». Будзем жа несці ў сэрцах яе ўсмешку і адорваць ёю тых, каго сустракаем на сваім шляху, асабліва тых, хто церпіць пакуты. Гэтак мы адкрыем далягляды радасці і надзеі для вялікага мноства людзей, якія расчараваліся і якім неабходныя разуменне і пяшчота.

*Пераклад з італьянскай мовы Юліі Шэдзько.*
*Паводле матэрыялаў сайта https://w2.vatican.va*

*З дазволу рэдакцыі інтэрнэт-партала «Милосердие. Ru» мы з невялікім скарачэннем друкуем інтэрв'ю з прэс-сакратаром рыма-каталіцкай архідыяцэзіі Маці Божай з цэнтрам у Маскве, ксяндзом Кірылам Гарбуновым, які разважае пра кананізацыю нашай сучасніцы маці Тэрэзы з Калькуты, што адбылася 4 верасня 2016 года ў Ватыкане.*




# СВЯТЫ — НЕ ВЫДАТНІК У БОГА

*Калі папа Францішак абвясціў кананізацыю маці Тэрэзы, гэта актуалізавала крытыку, якую і раней выказвалі ў адрас маці Тэрэзы як «дрэннай дабрачынцы», і выклікала шэраг пытанняў: ці можна назваць чалавека святым, калі ў яго працы так шмат «недахопаў»?*

— *Ці разглядалася ў працэсе кананізацыі маці Тэрэзы тая крытыка, што гучала ў яе адрас пры жыцці і працягвае гучаць пасля смерці?*

— Безумоўна, разглядалася. У Каталіцкім Касцёле сам працэс кананізацыі з'яўляецца адною з формаў судовага працэсу ў касцёльным судзе: «слухаецца справа аб святасці і гераічных цнотах асобы». Пракурор, або, кажучы на мове Касцёла, абаронца справядлівасці, збірае і прадстаўляе суду ўсю інфармацыю пра вызначаную кандыдатуру. Пасля інфармацыю правярае камісія багасловаў і медыцынская камісія, калі гаворка ідзе пра цуд, а абаронца справядлівасці сочыць, каб усе «за» і «супраць» былі разгледжаныя. Вядома, падчас працэсу кананізацыі маці Тэрэзы сведкамі выступалі і працаўнікі яе праслаўлення ў якасці святой.

Як і ў кожным іншым судовым працэсе, у касцёльным судзе ўсе ўдзельнікі прысягаюць не распаўсюджваць інфармацыю. Змест працэсу з'яўляецца таемным. Публікуецца толькі выніковы дакумент. Такая строгая форма працэсу кананізацыі склалася даўно і цяпер таксама лічыцца неабходнаю. Трэба сказаць, што ў рымскай Кангрэгацыі па кананізацыі святых набралася шмат справаў, у якіх занадта многа сведчанняў таго, што пэўны чалавек, хоць і меў несумненна глыбокую веру, але адначасова меў праблемы ў сферы маралі або ёсць іншыя перашкоды, якія не дазваляюць прызнаць святасць яго асобы і зрабіць яе прыкладам наследавання для ўсяго Касцёла.

Таму ўся крытычная інфармацыя, што тычылася розных бакоў жыцця маці Тэрэзы, была рупліва сабраная, разгледжаная і прааналізаваная. Пры гэтым, зразумела, як і ў кожным іншым судзе, публікацыі ў часопісах і газетах, ні станоўчыя, ні адмоўныя, не могуць лічыцца падставаю для вынясення прысуду. Што датычыць крытыкі ў адрас маці Тэрэзы такіх людзей, як Хітчэнс*, гэта перш за ўсё крытыка светапоглядаў. Нягледзячы на шэраг абвінавачанняў, якія ён выказаў наконт дзейнасці маці Тэрэзы, ён, па сутнасці, проста крытыкаваў хрысціянства. Яго задачаю было дыскрэдытаваць рэлігію. Гэта мэта яго жыцця і ўсёй яго дзейнасці.

Пра многае сведчыць і тое, што, нягледзячы на мноства крытыкі, ніхто не падаваў у суд на маці Тэрэзу, напрыклад, за «фінансавыя махінацыі». Я лічу, што для саміх абвінаваўцаў была відавочная бесперспектыўнасць такога кроку. Падобная крытыка з пазіцыі Касцёла з'яўляецца неканструктыўнаю, і адказам Касцёла на яе стала кананізацыя маці Тэрэзы, якая адбылася 4 верасня 2016 года.



*— Адно з абвінавачанняў, якое выглядае сур'ёзным, гэта непразрыстасць дабрачыннай дзейнасці маці Тэрэзы. Нямецкі часопіс «Stern» прыводзіць канкрэтныя лічбы: толькі 7% сваіх ахвяраванняў Кангрэгацыя місіянераў міласэрнасці выдаткоўвала на дабрачынныя мэты.*

*Паводле этыкі і практыкі міжнароднага фандрайзінгу, пры атрыманні ўсялякага віду ахвяраванняў неабходная справаздача пра тое, як і на што было выдаткаванае ахвяраванне. Але каб гаварыць на гэтую тэму, спачатку трэба зразумець, у якіх юрыдычных рэаліях дзейнічала маці Тэрэза. Якім законам яна падпарадкоўвалася?*

— Перш за ўсё трэба нагадаць пра адрозненне ахвяраванняў рэлігійнай арганізацыі (якою і з'яўляецца Кангрэгацыя місіянераў міласэрнасці маці Тэрэзы) ад спонсарскай і дабрачыннай дапамогі. Адпаведна заканадаўству большасці краінаў свету, ахвяраванні з'яўляюцца формаю «падарункаў», якія робяцца з «агульнакарыснымі», гэта значыць не з вузка вызначанымі, а з больш шырокімі мэтамі.

У выпадку рэлігійнай арганізацыі — гэта яе дзейнасць адпаведна са статутам, у якую ўваходзіць не толькі дапамога бедным у літаральным сэнсе слова, але і будаўніцтва кляштараў, адукацыя сясцёр, набажэнствы і іншыя справы, патрэбныя для забеспячэння жыцця і дзейнасці супольнасці, якія, у сваю чаргу, даюць магчымасць дапамагаць бедным. Аднак мне цалкам незразумела, да якіх крыніцаў інфармацыі звяртаецца «*Stern*», кажучы, што на дапамогу бедным выдаткоўвалася не больш за 7% сродкаў. Адкуль у іх гэтыя дадзеныя?

Манаскія супольнасці ў Каталіцкім Касцёле, у адрозненне ад Праваслаўнай Царквы, маюць вельмі вялікую аўтаномію. Манаская кангрэгацыя — гэта самастойная юрыдычная арганізацыя. У большасці выпадкаў яна юрыдычна незалежная ад біскупа, нават калі знаходзіцца ў яго дыяцэзіі. Кангрэгацыя, напрыклад, можа перадаваць біскупу ахвяраванні, але ніякіх фінансавых абавязкаў у адносінах да біскупа не нясе.

І наадварот: калі маці Тэрэза вырашыла стварыць уласную кангрэгацыю, зусім новую ў Касцёле, яна атрымала дазвол ад біскупа, але не атрымала ніякіх грошай ад Касцёла. Яна сама павінна была паклапаціцца пра тое, адкуль узяць сродкі.

Кангрэгацыя абавязкова робіць дакладныя справаздачы за прынятыя ахвяраванні, але гэтыя справаздачы застаюцца ўнутры кангрэгацыі, у настаяцеля супольнасці. Зразумела, што кожны манаскі інстытут падпарадкаваны Апостальскаму Пасаду, і ён можа папрасіць ад яго справаздачы ў кіраванні маёмасцю.

Маці Тэрэза як настаяцелька кангрэгацыі дзейнічала ў межах агульнапрынятай Касцёлам практыкі, гэта значыць — была аўтаномнаю ў сваёй фінансавай дзейнасці. Безумоўна, усе католікі закліканыя рабіць ахвяраванні на дзейнасць Касцёла, і ў прыватнасці Святога Пасаду, і робяць гэта і непасрэдна, і, часцей за ўсё, праз свае парафіі і дыяцэзіі. Ёсць пэўныя дні на працягу літургічнага году, калі збіраюцца ахвяраванні на дабрачынную дзейнасць Святога Пасаду, і ніякага тарыфу на гэтыя ахвяраванні няма, кожны можа ахвяраваць столькі, колькі лічыць патрэбным. Вядома, што маці Тэрэза перадавала вялікія сумы з атрыманых ахвяраванняў для Папы на яго дабрачынную дзейнасць. Нехта можа падумаць, што калі перадаць грошы Папе, ён набудзе для сябе пару чырвоных чаравікаў і новую сутану, але Папа Рымскі — самы вялікі дабрачынца Каталіцкага Касцёла, ён вядзе мноства праектаў.

Зразумела, што фінансавая сістэма, якая існуе ў Каталіцкім Касцёле сёння, недасканалая. Гэтую сітуацыю імкнуўся змяніць яшчэ папа Бэнэдыкт XVI, і цяпер папа Францішак прыкладае вялікія высілкі, каб выправіць фінансавыя злоўжыванні, якія здараліся ў некаторых касцёльных арганізацыях.

*— Вядома, што маці Тэрэза прымала ахвяраванні з «сумніўных крыніцаў», гэта значыць, ад людзей з непрыхавана нядобрай рэпутацыяй. Тут яна таксама была аўтаномная ў дзеяннях?*

— Перадусім трэба адзначыць, што ў Каталіцкім Касцёле не прынята і ніколі не было прынята, прымаючы ахвяраванні, патрабаваць дакументы,

якія тлумачаць паходжанне грашовых сродкаў. Святар — не суддзя, які вырашае, хто годны, а хто нягодны таго, каб Касцёл прыняў ад яго грошы.

У Каталіцкім Касцёле ёсць дзве агульнапрынятыя практыкі ў адносінах да грошай, якія бяруцца з «сумніўных крыніцаў». Адну можна акрэсліць такім чынам: «Гэтыя грошы служылі д'яблу, цяпер няхай паслужаць Богу». Гэтак адказаў адзін святар свайму парафіяніну, які папракнуў яго тым, што падрэ бярэ грошы ў мафіёзі. Іншае стаўленне да «сумніўных грошай» выказаў папа Францішак: «Касцёлу не патрэбныя вашы брудныя грошы». Для папы Францішка важна, каб людзі не думалі, што, ахвяраваўшы нейкія сумы, яны здабудуць сабе «адпушчэнне грахоў». Але крытыка папы Францішка скіраваная не супраць людзей, якія бяруць ахвяраванні, а супраць тых, хто дае іх з нячыстым сэрцам і лічыць, што Бог цяпер усміхаецца ім, нягледзячы на тое зло, якое яны ўчынілі.

Для маці Тэрэзы фандрайзінг сам па сабе, вядома, ніколі не быў галоўнаю задачаю. Галоўным было звярнуць увагу багатых на бедных, моцных — на слабых. Галоўнае, што чалавек заўсёды можа дапамагчы іншаму чалавеку.

*— З ахвяраваннямі і іх укладаннем звязаны яшчэ адзін крытычны момант: узровень медыцынскай дапамогі, якую аказвалі ў дамах і хоспісах маці Тэрэзы. Эксперты медыкі з вядучага часопіса «Lancet» (1996) ацанілі яго як абмежаваны. Маці Тэрэзу крытыкуюць за тое, што, маючы сродкі, яна магла б аказваць самыя сучасныя медыцынскія паслугі бедным, але чамусьці не рабіла гэтага.*

— Я хацеў бы падкрэсліць, што місіянеры міласэрнасці — гэта манаская кангрэгацыя, а не



дабрачынная арганізацыя і не медыцынская ўстанова. Мэтаю і сутнасцю дзейнасці гэтай кангрэгацыі з'яўляецца служэнне Богу. Формаю гэтага служэння з'яўляецца дапамога найбяднейшым з бедных, дапамога тым, хто памірае, а не лячэнне хворых. Маці Тэрэза дапамагала тым, хто не меў дапамогі і не спадзяваўся атрымаць хоць якую дапамогу наогул.

Для даведкі: Каталіцкі Касцёл з'яўляецца найбуйнейшым у свеце даўцам медыцынскіх паслугаў. Больш за 25 % усіх медыцынскіх установаў у свеце так ці інакш знаходзяцца пад апекаю Каталіцкага Касцёла. Але маці Тэрэза стварала сваю кангрэгацыю не для таго, каб аказваць медыцынскія паслугі або ствараць сваю сістэму аховы здароўя. Яна жадала, каб людзі, якія паміраюць на вуліцы, маглі памерці па-чалавечы ў атачэнні тых, хто пра іх клапоціцца. Апроч гэтага, маці Тэрэза як настаяцелька павінна была клапаціцца пра сваіх сясцёр, не толькі пра іх працу з беднымі, але і пра іх саміх, пра іх малітоўнае жыццё, без якога аніякай «працы» проста не было б.

Чамусьці людзі забываюцца пра тое, што сёстры маці Тэрэзы — гэта манаская кангрэгацыя, кляштар са сваім ладам жыцця, распарадкам, касцёльнымі службамі, унутранымі праблемамі, а не дабрачынны фонд, куды людзі прыходзяць працаваць і мусяць у свае працоўныя гадзіны выконваць пэўныя службовыя абавязкі.

Дзейнасць сясцёр маці Тэрэзы — гэта перадусім плён іх малітоўнага жыцця, іх адносінаў з Богам. Зразумела, што ў розныя часы ў розных краінах сітуацыя з дапамогаю бедным не аднолькавая. Яна вельмі залежыць ад агульнага ўзроўню жыцця. <...> Але, паўтару, медыцынскія паслугі — зусім не галоўная задача для сясцёр маці Тэрэзы. Галоўная — даць чалавеку, які пакутуе, адчуць каштоўнасць уласнага жыцця, зразумець сэнсоўнасць сваіх пакутаў і атрымаць суцяшэнне.

Таму ацэнку дзейнасці сясцёр маці Тэрэзы выключна з пазіцыі медыцыны даводзіцца прызнаць некарэктнаю. Я таксама лічу, што калі б маці Тэрэза раптам паставіла перад сабою мэту пабудаваць сетку шпіталяў з сучасным медыцынскім абсталяваннем і паслала б сваіх сясцёр вучыцца на дактароў, як часам прапаноўвалі ёй дзеля паляпшэння «эфектыўнасці», то гэтыя цудоўныя шпіталі вельмі хутка проста перасталі б быць даступнымі для тых людзей, для якіх ствараліся ад пачатку.

*— Ёсць крытыкі, якія акурат звязваюць «няправільную»*

*медыцынскую дапамогу маці Тэрэзы з яе вераю. Напрыклад, яе часта папракаюць за тое, што яна не выкарыстоўвала абязбольваючыя сродкі з «ідэалагічных» прычынаў, бо толькі гэтак бедныя могуць «раздзяліць свае пакуты з Хрыстом».*

— Я магу сказаць толькі пра тое, што бачыў сам: у маскоўскім Доме кангрэгацыі, дзе я бываю як святар, да хворых запрашаюць доктара, і калі ён выпісвае нейкія лекі, іх набываюць. Адмаўляць хвораму чалавеку ў леках, каб той «папакутаваў дзеля Хрыста», — пра гэта не можа ісці ніякай гаворкі. Я таксама ніколі не чуў, каб маці Тэрэза змагалася з медыцынаю.

Але пытанне пакутаў у хрысціянскай традыцыі сапраўды складанае для свецкіх людзей, таму тут натуральна ўзнікаюць спекуляцыі. Зайшоўшы ў які заўгодна каталіцкі касцёл, першае, што мы бачым, — мужчыну, прыбітага цвікамі да дзвюх скрыжаваных дошак. Калі ўявіць, што гэта ўбачыць нехта, прыляцеўшы з Месяца, той, хто зусім нічога не ведае пра хрысціянства, ён скажа: «Што тут адбываецца? Хто гэтыя людзі, дзеля чаго яны ідуць глядзець на чалавека, які памірае або ўжо памёр? Гэта вар'яты. Яны пакланяюцца нейкаму жорсткаму, злому Богу». Усе мы, і вернікі, і тыя, хто не верыць, так прывыклі да гэтай выявы, што ўспрымаем яе як сімвал. Гэтак жа мы глядзім на прыгожыя грэцкія статуі, на Лаакоана, які змагаецца са змеямі, пакутуе, напэўна, баіцца, але разумеем, што гэта — міф.

Аднак укрыжаваны Хрыстус — гэта не міф. Гэта не мастацтва, гэта абсалютная рэальнасць, і таксама вельмі страшная. У кожнага, напэўна, узнікае пытанне: «Чаму для Бога так важныя пакуты?» Праз пакуты мы ідзем у Валадарства Нябеснае — як кажа Евангелле. Для хрысціянаў тут усё «проста»: Хрыстус адкупіў свет праз свае пакуты, і кожны, хто жадае быць з Хрыстом, можа раздзяліць Яго ахвяру. Як кажа пра гэта Ян Павел ІІ у адной са сваіх энцыклік, «тыя пакуты, якія чалавек без веры ўспрымае як цалкам бессэнсоўныя, вернік успрымае як тое, праз што Хрыстус адкупіў гэты свет».

У ахвяры Хрыста можа прыняць удзел кожны, але ў гэтым ёсць вельмі важнае «але». Удзел павінен быць добраахвотным. Сам сабе я магу сказаць пра тое, як істотна цярпець пакуты, бо веру, што праз пакуты, праз аскезу (бо гэта таксама ўчыненне пэўных пакутаў самому сабе), праз хваробу і ў рэшце рэшт праз блізкасць смерці і смерць, пераход у іншы свет, я злучаюся з Хрыстом.

Але ў адносінах да бліжняга Хрыстус гэтага не запаведаў. Ён запаведаў, калі я ўбачу сваіх братоў галоднымі — накарміць, калі яны прагнуць — напаіць, калі ў голыя — апрануць, калі ў вязніцы — наведаць і суцешыць, калі бяздомныя — знайсці прытулак. Гэтак кажа сам Хрыстус у Евангеллі паводле Мацвея. І менавіта па тым, зрабілі мы гэта ці не, Бог будзе нас судзіць. Адзіным адказам на пакуты бліжніх павінна быць міласэрнасць. Вартасць пакутаў чалавека ў тым, што іншы можа адазвацца на іх любоўю, раздзяліць і суцешыць.

Менавіта так чыніла маці Тэрэза. Яна і яе сёстры прыходзяць, каб суцяшаць і спачуваць. Пакуты — гэта сама любоў, якая пакутуе ад жорсткасці чалавека. Найбяднейшыя людзі пакутуюць не таму, што хварэюць, а таму, што адкінутыя: соцыумам, сям'ёю і нават сваёю рэлігіяй. Маці Тэрэза знаходзіць гэтых людзей, клапоціцца пра іх і кажа — больш справамі, чым словамі, — пра тое, наколькі бясконца каштоўным з'яўляецца іх жыццё, наколькі каштоўныя яны самі і іх пакуты, бо ёсць людзі, якія жадаюць дапамагчы ім больш за ўсё ў свеце.

Падобнае суцяшэнне вельмі важнае, бо сёння мноства людзей атрымліваюць кваліфікаваную медыцынскую дапамогу, карыстаюцца паслугамі прафесійных сядзелак, але хварэюць і паміраюць у адзіноце, бо самі па сабе нікому не патрэбныя і не цікавыя. Чалавек можа ляжаць сыты, дагледжаны, магчыма, ён не адчувае болю, але перад абліччам смерці ён зусім адзін — ці ж гэта не пакуты? Маральныя пакуты, як ведаюць тыя, хто даглядае хворых, бываюць нашмат цяжэйшымі за фізічныя, і дапамагчы такому чалавеку складаней.

Крытыкі маці Тэрэзы не павінны забывацца, што ўся сучасная сістэма аховы здароўя нарадзілася з хрысціянскага клопату пра людзей, а першыя шпіталі, у тым ліку і для бедных, з'яўляліся пры святынях і кляштарах або пад іх апекаю.

*— Суцяшальныя размовы ў маці Тэрэзы і яе сёстраў непазбежна вяліся ў рэчышчы хрысціянскай веры, часта пасля такіх размоваў людзі жадалі прыняць хрост. А маці Тэрэзу сталі абвінавачваць у празелітызме.*

— Пачну з практыкі. Большасць людзей, якія цяпер знаходзяцца ў Доме маці Тэрэзы ў Маскве, — праваслаўныя. Да іх прыходзіць праваслаўны святар, размаўляе з імі. Але іх запрашаюць таксама прыняць удзел у каталіцкіх набажэнствах, што цэлебруюцца ў доме. Гэта агульная практыка ва ўсіх дамах Кангрэгацыі місіянераў міласэрнасці ў свеце. Сёстры распавядалі, што калі ў Індыі ў Дом прыносяць чалавека і ён у свядомасці, у яго найперш пытаюцца пра веравызнанне, каб пасля смерці пахаваць яго так, як патрабуе яго рэлігійная традыцыя.

Што тычыцца місіянерскай працы маці Тэрэзы, мне даводзілася чуць дваякую незадаволенасць. З аднаго боку, ад праваслаўных, якія казалі: «Ды ніякая

маці Тэрэза не манашка, яна звычайны сацработнік, для яе напаіць-накарміць, паклапаціцца пра цела — самае галоўнае, ёй няма справы да душы, да вечнага жыцця. Якая ж яна місіянерка?» З іншага боку, свецкія людзі, валанцёры або людзі, звязаныя з дабрачыннасцю, скардзіліся: «Ніякі з яе сацработнік або медык. Яна ненармальная законніца, для якой мае значэнне толькі яе рэлігія». І ўсё ж маці Тэрэза была сапраўднаю місіянеркаю. Яе місія заключалася ў тым, каб кожны чалавек, незалежна ад сваёй рэлігійнай прыналежнасці, мог атрымаць дапамогу. Калі чалавек сам жадаў прыняць хрост, яго хрысцілі. Харызма кангрэгацыі маці Тэрэзы ў тым, каб быць разам з найбяднейшымі з бедных, несці ім суцяшэнне, Божую прысутнасць.

*— Разгубленасць у адносінах да маці Тэрэзы, што з'явілася пасля інфармавання пра яе кананізацыю, часткова звязаная з уяўленнем пра святасць. Для многіх свецкіх і вернікаў святы — гэта чалавек, пазбаўлены недахопаў. Ва ўсіх нармальных людзей ёсць недахопы, а ёсць ненармальныя людзі, у якіх недахопаў няма. Калі ж у нас ёсць нейкія прэтэнзіі да чалавека, значыць у яго ёсць недахопы і ніякі ён не святы.*

— Кананізацыя чалавека, прызнанне яго святым зусім не азначае, што ён з'яўляецца бездакорным, геніем у галіне фандрайзінгу, медыцыны, менеджменту і гэтак далей. Відавочна, што, калі ўзгадаць святых з самых першых часоў хрысціянства: злачынцу, які быў прабачаны Езусам на крыжы, або апостала Пятра, які тройчы здрадзіў Хрысту, то святыя — гэта грэшнікі. Больш за тое, святыя — гэта адзіныя людзі, якія насамрэч разумеюць, што яны грэшнікі. Паводле класічнай характарыстыкі ўсходняй аскетычнай традыцыі, святы — гэта чалавек, які кажа: «Усе выратуюцца, адзін я не выратуюся». Гэта чалавек, які сапраўды разумее, якая колькасць зла ёсць унутры яго.

Для Каталіцкага Касцёла ў вызначэнні святасці прынцыповыя наступныя рэчы. Першае — наяўнасць цнотаў, якія выяўляюцца ў гераічнай ступені: цноты любові да Бога, любові да бліжняга і цноты служэння. Гераічная ступень азначае, што чалавек у сваім служэнні відавочна пераўзышоў межы звычайнага, то бок, паводле сведчанняў людзей, дэманстраваў незвычайныя праявы любові да Бога і бліжняга.

Другое —пацвярджэнне таго, што гэты чалавек знаходзіцца перад Божым абліччам, што Бог чуе яго малітву, пра што сведчаць аздараўленні або іншыя цудоўныя з'явы. Але часцей за ўсё гэта менавіта цудоўныя аздараўленні (як мінімум, два выпадкі), таму што іх можна праверыць. Благаслаўлёным прызнаюць чалавека, праз заступніцтва якога засведчанае і пацверджанае адно цудоўнае аздараўленне.

Што тычыцца маці Тэрэзы, то раней было вядома пра адно цудоўнае аздараўленне праз яе заступніцтва, таму яна была аб'яўленая благаслаўлёнаю. Нядаўна пацвердзілася другое цудоўнае аздараўленне, і Ватыкан прыняў рашэнне аб кананізацыі.

Пра гераічныя цноты маці Тэрэзы ў веры лепш за ўсё гаворыць яе перапіска з духоўнікамі. Гэта цудоўная крыніца сведчання пра ўнутранае духоўнае жыццё маці Тэрэзы, якая разбівае прадстаўленне пра святых як пра добранькіх веселуноў. <...> Калі маці Тэрэза яшчэ належала да Ларэтанскай манаскай кангрэгацыі, яна мела візію Езуса Хрыста. А пасля гэтага досведу Боскай ласкі прыйшоў час поўнага «маўчання Бога». Ніякіх пацвярджэнняў таго, што цябе чуюць, любяць, дапамагаюць. Ніякіх адчуванняў таго, што «Бог ёсць». І маці Тэрэза кажа, што калі ёсць пекла, то яна цяпер у пекле. І ў гэтым пекле яна жыве і не адчайваецца 30 гадоў! У пякельным стане нядужасці, безнадзейнасці яна служыць Богу, Касцёлу і людзям. І вось гэта — святасць. Вось гэта — сапраўднае аблічча святасці, служэння Богу не за ўзнагароду, чалавечую пахвалу і нават не за «духоўнае задавальненне». Гэта бескарыслівая, хоць і не беспамылковая святасць.

Святасць маці Тэрэзы не азначае, што яна стварыла ідэальную манаскую кангрэгацыю. Яе галоўны наказ сёстрам у тым, што яны павінны жыць гэтак, як жывуць найбяднейшыя з бедных. Хаця зразумела, што ў індыйскай вёсцы — гэта адно, а ў буйным еўрапейскім горадзе — іншае. Напрыклад, сёстры не могуць карыстацца пральнай машынай, пыласосам, інтэрнэтам. Гэта прынцыповае супрацьпастаўленне сябе масавай культуры, культуры забаваў і нават магчымасці палегчыць выкананне фізічнай працы, часам нават празмернае, на погляд некаторых святароў.

Касцёл змяняецца паступова. Сучасныя францішкане не ходзяць у лахманах, як хадзіў заснавальнік ордэну святы Францішак, але дух беднасці і непрывязанасці да зямных дабротаў жыве сярод яго братоў. У параўнанні з францішканамі сёстры маці Тэрэзы — вельмі маладая кангрэгацыя, і будучыня пакажа, у чым менавіта ядро яе харызмы, якое Бог пажадае захаваць недатыкальным.

*Размаўляў Сцяпан Абрыкосаў.*
*Пераклад з рускай мовы Юліі Шэдзько.*
*Паводле: https://www.miloserdie.ru/article/otvet-vatikana-na-kritiku-materi-terezy-ee-kanonizatsiya/*

* Крыстафер Хітчэнс — амерыканскі журналіст, публіцыст, пісьменнік, вядомы сваімі атэістычнымі і антыклерыкальнымі поглядамі. Абвінавачваў маці Тэрэзу ў здабыванні грошай і распаўсюджванні радыкальных рэлігійных поглядаў, прысвяціўшы гэтаму ў 1995 г. цэлую кнігу.

СВЯТЫ ЯН АД КРЫЖА

# УЗЫХОД НА ГАРУ КАРМЭЛЬ

ТРАКТАТ ПРА ТОЕ, ЯК ПАВІННА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДУША, КАБ ЗА КАРОТКІ ЧАС ДАСЯГНУЦЬ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. ПАРАДЫ І ВУЧЭННІ ЯК ДЛЯ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ, ГЭТАК І ДЛЯ ДАСВЕДЧАНЫХ, ВЕЛЬМІ КАРЫСНЫЯ, КАБ ВЫЗВАЛІЦЦА АД УСІХ РЭЧАЎ ДАЧАСНЫХ, НЕ АБЦЯЖАРВАЦЬ СЯБЕ ДУХОЎНЫМІ ПРЫВЯЗАНАСЦЯМІ І ЗАСТАЦЦА Ў НАЙВЫШЭЙШАЙ АГОЛЕНАСЦІ І СВАБОДЗЕ ДУХУ, НЕАБХОДНЫХ ДЛЯ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. НАПІСАНЫ АЙЦОМ КАРМЭЛІТАМ БОСЫМ, БРАТАМ ЯНАМ АД КРЫЖА.

## КНІГА ПЕРШАЯ
## ДЗЕЙСНАЯ НОЧ ПАЧУЦЦЯЎ

**У якой гаворыцца, што такое «*Цёмная ноч*» і чаму неабходна прайсці праз яе, каб дасягнуць злучэння з Богам. У прыватнасці, гаворка будзе ісці пра «*цёмную ноч пачуццяў*» і жаданняў, пра шкоду, якую яны могуць нанесці душы.**

### РАЗДЗЕЛ 8
### У якім апавядаецца, як жаданні азмрочваюць і асляпляюць душу.

1. Трэцім спосабам жаданні шкодзяць душы, асляпляючы і зацямняючы яе. Падобна да таго, як дым зацямняе паветра і не прапускае сонечных праменняў, ці як люстэрка, пакрытае вільгаццю, не адлюстроўвае ў сабе аблічча, ці як у скаламучанай вадзе не бачна твару таго, хто ў яе глядзіць, гэтаксама ў душы, занятай сваімі жаданнямі, розум зацемнены і не прапускае сонечнага святла прыроднага розуму і звышпрыродную Мудрасць Божую, каб асвяціла ўсё навокал. Таму Давід кажа: «*Comprehenderunt me iniquitates meae, et non potui ut viderem*». — «*Нягоднасці мае запалонілі мяне, так што і бачыць не магу*» (пар. Пс 40, 13).

2. Калі розум зацемнены, дык і воля дранцвее, і памяць робіцца нязграбнай і бязладнай у сваёй звычайнай дзейнасці. Бо гэтыя здольнасці душы, паводле іх тыпу дзеяння, залежаць ад розуму, і калі ён зацемнены, дык ясна, што і здольнасці волі становяцца бязладнымі і ўстрывожанымі. Як гаворыць Давід: «*Anima mea turbata est valde*». — «*Душа мая моцна ўстрывожаная*» (пар. Пс 6, 4), што значыць — усе яе здольнасці дзейнічаюць бязладна. Таму што, як мы казалі, зацемнены розум не здольны атрымаць святло Божай Мудрасці, гэтаксама як зацемненае паветра не здольнае прапусціць святло сонца. Воля не ў стане прыняць у сябе Бога ў чыстай любові. Як люстэрка, пакрытае вільгаццю, не здольнае адлюстраваць ясна твар таго, хто ў яго ўглядаецца. Яшчэ меней здольная памяць ясна адлюстраваць у сабе вобраз Божы, бо яна азмрочаная цемраю жаданняў, падобна да мутнай вады, якая не можа адбіць аблічча таго, хто глядзіцца ў яе.

3. Жаданне асляпляе і зацямняе душу, бо жаданне па сваёй сутнасці сляпое, паколькі не здольнае да ніякага разумення, хоць павінна было б падпарадкоўвацца розуму. Гэта і ёсць прычына таго, што кожны раз, калі душа дазваляе, каб ёю кіравала жаданне, яна сама становіцца сляпою. Падобна да таго, калі відушчы дазваляе, каб ім кіраваў сляпы, тады абодва нібыта сляпыя. Вынік гэтага апісвае наш Пан у Евангеллі ад святога Мацвея: «*Caeci sunt, et duces caecorum; caecus autem si caeco ducatum praestet, ambo in foveam cadunt*». — «*Пакіньце іх: яны — сляпыя павадыры сляпых; а калі сляпы сляпога вядзе, дык абодва ў яму ўпадуць*» (пар. Мц 15, 14). Навошта вочы матылю, калі яго жаданне прыгажосці і святла асляпляе і вабіць да агню. Тое ж можна сказаць і пра таго, хто асліплены жаданнем і, нібы рыба, для якой святло становіцца цемраю, бо хавае ў сабе падман і пастку, якую для яе падрыхтавалі рыбаловы. Вельмі добра гэта тлумачыць Давід, калі апісвае такі тып людзей: «*Sicut cera quae fluit auferentur; supercecidit ignis, et non viderunt solem*»... гэта значыць: «*Сыйдзе на іх звыш агонь, які растапляе ўсё сваім цяплом, і аслепіць іх*

---

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2016 г.*

*сваім святлом*». Тое ж самае робіць жаданне з душою: запальвае ў душы пажадлівасць і асляпляе розум, і душа ўжо больш не бачыць сапраўднага святла. Прычына гэтай аслепленасці ў тым, што калі з'явіцца нейкае іншае святло, здольнасць бачыць захапляецца ім, а не сапраўдным святлом. І паколькі жаданне значна больш блізкае да душы і нават унутры яе, дык яно сілкуецца гэтым святлом і такім чынам не можа бачыць святла розуму, пакуль аслепленае святлом жадання.

4. І таму вартая жалю недасведчанасць тых, хто абцяжарвае сябе надзвычайнымі пакутамі і добраахвотна чыніць розныя пакаянныя практыкаванні, упэўненыя, што гэтага дастаткова, каб злучыцца з Мудрасцю Божай, якой яны ніколі не дасягнуць, пакуль зусім не адмовяцца ад усіх сваіх жаданняў. Калі б гэтыя людзі хаця б палову свайго пакаяннага высілку страцілі на такую працу, дык яны б дасягнулі за месяц значна большага прагрэсу, чым за год розных практыкаў. Бо, як неабходна апрацаваць глебу, каб яна дала плён, а без апрацоўкі яна нараджае толькі пустазелле, гэтаксама неабходна ўмярцвіць жаданні, каб душа дала плён. Без гэтага, асмельваюся сказаць, душа на шляху да дасканаласці і пазнання Бога і самой сябе дасць не больш плёну, чым насенне, укінутае ў неўзараную зямлю. Цемра і тупасць не пакінуць душу, пакуль яе жаданні не будуць утаймаваныя. Гэтыя апошнія падобныя да бяльма ці да пылу ў вачах, якія будуць засціць зрок, калі не ачысціцца ад іх.

5. Давід, калі бачыў слепасць гэтых жаданняў і заўважаў, наколькі яны аддаляюць душы ад бляску праўды, і як Бог іх ненавідзіць, звяртаўся да такіх душаў, кажучы: «*Priusquam intelligerent spinae vestrae rhamnum, sicut viventes sic in ira absorbet eos*». Давід хоча сказаць: перш чым вашыя шыпы, гэта значыць вашыя жаданні, нібы жывыя істоты, зразумеюць нешта, Бог знішчыць іх у сваім гневе. Жаданні, якія жывуць у душы, перш чым яны змогуць зразумець Бога, будуць знішчаныя Адвечным у гэтым і ў іншым жыцці праз пакаранні і пакуты, якія паслужаць сродкамі ачышчэння. Псальміст сцвярджае, што Пан у сваім гневе знішчыць іх, таму ўсё, што душа церпіць, калі ўмярцвяе жаданні, ёсць пакараннем за шкоду, якую яны ўчынілі душы.

6. Калі б людзі ведалі, якой шчодрасці Боскага святла яны пазбаўленыя з-за гэтай слепаты, прычынай якой з'яўляюцца іх пачуцці і жаданні! Колькі блага і шкоды яны ўчыняюць ім штодня толькі таму, што не ўмярцвяюць іх. Яны не павінны лічыць, што калі атрымалі дары Божыя, дык ужо не трэба зважаць на пачуцці і жаданні, якія ў любы момант могуць зацямніць і асляпіць душу, і зрабіць так, каб яна пачала падаць усё ніжэй і ніжэй. Бо хто б мог падумаць, што чалавек, поўны мудрасці і дароў Божых, як Саламон, у старасці ўпадзе ў такую слепату і душэўнае здранцвенне волі і пачне ўзводзіць алтары шматлікім ідалам і пакланяцца ім? (пар. 1 Вал 11, 4). І для гэтага было дастаткова ягонай палкасці да жанчын і нестрыманасця сваіх жаданняў і захапленняў сэрца, аб чым ён сам гаворыць у Кнізе Эклезіяста (пар. Экл 2, 10), кажучы пра сябе самога, што ён ніколі не адмаўляў патрабаванням свайго сэрца. І калі напачатку ён дзейнічаў з асцярожнасцю, дык потым, паколькі не апанаваў сваіх жаданняў, ён цалкам ім паддаўся і з такой нястрыманасцю, што яны зацямнілі і асляпілі яго розум. І ўсё скончылася тым, што яны згасілі ў ім святло мудрасці, падараванай яму Богам, і ў старасці Саламон адступіў ад Яго.

7. І калі гэта здарылася з чалавекам, які ведаў розніцу паміж дабром і злом (пар. 1 Вал 3, 9), што ж можа стацца з намі пры нашай бязладнасці неапанаваных жаданняў? Як сказаў Бог праз прарока Ёну жыхарам Нінівы: нашая правая рука не ведае, што робіць левая (пар. Ён 4, 10), таму што на кожным кроку мы прымаем зло за дабро, а дабро за зло, такі плён і маем у выніку. Што ж будзе з нашай прыроднай цемрай, калі да гэтага дададуцца нашыя жаданні, як пра тое гаворыць прарок Ісая: «*Palpavimus sicut caeci parietem, et quasi absque oculis attrectavimus; impegimus meridie quasi in tenebris*» (пар. Іс 59, 10). Прарок звяртаецца да тых, хто паддаецца сваім жаданням, і гаворыць: «*Адчуваем, як сляпыя сцяну, і, як без вачэй, ходзім навобмацак; спатыкаемся апоўдні, як упоцемках*». Сляпы з прычыны сваіх жаданняў, нават калі знаходзіцца сярод праўды і таго, што яму спагадае, не заўважыць гэтага, бо агорнуты цемраю.

**РАЗДЗЕЛ 9**
**У якім апавядаецца, як жаданні забруджваюць душу, пра што сведчыць Святое Пісанне праз прыклады і параўнанні.**

Колькі ж шкоды чыняць душы жаданні! Яны яе брудзяць і плямяць, як вучыць нас Эклезіяст: «*Qui tetigerit picem inquinabitur ab ea*». — «*Той, хто дакранаецца да смалы, ёю ж забрудзіцца*» (пар. Экл 13, 1). Гэта значыць, што чалавек, калі дакранаецца да смалы, задавальняе сваё жаданне волі нейкім стварэннем. У гэтым параўнанні трэба звярнуць увагу на тое, што мудры параўноўвае стварэнні са смалою, таму што паміж узнёсласцю душы і ўсім тым, што існуе добрага ў стварэннях, тая ж розніца, як паміж празрыстым дыяментам ці чыстым золатам і кавалкам смалы. Як разагрэтыя золата ці дыямент, кінутыя на смалу, расплаўляюць яе і таму забруджваюцца і плямяцца,

гэтак сама і душа, распаленая полымем жаданняў да стварэнняў, у іх і імі забруджваецца і пляміцца. Паміж душою і рэчамі створанымі існуе розніца, як паміж празрыстай вадкасцю і вязкім брудам. І як брудзіцца вада, змяшаная з тваннню, гэтаксама забруджваецца душа, калі прывязваецца да стварэнняў, таму што становіцца падобнаю да іх. І як сажа пляміць і псуе вельмі прыгожы і дасканалы твар, гэтаксама і жаданні чыняць брыдкай і бруднай душу, над якой яны пануюць і якая сама па сабе была б найпрыгажэйшым і найдасканалейшым вобразам Бога.

Таму Ерамія лямантуе з-за таго, колькі шкоды ўчыняюць жаданні душы, і апавядае пра яе пачатковую прыгажосць і пра яе пазнейшую брыдкасць: «*Candidiores Nazaraei ejus nive, nitidiores lacte, rubicundiores ebore antiquo, sapphiro pulchriores. Denigrata est super carbones facies eorum et non sunt cogniti in plateis; adhaesit cutis eorum ossibus: aruit, et facta est quasi lignum*». «Яе валасы», гэта значыць душа, «*былі чысцейшыя за снег, бялейшыя за малако; целам былі прыгажэйшыя за слановую костку, выгляд іх быў, як сапфір; а цяпер цямней за ўсё чорнае твар у іх; не пазнаюць іх на вуліцы; скура ў іх да касцей іх прыліпла, уся перасохла, як дрэва*» (пар. Пл 4, 7, 8). Пад валасамі тут разумеюцца жаданні і думкі душы, якія, калі падпарадкоўваюцца Божаму ладу, бялейшыя за снег, святлейшыя за малако, залацейшыя за слановую костку і прыгажэйшыя за сапфір. Гэтыя чатыры рэчы з'яўляюцца вобразамі прыгажосці і выдатнасці матэрыяльнага стварэння, па-над якім існуе душа і яе здольнасці, параўнаныя тут з назарэямі ці валасамі. Гэтыя апошнія, калі іх не ўпарадкаваць паводле Божага запавету, іншымі словамі, калі дазволіць ім імкнуцца да стварэнняў, дык іх аблічча, як кажа прарок Ерамія, станецца чорным, як вугаль.

Гэтае благое і горшае прычыняе душэўнай прыгажосці бязладнае жаданне рэчаў гэтага свету. Цяжка знайсці нешта, з чым можна было б параўнаць брыдкае і бруднае аблічча, якое прымае душа з прычыны жаданняў. Нават занядбаныя месцы, поўныя павуціння і гадаў, нават агіднасць мёртвага цела, ніводны пачварны прадмет, які толькі можна сабе ўявіць, нельга параўнаць з такою душою. Бо нават калі па сваёй прыродзе душа дасканалая, паколькі створаная Богам, але калі яна бязладная з пункту гледжання яе рацыянальнага быцця, дык яна становіцца пачварнаю, агіднаю, бруднаю, змрочнаю і поўнаю недасканаласцяў, пра якія мы ўжо пісалі. Як я скажу трохі далей, хопіць толькі аднаго неўпарадкаванага жадання, нават такога, якое не вядзе да смяротнага граху, каб душа сталася гідкаю і брыдкаю нявольніцай, якая ніколі, пакуль не ачысціцца ад гэтага жадання, не зможа паяднацца з Богам. А наколькі ж брыдкаю будзе цалкам бязладная ў сваёй нястрыманасці душа, якая падпарадкоўваецца сваім жаданням? Наколькі ж яна будзе далёкаю ад Бога і ад Ягонай чысціні!

Розум не можа зразумець, і словы не могуць выказаць, колькі рознага кшталту дрэні пакідаюць у душы жаданні. Каб можна было гэта выказаць, дык яно б так уразіла, што жаль агарнуў бы нас, бо мы б пабачылі, што кожнае жаданне пакідае ў душы, у большай ці меншай ступені, пячатку і шнар нячыстасці і мярзоты, і як праз адно толькі бязладнае жаданне ў душы могуць узнікнуць рознага гатунку брыдоты, вялікія ці малыя. Таму што, як душа справядлівага ў адной толькі дасканаласці — шчырасці душы, напоўнена шматлікімі і найбагацейшымі дарамі і найпрыгажэйшымі цнотамі, кожная з якіх адрозніваецца адна ад адной паводле прыгажосці, у залежнасці ад рознага спосабу любові ў Богу, гэтак у бязладнай душы адбіваецца вартая жалю шматлікасць брыдотаў і нікчэмнасцяў, у адпаведнасці з шматлікасцю яе жаданняў у дачыненні да стварэнняў.

Гэтая шматлікасць жаданняў вельмі добра адлюстроўваецца ў Кнізе Эзэхіэля, дзе мы чытаем (пар. Эзх 8, 10–16), як Бог явіў прароку ўнутраныя муры святыні, распісаныя выявамі рознага гатунку гадаў, што поўзаюць па зямлі, і розных агідных і нячыстых жывёлаў. І Пан кажа тады Эзэхіэлю: «*Сын чалавечы, ты бачыў агідныя ўчынкі кожнага, хто іх здзяйсняе ў патаемнасці свайго сховішча?*» І Бог загадаў прароку ўвайсці ўнутр святыні, каб пабачыць яшчэ большую агіду. Прарок падпарадкаваўся і ўбачыў жанчын, якія сядзелі і аплаквалі Адоніса, бога кахання. Затым, па загадзе Бога, прарок заглыбіўся яшчэ далей унутр, каб пабачыць яшчэ больш агідныя рэчы, і ўбачыў дваццаць пяць старых, павернутых спінаю да святыні.

Шматлікія гады і нячыстыя жывёлы, намаляваныя на першай сцяне святыні, сімвалізуюць думкі і паняцці, якімі напоўнены розум, калі ён звяртаецца да зямных і нікчэмных стварэнняў, што сваёю сутнасцю брудзяць святыню душы, абцяжарваюць яе розум — найвышэйшую духоўную здольнасць. Жанчыны ў другім памяшканні, якія аплакваюць бога Адоніса, з'яўляюцца вобразам жаданняў, што знаходзяцца ў другой здольнасці душы — волі. Яны плачуць, бо прагнуць рэчаў, да якіх прывязана воля, гэта значыць тых гадаў, што напаўняюць розум. Людзі, якія знаходзяцца ў трэцім памяшканні, — гэта вобраз і сімвал трэцяй здольнасці душы — памяці, унутры якой ўсё захоўваецца і рухаецца. Пра іх вельмі добра сказана, што яны павернутыя спінаю да святыні. Сапраўды, калі душа паводле сваіх трох

здольнасцяў аддаецца цалкам і абсалютным чынам якому-небудзь стварэнню, дык падаецца, што яна нібыта павярнулася спінаю да святыні Божай, гэта значыць — да ўпарадкаванага розуму душы, які не дапускае ў сябе стварэнняў.

Каб трохі зразумець, што значыць гэтае жахлівае бязладдзе жаданняў душы, пакуль дастаткова таго, што было ўжо сказана. Калі б мы пачалі падрабязна апісваць кожную найменшую брыдоту, прычыненую душы яе недасканаласцямі, ці найвялікшую, пакінутую ў ёй штодзённымі грахамі, ці тую, якая ўзнікае праз жаданні, звязаныя са смяротным грахом, калі душа стаецца абсалютна пачварнаю; калі я б спыніўся на апісанні ўсіх нечыстотаў, звязаных з гэтымі трыма прычынамі, дык я б ніколі не скончыў гаварыць пра рэчы, якія не змог бы зразумець нават анёльскі розум. Таму я хачу завяршыць і сказаць, што любое жаданне, нават найменшага недасканалага прадмету, пляміць і забруджвае душу.

**РАЗДЗЕЛ 10**
**У якім апавядаецца, як жаданні атупляюць і аслабляюць душу, не дазваляючы ёй практыкаваць цноты.**

1. У пятую чаргу жаданні шкодзяць душы, паколькі яны яе ахалоджваюць і аслабляюць такім чынам, што ёй вельмі цяжка практыкаваць цноты і трымацца іх. І гэта адбываецца таму, што жаданне раздзяляецца і губляе сваю моц: замест таго каб засяродзіцца на адной толькі рэчы, яно пераследуе шмат рэчаў і таму расцярушваецца. Вось чаму філосафы гавораць, што цнота, калі ўсё ў ёй засяроджана на адным, больш моцная за тую, якая звяртае ўвагу на многае. Таму зразумела, што калі воля жадае многіх рэчаў, толькі не цноты, дык яна сама аслабляецца і аслабляецца яе дабрачыннасць. Душа, воля якой разрываецца паміж нязначнымі рэчамі, падобная да вады ў дзіравым начынні, якое яна ніколі не можа напоўніць, і таму ў ёй няма ніякай карысці. Патрыярх Якуб параўноваў свайго сына Рувіма з вылітаю вадою, бо ў граху ён даў волю сваім жаданням: «*Выліўся ты, як вада, і не расцеш*» (пар. Быц 49, 4). Нібыта кажучы: паколькі ты выліўся, як вада, бо пайшоў за сваімі жаданнямі, дык ты больш не будзеш узрастаць у цноце. І гэтакім чынам, як гарачая вада без покрыўкі з лёгкасцю губляе сваё цяпло і незагорнутыя спецыі губляюць свой водар і моц паху, гэтаксама і душа, не засяроджаная на адным толькі прадмеце — жаданні Бога, губляе цяпло і моц цноты. Гэта разумеў вельмі добра Давід, які сказаў, маючы на ўвазе Бога: «*Fortitudinem meam ad te custodiam*». — «*Моц маю для Цябе захаваю*» (пар. Пс 58, 10), гэта значыць — *засяроджу ўсю моц майго пажадання ў Богу*.

2. Жаданні аслабляюць душэўную моц таму, што яны ў душы падобныя да дзікіх парасткаў, якія вырастаюць вакол дрэва і пазбаўляюць яго моцы, не дазваляючы пладаносіць. Пра такія душы Пан гаворыць: «*Vae autem praegnantibus et nutrientibus in illis diebus!*», што значыць: «*Гора ж цяжарным і тым, што кормяць грудзьмі ў тыя дні!*» (пар. Мц 24, 19). Тут пад цяжарнасцю і немаўлём маюцца на ўвазе жаданні, якія, калі іх не стрымаць, заўсёды будуць высмоктваць з душы яе моц і будуць расці на зло душы, як паразіты на дрэве. І таму наш Пан раіць нам: «*Sint lumbi vestri praecincti*». — «*Хай будзе паясніца вашая аперазаная*» (пар. Лк 12, 35), маючы на ўвазе жаданні. Таму што сапраўды, жаданні, як п'яўкі, якія смокчуць кроў з вены. Так іх называе і Эклезіяст, калі сцвярджае: «*Дочкі, як п'яўкі*», гэта азначае жаданні, якія безупынна просяць: «*Дай мне, дай мне*» (пар. Прып 30, 15).

3. З таго, што было сказана, зразумела, што жаданні не толькі не даюць нічога добрага душы, але нават пазбаўляюць яе таго, што яна мае. І калі душа іх не ўтаймуе, яны не спыняцца, пакуль не зробяць тое, што робіць, як апавядаюць, змеяня, якое вырастае ва ўлонні сваёй маці і пачынае яе жэрці, пакуль не заб'е. Яно такім чынам жыве за кошт сваёй маці. Гэтаксама жаданні, калі іх не ўтаймаваць і не ўмярцвіць раней, давядуць да таго, што душа загіне для Бога. І таму чытаем: «*Aufer a me ventris concupiscentias, et concubitus concupiscentiae ne apprehendant me*» (пар. Сір 23, 6), бо, сапраўды, адзінае, што застаецца ў такой душы, — жаданні.

4. Жаданні могуць не дасягнуць такога ўзроўню, але ўсё роўна рэч даволі сумная і вартая жалю бачыць, да якога стану яны даводзяць бедную душу, наколькі яна незадаволеная сабою, наколькі яна сляпая да сваіх бліжніх, наколькі абцяжараная і лянівая ў адносінах да Божых рэчаў. І ніякі кепскі настрой хворага, які пазбаўляе яго апетыту і абцяжарвае яго шлях да аздараўлення, нельга параўнаць з тым, наколькі жаданні створаных рэчаў чыняць душу сумнаю і лянотнаю на яе шляху да цноты. Вось чаму многія душы не прагнуць і не намагаюцца дасягнуць цноты, таму што ўсе іх жаданні і прывязанасці нячыстыя ў адносінах да Бога.

---

* У творы святога Яна ад Крыжа цытаты са Святога Пісання падаюцца на лацінскай мове. У беларускім тэксце яны пададзены ў перакладзе Святланы Грэсві.

*Пераклад з іспанскай мовы Святланы Грэсві.*

*Працяг будзе.*

Сімяон Полацкі.
Літаграфія 1818 г.



Валеры МАКСІМОВІЧ

# НА ШЛЯХУ ДА ЯДНАННЯ

## Паэзія Сімяона Полацкага беларускага перыяду творчасці

Сімяон Полацкі (1629–1689) — выдатны грамадска-палітычны і царкоўны дзеяч, які зрабіў значны ўнёсак у гісторыю славянскай духоўнай культуры, пакінуўшы багатую паэтычную спадчыну. Сваёй творчасцю ён паяднаў дзве магутныя плыні еўрапейскай цывілізацыі — заходнехрысціянскую і ўсходнехрысціянскую. Асаблівую цікавасць выклікаюць вершы Сімяона Полацкага, напісаныя ў перыяд яго вучобы ў Кіева-Магілянскім калегіуме і ў Віленскай акадэміі (прыблізна з 1640-х па 1653 гг.), змешчаныя ім у зборніку «*Carmina Varia*» («Розныя вершы»)[1]. Гэты зборнік належыць да беларускага перыяду

**Валеры Максімовіч** — паэт, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук. Нарадзіўся ў 1962 г. у вёсцы Траянец на Лагойшчыне. Закончыў філалагічны факультэт БДУ. Аўтар зборнікаў вершаў «Мяцежнай споведзі скрыжалі» (2012), «Сярод блукаючых планет» (2014). Даследуе нацыянальную мастацкую традыцыю, а таксама праблемы эстэтыкі і паэтыкі беларускай літаратуры. Працуе ў Інстытуце філасофіі НАН Беларусі. Жыве ў Мінску.

творчасці С. Полацкага і дае ўяўленне пра культурна-гістарычныя і рэлігійна-філасофскія асновы яго светапогляду, з'яўляючыся ўзорам асветніцкай талерантнасці, якая, акрамя ўсяго, выявілася ў гарманічнай паяднанасці хрысціянскай і антычнай вобразнасці, у выкарыстанні ідэйна-мастацкіх дасягненняў розных культур. Сімяон Полацкі шырока выкарыстоўваў вобразы, сюжэты і матывы як з біблейскай, патрыстычнай, царкоўна-гістарычнай літаратурнай традыцыі, так і язычніцкія міфалагемы, звяртаючыся да персанажаў грэка-рымскай гісторыі, антычнай літаратуры і філасофіі.

Сімяон Полацкі жыў у пераходны перыяд ад Сярэднявечча да Новага часу, таму супярэчлівы і складаны характар эпохі не мог не паўплываць на яго. У вершах заўважныя адзнакі традыцыйнага і новага, элементы філасафічнасці мяжуюць з народным светаўспрыманнем, а рэлігійныя тэалагемы — з ідэалогіяй ранняй Асветы. Творчасць С. Полацкага пранікнута гуманізмам, жаданнем удасканаліць чалавечую прыроду, указаць на шляхі духоўнага выратавання. Мысляр засяроджваў сваю ўвагу на неабходнасці сацыяльнага і духоўнага абнаўлення, прапаведаваў гуманістычны ідэал годнасці, інтэлектуальнага і маральнага самаўдасканалення асобы.

У беларускі перыяд творчасці С. Полацкага даволі адчувальна праявіўся лаціна-польскі ўплыў, а таксама вопыт заходнееўрапейскага барока (польскамоўныя вершы). Пры гэтым Сімяона Полацкага можна назваць вялікім наватарам, эксперыментатарам у паэзіі. Валодаючы высокай гісторыка-культурнай і багаслоўскай эрудыцыяй, ён па-майстэрску прыцягваў элементы відовішчнасці, тэатральнасці ў рэлігійную паэзію, актыўна выкарыстоўваў свецкія эмблемы, надаючы ім адценне сакральнасці. Згодна з заходняй традыцыяй, творца прытрымліваўся катафатычнага прынцыпу, у аснове якога — аналогіі быцця паміж рэальным светам прадметаў, чалавечых істотаў і Богам, што з'яўляецца добраю нагодаю для дыдактычных развагаў. Мастацкі вобраз у такім разглядзе паўстае не гранічна схаластычным, абстрагаваным, а як бы набывае цялесную абалонку («уцелаўляецца»), што дазваляе больш рэльефна, "плоцева" спазнаць яго сутнасць, яго сімвалічную прыроду.

Мастацкія тэксты С. Полацкага беларускага перыяду яго творчасці вылучаюцца даволі багатым арсеналам вобразна-выяўленчых сродкаў. У іх удала паядналася эрудыцыйна-антычная вобразнасць, народна-міфалагічная і хрысціянская сімволіка. Экскурсы ў натурфіласофію суседнічаюць са шматлікімі рэлігійнымі і этычнымі павучаннямі, дыдактыкай. Згодна з эстэтыкай барока, яны маюць пазнавальны змест, інтэлектуальнасць, выразнае імкненне пашырыць межы пазнання і самога чалавека, што сведчыць пра імкненне прадстаўнікоў барочнага мастацтва спалучаць у сваіх творах маралізатарства з забаўляльнасцю, сур'ёзнае з разняволена-пацяшальным. Да таго ж даволі распаўсюджаным прыёмам была ігра кантрастамі, імкненне да афектаў, прыцягненне сродкаў мастацкай экспрэсіі, што таксама спрыяла рэлігійна-дыдактычнай распрацоўцы тэмы, пошукам шляхоў да Бога. Але маралізатарская квінтэсенцыя творцы пазбаўлена ўласцівых еўрапейскаму барока экзальтаваных крайнасцяў і экстрэмізму, месца якіх займае набожнае настаўленне ў духу традыцыйнага хрысціянскага ідэалу.

Вучоба ў Кіева-Магілянскім калегіуме, які па сутнасці стаў яскравым сімвалам працэсу збліжэння хрысціянскага Захаду і Усходу, і ў Віленскай езуіцкай акадэміі мела значны ўплыў на светапоглядныя прыярытэты С.Полацкага. У сваёй дысертацыі «Светапогляд Сімяона Полацкага (беларускі перыяд)» У. К. Ігнатаў слушна адзначае, што сам факт знаходжання С. Полацкага ў згаданых навучальных установах праваслаўя і каталіцызму сведчыць аб тым, што яго здабыткам становіцца культываваная духоўнымі спадкаемцамі рэнесанснай «рэспублікі гуманістаў» ідэя экуменізму — мірнага яднання ўсходняй і заходняй Цэркваў з мэтаю пабудовы ўніверсальнага еўрапейскага хрысціянства. Сваёю творчасцю С.Полацкі ўказаў на шлях кампрамісу на аснове агульных хрысціянскіх каштоўнасцяў, культурнага дыялогу Захаду і Усходу, узаемапранікнення нацыянальных і культурна-гістарычных традыцый заходняй і ўсходняй цывілізацый, што можа прывесці да ўсееўрапейскага хрысціянскага ўніверсалізму. Творчасць Сімяона Полацкага беларускага перыяду красамоўна сведчыць пра яго светапогляднае шматгалоссе, паліфанію, арганічны сінтэз формаў заходнееўрапейскага і польскага барока з нацыянальнай традыцыяй і традыцыяй усходнеславянскага пісьменства.

# Сімяон Полацкі

## НЯЎДЗЯЧНАСЦЬ

Няўдзячны сонцу за яркае свячэнне,
Месяц хавае яго, чынячы зацьменне.
І калі пад сонца наўпрост падыходзіць,
Страшную цемень на зыркім Фебе родзіць.
Вось чаму пані яго часамі
Бачыць на небе з двума рагамі.
На свет каб з'явіцца, намер дзеці маюць:
Яшчарцы-матцы жывот прагрызаюць,
За што ім таксама помсціць прырода:
Яны з-за дзяцей сваіх гінуць пры родах.
Суровы агонь, дрэвы губячы, шчасны,
Ды іх праглынуўшы, сам зараз жа гасне.
Кожны няўдзячны хай добра унікне:
Расплата й па смерці яго спасцігне,
Калі пры жыцці не паслаў Бог нязмогу
Ці злую фартуну не даў у падмогу.

## АСАЛОДА

З тварам людскім, як схацеў таго Пане,
Пачвары марскія, сірэнамі званы[2],
Спевам салодкім у бездані клятай
Топяць усіх мараплаўцаў заўзята
Псам на спажытак; ля Сцылы[3] варожнай
Смерць караблі сустракае абложна.
Асалода, распуста — ўсё тыя ж сірэны,
Што шлюць падарожным салодкія спевы.
Ды толькі атрутай ад іх патыхае —
Заложна да Сцылы ў абдоймы штурхае,
Каб той карабель, што курс сабе значыў,
Няўзнак апынуўся ў цэрберавай пашчы[4].
І слаўны Геракл[5], каб пазбегнуць спакусы,
Моцна да мачты прыкуць сябе змусіў.
Здолеў ён тым ад сірэн ўратавацца
І на расправу звярам не дастацца.
Што мачта ёсць, як не той крыж Хрыстовы?
Ці кожны, скажы, з ім зрадніцца гатовы,
Каб ашуканству сірэн не паддацца
І ў Сцыле той вусцішнай не аказацца?

## (СЛАВА ЗМЕНЛІВАЯ)

Зменлівай славай ўвесь свет паланёны —
Поўніцца шчасцем, бы ў казцы саснёнай.
Ды толькі вось век яе хуткі і хісткі,
Бы ў жбана глінянага ці то у міскі.
Дзе Саламон той, спешчаны славай?
Альбо Самсон, ваяўнічы і бравы?
Авесалон дзе са стройнай паставай
Ці Йянафан[6], чуйны сэрцам, ласкавы?
Куды падзеўся той Цэзар вяльможны,
З тым — слаўны багач, сібарыт бязбожны?
Дзе Тулій[7], скажы мне, саладкамоўны?
Дзе Арыстоцель вельмі шаноўны?
Народа дзе моц і дзе слава краіны,
Каралеўства, прэлацтва? — спрэс толькі руіны!
Зашмат уладык і князёў панавала,
Ды ў момант адзін іх на свеце не стала.
Нядоўгая ярмарка — свецкая слава[8]:
Бы цень на сцяне, што так хутка знікае.
Даброты жыцця нас няўзнак пакідаюць,
Як вокам міргнуць — неўпрыкмет ўсё растае.
О гнюсны клубок, о зямное знябыцце!
О росы, о марнасць, — ну чым ганарыцца?!
Не ведаеш, дзень ці пабачыш ты новы...
Старайся заўжды да ўсяго быць гатовым.
Адкінь сваю пэўнасць — дні светлыя мінуць:
Усё, што прыдбаў, заўтра можаш пакінуць.
Пра вечнае думай, будзь розумам з небам
І ведай, што свет гэты мала патрэбны.

## ЗМЯЯ

Што толькі вока чалавека бачыць можа
    Усё у павучанне людзям даў ты, Божа.
Змяя ядавітая і тая нас моліць,
    Каб мы жылі згодна з Боскаю воляй.
Не словамі, зрэшты, а прыкладам ўласным
    Ў пакоры нас вучыць шукаць сваё шчасце.
Звіваецца ў кола, найперш тое значыць, —
Каб змог чалавек сваю вечнасць пабачыць.
З зямлі бярэ моц, каб мы з попелу хлеба
За грэх, як Давід, здабылі на патрэбу.

І не галаву падстаўляе, а цела,
Як б’юць, каб жыццё аддаць смела
Змог кожны за Хрыстуса Пана — вось сутнасць:
Паверыць у Боскую усемагутнасць.
Пасціць доўга ў цемры, калі ж выпаўзае,
То скуру з сябе без вагання здзірае.
Урок: каб і мы ўсе бядоты спазналі
І мужна ў нягодах свой дух гартавалі.
Калі ж да вады падпаўзе ў страшнай смазе,
Моцны свой яд яна кіне адразу,
Каб па шляху да нябеснай крыніцы
З чыстым сумленнем маглі мы маліцца.
Возьмем за прыклад мудрасць змяі,
Што і без ног, ды паўзе па зямлі.

## РАЙ

Да стварэння свету рай быў аблюбаваны,
Ды па трэцім дні нікім не быў згаданы.
Майсей толькі па Адаме распаведаў шчыра
Ў Кнізе Быцця нам пра тое. Што таму прычынай?
Чалавек для Бога служыць улюбёным раем,
Лепшага прыстанку Ён і не жадае.
«З чалавечымі сынамі разам быць — раскоша,
Ды не купіш, — мудрасць кажа, — ты яе за грошы».
Вось чаму і Лот[9] праўдзівы, рай сабе здабыўшы,
Адляцеў у царства мёртвых, тым усіх здзівіўшы,
Бо святыя душы там навек спачылі
І з ахвотай гэта месца раем ахрысцілі.
Хай жа праведная вера з кожным застаецца
І па часе светлым промнем ў неба узнясецца.

## «ВУСНАМІ МЯНЕ ХВАЛЯЦЬ, А СЭРЦЫ ІХ ДАЛЁКА АД МЯНЕ»

Музыкі чары прыемна палоняць,
Толькі калі ім шум іншы не шкодзіць.
І да душы, як салоўкі спяванне,
Бо не чутно варання́ гергетання.
Зліўшыся з ім, чэзне голас салоўкі —
Музыкі слодыч сыходзіць і моўкне,
Быццам бы хвала ў гонар Бога,
Голасам вымаўленая чужога.
Калі ж адзінства і згоды бракуе,
Музыку гэтую Бог не пачуе:
Справе і звычаю тое пярэчыць —
І анікольки душу не палечыць.
Гэтак і з лютняй: ў фальшывым гучанні
Слыху і сэрцу няма змілаванння.
Ад воўчага спеву пастух уздрыгнецца —
Пеклам іх скрыгат зубоў падаецца.
Што будзе, як жоўці ды з мёдам змяшацца
І мужу з нявернаю жонкай застацца?

## ГАТОЎНАСЦЬ ДА ЛІХА

Цяжка грэбляй спыніць рэкі, што імклівa
Мкнуць да мора ў плыні хуткай, віратлівай.
Так і злога не стрымаць ні ўмольным словам
Ад намераў гнюсных, ні пагрозай, ні законам.
Хто таго, што з вежы падае, спаймае,
Да граху той цягу моцную стрымае.
Хуткі бег у сарны, хуткі і ў аленя,
Ды хутчэй памкненні злыя толькі ў ліхадзея.
Як не зробіць шкоды — ў думках ліха родзіць:
Хоць і так, ды зможа некаму нашкодзіць.

*Пераклаў з польскай мовы*
*Валеры Максімовіч.*

---

[1] Вершы, аб’яднаныя гэтай назвай, належаць да схаластычнай вучонай паэзіі і датуюцца гадамі вучобы Сімяона Полацкага ў Кіева-Магілянскім калегіуме і Віленскай езуіцкай акадэміі (прыкладна з 1640 па 1653 г.). Вершы захаваліся ў асабістым зборніку паэта, які цяпер знаходзіцца ў Маскве.

[2] *Пачвары марскія, сірэнамі званы...* У грэка-рымскай міфалогіі сірэнамі зваліся паўжанчыны-паўптушкі з рыбінымі хвастамі, якія сваімі салодкімі спевамі спакушалі мараходаў, выракаючы іх на пагібель (Гамер, «Адысея», XII; Авідзій, «Метамарфозы», V, 522 і інш. Узгадваюцца яны і ў прароцтве Ісаі (Кн. прарока Ісаі, 13, 21–22).

[3] *Псам на спажытак; ля Сцылы...* Сцыла (паводле старажытнарым. міф.) — дачка німфы Фаркіды, ператвораная чараўніцай Кіркай у атачаную лютымі сабакамі марскую пачвару, месцам знаходжання якой служыла пячора ўцёса Сцыла на італійскім баку Сіцылійскага праліва. Яна праглынала ўсё, што праходзіла міма яе пячоры.

[4] *ў цэрберавай пашчы...* Цэрбер — у грэчаскай міфалогіі трохгаловы сабака, які ахоўваў уваход у падземнае царства, сын падземных боставаў Тыфона і паўжанчыны-паўзмяі Яхідны.

[5] *І слаўны Геракл...* Геракл — у грэчаскай міфалогіі сын бога Юпітэра і Алкмены, які з-за праследу багіні Юноны мусіў пайсці на службу да цара Эўрысфея і здзейсніць дванаццаць подзвігаў.

[6] *Йянафан (Іаанафан)* — згодна з Бібліяй (1 Сам 28–31), сын ізраэльскага цара Саўла. Вылучаўся моцаю і адвагаю, дапамагаў юнаму Давіду, рызыкуючы выклікаць гнеў бацькі, які пры спрыяльным выпадку мог забіць Давіда.

[7] Тулій — Марк Тулій Цыцэрон (106–43 гг. да н. э.), выдатны рымскі прамоўца, тэарэтык прамоўніцкага мастацтва, пісьменнік і філосаф.

[8] *Нядоўгая ярмарка — свецкая слава...* Гэтую метафару мы сустракаем у «словах» Іаана Залатавуснага (каля 344–407 гг. н. э.), у «Аналах» Цэзара Баронія (XVI ст.). З сучаснікаў С.Полацкага да яе звяртаўся Дж. Беньян у «Шляху паломніка» (№ 1680), а таксама У. Тэкерэй у рамане «Кірмаш пыхлівасці».

[9] Лот — пляменнік Абрагама. За сваю набожнасць Лот з сям’ёй быў выведзены анёламі з Садома, які ў хуткім часе разам з горадам Гаморай быў ператвораны ў груду попелу і развалінаў (Быц 29, 1–29). Пра сыходжанне Лота ў падземнае царства сведчыць апакрыфічнае «Слово о кресте честне и о двою разбойничю» (вядомае таксама як «Сказ пра райскае дрэва і Сіфа»), аўтарства якога прыпісваецца Грыгорыю Багаслову (гл.: Книга Никодима... СПб., 1912. С. 19–20).



Раіса Зянюк

# Ксёндз Юзаф Марсангер SJ

Парафіяне вёсак Краснае Маладзечанскага раёна і Солы Смаргонскага да сённяшняга дня згадваюць часы, калі ў іх касцёлах служыў кс. Юзаф Марсангер. Святар, які ведаў кс. Юзафа асабіста, даў яму дзве кароткія, яркія і вельмі трапныя характарыстыкі. Ён назваў яго апошнім магіканінам і дадаў, што ксёндз Юзаф — гэта постаць, якая хутка стане легендай[1].

Юзаф Марсангер нарадзіўся 23 сакавіка 1902 г. у Кракаве ў сям'і чыгуначніка Фердынанда і Людвікі (у дзявоцтве Раўскай). У Кракаве скончыў гімназію[2]. У 17 гадоў Юзаф Марсангер уступіў у навіцыят ордэну езуітаў у Старай Всі. Адбылося гэта 29 верасня 1919 года. У 1923–1936 гг. вывучаў філасофію, тэалогію і класічную філалогію ў духоўнай акадэміі «Бабалянум» у *Любліне*[3] і ў Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя[4]. Святарскае пасвячэнне атрымаў з рук біскупа Адольфа Юзафа Елавіцкага 23 чэрвеня 1935 г. у *Любліне*. Амаль 20 гадоў вучобы грунтоўна падрыхтавалі яго да выкладчыцкай дзейнасці. У сваёй аўтабіяграфіі кс. Марсангер адзначаў, што пасля заканчэння навучання і да акупацыі Вільні немцамі працаваў у віленскіх школах выкладчыкам рэлігіі. З 1939 да 1940 г. працаваў толькі ў езуіцкай гімназіі. На працягу 1941 г. выконваў выключна святарскія абавязкі ў езуіцкім касцёле ў Вільні[5].

У 1941 г. Віленскі арцыбіскуп мітрапаліт Рамуальд Ялбжыкоўскі заклікаў членаў манаскіх супольнасцяў паехаць працаваць на акупаванай немцамі тэрыторыі СССР. Сваё жаданне выказала група езуітаў з Віленскага калегіума, у тым ліку і кс. Юзаф. Першым месцам працы на Беларусі ў якасці вікарыя для яго стала мястэчка Ракаў. Праз год кс. Юзаф перабраўся ў Будслаў, дзе падчас Другой сусветнай вайны працаваў кс. Станіслаў Жук, які даў прытулак кс. Марсангеру[6].

У ліпені 1944 г. падчас вызвалення Вільні кс. Юзаф быў капеланам аддзела Арміі Краёвай, якім камандаваў былы выхаванец езуіцкай гімназіі Зыгмунт Аўгустоўскі[7]. Што святар перажыў на працягу лета 1944 года — невядома. Прызначэнне на пасаду пробашча ў парафію Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Краснае кс. Юзаф атрымаў 6 верасня 1944 г. (20 — у аўтабіяграфіі)[8]. У гэтым жа месяцы кс. Марсангер прыехаў у Краснае, якое стала для яго домам ажно на 24 гады.

Як успамінае а. Ф. Палюшкевіч, адно з самых цяжкіх рашэнняў кс. Юзаф павінен быў прыняць у 1945 г.: вярнуцца ў межы правінцыі, дзе можна было весці нармальнае манаскае жыццё, альбо застацца ў Беларусі і не ведаць, што прынясе заўтрашні дзень. І гэты выбар кс. Марсангер зрабіў у адпаведнасці з дэвізам ордэну, да якога належаў, — дзеля большай хвалы Божай. Застаўся ў Савецкім Саюзе.

Дзейнасць Касцёла ў БССР распаўсюджвалася толькі на тэрыторыю, якая да пачатку Другой сусветнай вайны ўваходзіла ў склад Польшчы (6 заходніх абласцей) — там яшчэ ў 1939 г. «*действовало 420 костелов, в которых верно и преданно несли службу римскому папе 511 ксендзов. В то время в данных областях насчитывалось более 1 миллиона верующих католиков, слепо повиновавшихся своим пастырям, из них около 490 тыс. поляков и до 600 тысяч белорусов. За время войны разрушено и сожжено 90 костелов, занято под православные церкви и для других надобностей 20 костелов. Таким образом, к началу 1946 г. остава-*

**Раіса Зянюк** — кандыдат гістарычных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі. У 2004 г. скончыла БДПУ імя М. Танка, у 2010 г. — аспірантуру Інстытута гісторыі НАНБ. У 2015 г. абараніла дысертацыю на тэму «Навучальныя ўстановы Рыма-каталіцкай Царквы ў Беларусі (1772–1914): структура і дзейнасць». Даследуе канфесійную гісторыю Беларусі канца XVIII — пачатку XX ст. Жыве ў Мінску.

*лось 310 костелов в которых было 225 ксендзов»*[9].

Пасля вайны ў Мінску не засталося аніводнага дзейнага каталіцкага храма, таму менавіта красненскі касцёл у пасляваенны час пачаў выконваць функцыі сталічнага: да Радашковічаў, якія бліжэй да Мінска, было складаней дабрацца, а да Краснага хадзілі цягнікі.

Кс. Юзаф пасяліўся ў доме каля самага касцёла. Спачатку абслугоўваў яшчэ касцёл у Плябані. Жыў, як і ўсе ў тыя часы, сціпла і бедна. «*Дома было бедна. Краватка, пасцель. Не меў нічога: ні матацыкла, ні машыны, нават ровара не меў. <...> У аднэй комнаце жыла такая старушка Кога. У яе Тоня была дачка і тры ўнукі <...>. Яны хадзілі ў касцёл і так спявалі! Пелі гадзінкі раніцай. Дык вот жылі яны, ксёндз у аднэй комнаце, а яны ў другой. І вот людзі, як з вёсак прыязджалі на конях, хто хлеба булку, хто што прывозілі гэтай бабцы, што яна пры касцеле. Ксяндзу слаба насілі. Можа, не можна было, я не знаю*»[10].



Юзаф Марсангер (злева) з сястрою ў Чэнстахове. 1919 г.

Аб жыцці парафіі ў першыя пасляваенныя гады захавалася няшмат звестак. Няма і людзей, якія б добра памяталі тыя часы. Можна меркаваць, што асноўным заняткам ксяндза ў гэты час была арганізацыя парафіяльнага жыцця і ўласнага быту, наколькі гэта было магчыма ва ўмовах савецкай рэчаіснасці. З 1947 г. савецкая ўлада распачала «арганізоўваць» рэлігійнае жыццё ў Заходняй Беларусі па ўзоры тэрыторый, якія з 1921 г. знаходзіліся ў складзе БССР, дзе ўжо не засталося аніводнага касцёла. На тэрыторыю Заходняй Беларусі распаўсюджвалася савецкае заканадаўства аб культах. Неабходна было арганізаваць душпастырскую дзейнасць ва ўмовах, якія не толькі гэтаму не спрыялі, але былі абсалютна варожымі да любых праяваў рэлігіі ў дзяржаве, якая павінна была ў хуткім часе стаць абсалютна атэістычнай. Варожасць была не пасіўнай: масава зачыняліся святыні, а святары абвінавачваліся ў антысавецкай дзейнасці[11]. Па ўсёй краіне была разгорнута шырокая атэістычная прапаганда. Толькі за тры гады ў перыяд з 1947 да 1950 г. улады прынялі наступныя меры «па ўпарадкаванні дзейнасці каталіцкай царквы»: 1) забаранілі ксяндзам, а ў далейшым і іншым асобам, праводзіць падрыхтоўку дзяцей да Першай Камуніі і навучанне іх катэхізісу; 2) абмежавалі святароў раз'ездамі толькі ў межах адной парафіі; 3) забаранілі сустрэчы святароў у касцёлах, «чтобы придать службе больше торжественности и этим самым привлечь большее количество верующих»; 4) забаранілі святарам «привлекать» школьнікаў для прыслугоўвання ў касцёлах і для ўдзелу ў хорах[12]. У 1948 г. святарам было забаронена абслугоўваць больш за адну парафію. Спробы маладзечанскага дэкана кс. Лазоўскага назваць гэта парушэннем правоў не мелі выніку. Разам з гэтым, ва ўнутранай перапісцы ўпаўнаважаны адзначаў, што «*хотя со стороны Уполномоченного по республике тов. Уласевича и имеются указания о том, что более лояльным ксендзам можно разрешить обслуживать и по два прихода, но со стороны местных властей делаются мне предупреждения, что якобы этого нельзя допустить*»[13]. Незадавальненне святароў гэтай забаронай улады тлумачылі толькі адной прычынай: «*т.к. это мешает их возможности разъезжать по территории приходов и сокращает их личные доходы*»[14].

З лютага 1947 г. у заходніх абласцях распачалася масавая рэгістрацыя і ўлік каталіцкіх рэлігійных аб'яднанняў[15]. У Красным на працягу мая-ліпеня 1947 г. былі сабраны неабходныя дакументы і арганізаваны парафіяльныя групы. Ужо 20 чэрвеня 1947 г. паміж вернікамі красненскай парафіі і выканкамам Радашковіцкага раёна была заключана дамова аб перадачы ў бестэрміновае карыстанне будынка касцёла[16]. Спіс непасрэдных працаўнікоў касцёла складаўся з трох чалавек: пробашча Юзафа Марсангера, сакрыстыянкі Браніславы Эйсмант, вартаўніка Куліка Валяр'яна Іванавіча[17].

З Бранiславай Эйсмант кс. Марсангер пазнаёміўся ў Вільні. Па адных дадзеных, яны разам вучыліся ва ўніверсітэце, па другіх — разам працавалі ў гімназіі, а падчас вайны Браніслава Эйсмант вельмі дапамагла святару. «*Я когда-то спросила о ней у кс. Юзефа, и он мне сказал, что она в Вильнюсе, когда он был капеланом в Армии*

*Краёвой, спасла ему жизнь. Она его прятала в Вильнюсе. И потом, когда кс. Юзеф уже уезжал из Вильнюса, он забрал её с собой. Но до этого она была директором гимназии»*[18]. Па некаторых згадках, яна была безгабітоваю манашкаю, аднак гэта пакуль не пацверджана дакументамі.

У склад рэвізійнай камісіі, якая павінна была кантраляваць фінансавую дзейнасць кс. Марсангера, увайшлі Эдуард Голуб, Марыя Адамовіч, Ганна Шумская[19], а ў парафіяльны камітэт — Павел Шчарбіцкі, Пётр Лагіновіч, Юзаф Зелянко, Станіслаў Шапарэвіч, Ганна Чайкоўская. Сама ж парафія ахоплівала 41 населены пункт і па стане на 24 мая 1948 г. складалася з 853-х чалавек[20].

Святары, касцёлы і плябаніі падвяргаліся рэгулярным вобыскам і канфіскацыі касцёльнай маёмасці. Як адзначаў маладзечанскі ўпаўнаважаны Даманькоў у 1947 г.: «*В последнее время поступают массовые жалобы ксендзов на неправильное и незаконное изъятие книг в костелах и личных библиотеках ксендзов…*»[21]. Агрэсіўнасць уладаў трымала ксяндзоў у пастаянным напружанні. Так, у верасні 1953 г. (ці 1954?) да кс. Марсангера дадому з вобыскам прыйшлі ажно 12 прадстаўнікоў улады. «*Знайшлі і „Гісторыю філасофіі“ Альберта Стокля (Albert Stockl) у апрацоўцы а. Францішка Квяткоўскага. Выявілі там крытыку марксізму. За захоўванне гэтай кнігі быў затрыманы 3 кастрычніка, але ненадоўга*»[22].

Магчыма, пасля гэтага ў прадчуванні небяспекі ксёндз адпраўляўся начаваць у касцёл. «*Было так, што ночай уцякае ў касцёл спаць. Бо прыедуць арыштаваць. Уцячэ, бедненькі. А што прыдуць да яго ночай, то пэўна знаў. Нейкія былі ж прыяцелі, што падкажуць, што прыедуць яго хватаць. Дык уночы паляціць, там у касцеле пачачуе*»[23].

Нягледзячы на цяжкасці, у 50-я гг. кс. Марсангер распачаў непасрэдную працу з людзьмі. Арганізаваў мужчын для паслугі пры алтары. «*Мы былі хажоўскай парафіі. Але ксяндза Пётру Пупіна пасадзілі на 12 гадоў. І тады мы сталі хадзіць сюды. А ксёндз Юзаф прыйшоў у лаўку, відзіць, што чалавек умее, знае і ходзіць — ты бэндзеш послуговаць, гаворыць. Мой бацька, што не ўмею, кажа. А ён сказаў — навучышся! І ў закрыстыю пазваў. І татка хадзіў тады <...> А паслугавалі толькі старыя, дзецям няможна было. Ляўковіч, Шчарбіцкі з Сурынт і татка мой*»[24].

Поўны энергіі, прыгожы, з добрым голасам і слыхам, адукаваны, разумны, мудры чалавек — так адзінагалосна апісваюць кс. Юзафа Марсангера тыя, хто ведаў яго асабіста. «*Вельмі добра спяваў. Голас быў такі магутны. І не цярпеў вось, як ведаеш, бабкі цягнуць. А раней жа ж Імшу тварам да алтара адпраўлялі. Дык як бабкі пачынаюць цягнуць, ён бывае павернецца і з-пад чорных брывей так гляне, і як запяе сам! Такі быў дзёрзкі. Пасля яго такіх не сустракала*»[25].

«*Ой, які ён быў душэўны, а шутлівы, на сказках, такі смеёнцы, такі ўжо быў прасцяк. Надта прасты быў і шутлівы*»[26].

Маючы выдатны слых і голас, умеючы іграць на некалькіх музычных інструментах, кс. Юзаф вялікае значэнне надаваў музычнай частцы набажэнстваў. У 50-я гг. узяўся за рамонт аргана. «*У 1956 годзе я выйшла замуж, ксёндз Юзаф нам шлюб удзяляў. Мы жылі каля самага касцёла. І Юзік, муж мой, іграў на арганах. Ксёндз Юзаф пазваў яго. Панадаваў ксёнжачак і ўчыў яго. Прыходзіць неяк Юзік дадому і кажэць: мы з ксяндзом арганы правілі. Халат, кажэць, ксёндз адзеў і палез. Там пылішча! Ён іграў очэнь красіва, Юзік. Гады тры іграў. Потым Насовіч стаў іграць, Донусь (Данат). І жыў там у ксяндза ў комнаце*»[27].

Пры касцёле, нягледзячы на забароны, заўсёды дзейнічаў хор. «*Я ў працэсіі была, падушачку насіла, Сэрца Езуса. І на хорах пела*»[28].

У часы, калі мала хто са святароў пазбегнуў зняволення, кс. Юзафу шанцавала. А. Палюшкевіч тлумачыць гэта памылкай уладаў. Падчас нямецкай акупацыі іншы езуіт, а. Уладзіслаў Сэнк, дапамагаў савецкай партызанцы і нават быў узнагароджаны за гэта ордэнам Вялікай Айчыннай вайны. Мясцовыя ўлады былі перакананыя, што тым езуітам быў менавіта кс. Марсангер, і таму пытанне аб яго арышце не ўзнімалася[29]. Гэтым жа фактам мясцовыя жыхары тлумачаць тое, што красненскі касцёл ніколі не зачыняўся: «*Гаварылі, што калі была вайна, ён памагаў партызанам, і таму наш касцёл потым не закрылі. Ён адстаяў. А так ці не так — не ведаю*»[30].

Невялікая колькасць святароў у Беларусі вымагала большай узаемадапамогі і фарміравала пачуццё ўзаемнай адказнасці. Па стане на 1959 г. па абласцях Беларусі колькасць святароў была наступнай: у Брэсцкай вобласці — 11, Гродзенскай — 48, Маладзечанскай — 45, Мінскай — 1[31]. Ксёндз Юзаф даваў прытулак святарам, якія па розных прычынах былі пазбаўлены рэгістрацыі альбо не маглі атрымаць яе пасля вяртання са ссылак. Так, з 6 жніўня 1954 г. у кс. Марсангера жыў кс. Такарскі, які марна спрабаваў атрымаць рэгістрацыю і ўладкавацца на працу. У справаздачы ад 10 мая 1955 г. упаўнаважанага І. Кліманскага занатавана: «*В беседе (31 марта 1955) Токарский рассказал, что с 6.09.1954 года он живет у ксендза*

*Красненского прихода Марсангера этого же района и до сих пор не работает. Одновременно просил совета, как ему быть дальше. Выслушав, я разъяснил ему, что претендовать на раковский костел нецелесообразно, т.к. костел еще занят под склад зерна и верующим еще не передан, кроме того, костел требует значительного ремонта. После чего Токарский согласился с моим мнением и сообщил, что он еще болен и пока будет жить у ксендза Марсангера»*[32]. Рэгістрацыю ў Ракаве кс. Такарскі атрымаў толькі ў 1956 годзе[33].

Некаторы час у кс. Марсангера жыў і ксёндз з радашковіцкага касцёла. «*У Радашковічах закрылі касцёл, і ксёндз жыў тут у кс. Юзафа ў Красным трошкі. І тады выехаў у Польшчу. А калі мы шлюб бралі (1956 г. — Р.З.), ксёндз Юзаф нам шлюб удзяляў, а гэты Стэфан*[34] *ксёндз іграў на арганах»*[35].

Красненская плябанія ў 1956 годзе бачыла шмат святароў: без працы, пасля ссылак, звычайных наведвальнікаў кс. Юзафа. У 1956 г. з лагера быў вызвалены а. Антоні Зомбэк, езуіт. Спачатку ён пасяліўся ў кс. Марсангера ў Красным. Менавіта адсюль выязджаў у Оршу, Шабуні, Княжыцы, дзе выконваў душпастырскую паслугу. Аднак ужо праз год, 14.09.1957 г., ён быў арыштаваны і зняволены ў мінскай вязніцы. Разам з ім арыштавалі і кс. Юзафа, але невядома, што менавіта інкрымінавалі кс. Марсангеру: адзінай згадкай была агульная прычына — «антысавецкая дзейнасць»[36].

Падчас зняволення кс. Марсангера, непакоячыся за лёс красненскага касцёла, які без святара мог у любы момант


Автобиография
Ксендз Иосиф Фердинандович Марсангер родился 24 марта 1902 в г. Кракове. Отец мой был железнодорожным работником. Начальное и среднее образование получил в местных учебных заведениях. В 17-м году жизни вступил в духовный сан. По окончании теологического образования в Люблине и в Вильне работал как законоучитель в виленских училищах до оккупации г. Вильна германцами. Когда Вильно отошло к Литве работал как законоучител в монастырской гимназии до 1940 г. В течении 1941 г. занимался только работой в костеле в Вильне. В 1941 г. в августе получил распоряжение от Виленского Архиепископа на приходскую работу, именно как помощник настоятеля в Ракове (Радошковичский район). Отсюда после годичной работы перенесен как помощник настоятеля в г. Будслав, Крививский район, Вилейская область. После освобождения Белоруссии от германцев, получил 20.IX.1944 г. назначение от Архиепископа Виленского на должность настоятеля в Красненском костеле, где нахожусь и в настоящее время.
Красное, д. 28.VI.1947 г. Настоятель

Аўтабіяграфія кс. Юзафа Марсангера. 1947 г.

быць зачыненым, маладзечанскі дэкан кс. Лазоўскі настойліва дамагаўся ад упаўнаважанага Філона рэгістрацыі там кс. Шыманскага. Гэтага ж патрабавалі і вернікі, аднак у дадзенай сітуацыі больш дальнабачным аказаўся менавіта ўпаўнаважаны. «*Лозовскому сказано было, что он зарегистрирован у нас не как декан, а как настоятель костела, и поэтому мы его за декана не считаем, в связи с этим рекомендуем ему в дела другого прихода не вмешиваться*»[27]. У сваю чаргу вернікам «*было разъяснено, что регистрировать второго ксендза на костел в Красном нецелесообразно, снимать же с регистрации ксендза Марсангера, до окончания следствия по его делу у нас нет оснований, а исполнительный орган костела этого вопроса перед нами не ставит, и поэтому решение вопроса надо отложить до окончания следствия по делу Марсангера. С такими доводами представители исполнительного органа красненского костела согласились и просили разрешить ксендзу Лозовскому отправлять в их костеле разовые богослужения. Эта просьба была удовлетворена. В настоящее время после освобождения Марсангера из-под стражи вопрос регистрации второго ксендза на красненский костел отпал*»[38].

Увесь час святара моцна падтрымлівалі парафіяне. Штодзённа па некалькі гадзін перад брамай вязніцы ў Мінску стаялі вернікі, якія прывозілі ксяндзу перадачы. Па словах а. Палюшкевіча: «*Меў усё. Зайздросцілі яму самі вартаўнікі вязніцы. Казалі, што ён тут, як у люксавым рэстаране, а не ў турме. Меў нават апельсіны, якія на волі яму і не сніліся. Больш за ўсё цаніў, аднак, тое, што дапытвалі яго ўдзень, а не ўначы. Начныя допыты многіх псіхічна знішчалі*»[39].

Следства цягнулася два месяцы. Кс. Юзаф Марсангер быў вызвалены, а вось кс. Антонія Зомбка перавялі на 1,5 гады ў вязніцу ў Малдавіі, а адтуль у Польшчу — толькі там праз некаторы час ён быў вызвалены.

Пра свой арышт кс. Юзаф нікому не расказваў. «*Што ён перажыў у нявολі, якія выпрабаванні выпалі на яго долю — аб гэтым ксёндз Юзаф ніколі не апавядаў*»[40]; «*Он никогда не боялся, но в своё время он мне говорил: я мог бы тебе рассказать многое, но я не хочу, потому что знаю, как могут допрашивать, и для чего тебе то, что не нужно, и то, что если будут спрашивать, ты могла бы рассказать*»[41].

Аднак праблемы з уладамі не спыніліся: у 1958 г. яны выгналі святара з касцёльнага дома. «*А тады ж было, што яго з хаты выгналі. Гэта можа 58 год*

*быў. У хляве жыў.* <…> *І вот яны яго выгналі. Ну што ж, у двары хлеў, рашотачкі паставілі ўжо, і вот ён у гэтым хлеве жыў. А тады ўжо неяк людзі грошы злажылі, купіў хатку на 1 Мая*»[42].

Высяленне адбывалася напярэдадні парафіяльнай урачыстасці — 15 жніўня, таму замест падрыхтоўкі да свята ксёндз з дапамогай вернікаў пераносіў з дома свае рэчы. У доме, з якога выгналі кс. Марсангера, размясціўся дзіцячы садок, а пазней паліклініка.

Нягледзячы на забароны, не спынялася і катэхізацыя. Катэхізавацъ дапамагала пані Браніслава[43], якая была асноўным памочнікам святара.

Адукаванасць і вопыт кс. Марсангера прыцягвалі да яго іншых святароў. Улады лічылі, што Краснае і Маладзечна — гэта кіруючыя касцёльныя цэнтры ў Маладзечанскай вобласці. Па словах упаўнаважаных, «*основная и руководящая роль в открытии костелов и регистрации костелов исходит от ксендза-декана молодечненского костела Лозовского Б.А. и ксендза красненского костела Марсангера И.Ф.*»[44].

Аўтарытэт кс. Юзафа сярод духавенства быў бясспрэчным. Пра гэта ведалі і ўлады, у справаздачах якіх адзначалася, што ў БССР няма каталіцкіх структураў і адзінага цэнтра, аднак святары свае дзеянні ўзгадняюць з дэканамі. У Мінскай вобласці імі былі кс. Жук (Касцяневічы), кс. Каласоўскі (Нясвіж), кс. Марсангер (Краснае). Улады адзначалі, што «*последний присвоил себе этот титул (декана. — Р.З.) в 1966 г. после смерти ксендза Лозовского, ранее служившего в Молодечно и являвшегося деканом*»[45].

Пасля размоваў з кс. Марсангерам чыноўнікі давалі яму наступныя характарыстыкі: «*он является ярким приверженцем католицизма, ксендзом-фанатиком, питающий скрытую звериную злобу против советского государства, но создающий видимость лояльности, пытается не нарушать советское законодательство о культах*»[46].

Менавіта ў Красным распачалася тайная фармацыя выхаванца кс. Юзафа — Альберта Масальскага. Пазнаёміліся яны ў Мінску ў 1945 годзе. Альберту Масальскаму тады было 13 гадоў. Спачатку кс. Марсангер быў духоўным айцом Альберта Масальскага, а калі стала зразумелым пакліканне маладога чалавека — яго настаўнікам і выкладчыкам. «*Добра помню ксяндза Альберта. Колькі памятаю, ён заўсёды быў у Красным. Заўсёды быў у цывільным, у касцюме, часам быў міністрантам, але рэдка. Заставаўся часам у ксяндза*»[47]. Як успамінаў сам кс. Альберт, тайныя святарскія пасвячэнні адбыліся ў Польшчы 21 жніўня 1966 года. Здзейсніў іх кардынал Стэфан Вышынскі ў сваёй капліцы[48]. Працягвалася фармацыя і пасля пераводу кс. Марсангера ў Солы, куды рэгулярна прыязджаў Альберт Масальскі. «*Он воспитывал и учил ксендза Альберта Масальского. Он приезжал к нам все время. И когда отпуск был. И на выходных. Я знаю, что он работал в то время в киоске, называли его «киоскёром». Ксёндз его учил и иногда говорил мне, что это очень тяжело. Я думаю, что ему было трудно оттого, что у Масальского не было таких способностей, как у кс. Юзефа. Рукоположение кс. Масальского было в Польше. То, что Масальский стал священником, это заслуга исключительно кс. Юзефа*»[49].

Доўгі час людзі не ведалі, што Альберт Масальскі — святар. Дзейнічаць даводзілася таемна, а знешне весці звыклае жыццё. Спачатку ён працаваў на адным з мінскіх заводаў у планавым аддзеле, але быў звольнены пасля выпадку на мытні: аднойчы, калі ён вяртаўся з Польшчы, у яго знайшлі рэлігійную літаратуру і ружанцы. Пазней працаваў у кіёсках «Саюздруку». На выходных прасіў за грошы замяніць яго на працы, а сам ездзіў у Краснае і ў Солы. Толькі з 1981 г. афіцыйна стаў пробашчам у Солах[50].

Не толькі падрыхтоўку святароў трэба было весці ва ўмовах канспірацыі: усе душпастырскія ініцыятывы былі забароненыя, а іх рэалізацыя выклікала падазрэнні і пераслед. Неаднаразова кс. Марсангер дабіваўся ад мясцовых уладаў дазволу на наведванне хворых, а таксама магчымасці наведваць красненскі шпіталь-стацыянар для таго, каб хрысціць хворых дзяцей і спавядаць дарослых. Аднак «*на просьбу ксендза председатель сельсовета ответил отрицательно в виду того, что в больнице стационаре нет таких условий (отдельной комнаты), чтобы ксендз мог исповедовать больных верующих, то он — ксендз, этот отказ назвал негуманным*»[51].

У Беларусі святары былі абмежаваныя ў выездах для здзяйснення абрадаў. «*Гэта цяпер ксёндз можа паехаць дзе хоча, пайсці. А ён, бедненькі, сядзеў у гэным касцельным доміку*»[52]. З-за забаронаў ездзіў тайна. «*Мы купілі матацыкл з каляскай. І вот ён прыйдзе да нас, яму трэба паспавядаць. Прыйшоў, сеў у каляску, ногі выцягнуў, памераў — бо ён высокі быў — а як ехаць, то ён накрыецца гэтай кляёнкай, каб не відзелі ніхто, што ксёндз. Вазіў мой муж, Юзаф*»[53].

Нягледзячы на гэта, па магчымасці, стараўся клапаціцца і пра іншых святароў і людзей далёка за межамі сваёй парафіі. Падчас размоваў, якія вялі з ім правяраючыя з Камітэта па справах рэлігійных культаў, спрабаваў вярнуць права

на выкананне святарскіх абавязкаў не толькі сабе, але і іншым святарам. У 1959 г., выкліканы на размову да ўпаўнаважанага па рэлігіі, «*ксендз Марсангер выразил возмущение, что мы запретили ксендзу раковского костела Токарскому обслуживать верующих больных в гор. Минске и в его окрестностях, и добавил, что ему самому приходится выезжать к больным в гор. Минск. На мой вопрос к нему, кто разрешил ему выезжать в гор. Минск к верующим, он ответил, что об этом знаете Вы и тов. Лабус. Мною было замечено, что если мы запретили ксендзу Токарскому ездить в гор. Минск для отправления религиозных обрядов, то почему мы Вам разрешили, какая в этом разница? На это ксендз Марсангер мне не ответил, тогда я его предупредил, что если он и в дальнейшем будет посещать верующих в гор. Минске и исполнять религиозные обряды, мы будем вынуждены снять его с регистрации. Ксендз Марсангер сказал, что он это указание будет выполнять, но в душе он с этим не согласен*»[54]. Ездзіць працягваў, нягледзячы на забароны...


Кс. Юзаф Марсангер. 1970-я гады.

Абмяжоўваліся ўсе кірункі дзейнасці духавенства. Упаўнаважаны П. Лабус адзначаў у сваёй справаздачы за 1959 г.: «*В соответствии с советским законодательством, деятельность духовенства мы ограничили. Служитель культа может совершать обряды только в зарегистрированном приходе. Запрещено обучать детей религии и привлекать их для обслуживания ксендзов и для участия в крестных ходах. Запрещено ксендзам создание ружанцовых кружков для женщин, совершать подворные обходы верующих после рождественских праздников, проводить молитвенные собрания и спевки хора по частным квартирам, вне костелов, собирать пожертвования на нужды церкви по домам верующих, заниматься благотворительными целями и т.д.*»[55].

Выкананне гэтых прадпісанняў было немагчымым, бо ўсё забароненае з'яўляецца зместам працы святара. Спачатку кс. Марсангер спрабаваў выконваць некаторыя прадпісанні, напрыклад, аб тым, каб у касцёле не было дзяцей. «*Учыцеля ж хадзілі тады, дзяцей пільнавалі. Дык гэтыя мужчыны, якія паслугавалі, хадзілі і пільнавалі, каб хоць хто з дзіцем не зайшоў, бо ксяндза пасадзяць. А ксёндз жа ж не вінават, што якая матка прывядзець свайго сына ці дочку. Хажоўскага ксяндза за гэта ж і пасадзілі, што дзетак вучыў. Дык гэты дзяцей ужо не вучыў. Таму ён гэты касцёл і так здзяржаў. Ён з власцяй так умеў <...> Хадзілі ў касцёл учыцеля глядзець, хто ходзіць. Была ўчыцельніца <...>. Але прыйдзеш ты, увідзела дзіця якога школьнага — не відзела сказала б! І ўсё. Цябе пасылаюць — ты пайшла. А яна ўсіх выдавала. Вот такія во былі прадацелі*»[56].

Нягледзячы на пастаянныя праслухоўванні, кс. Марсангер казаў аб неабходнасці рэлігійнага выхавання дзяцей, і за гэта ў 1967 г. быў зняты з рэгістрацыі[57].

З часам прыйшло разуменне, што з уладамі трэба «іграць па іх правілах», ды і жаданне працаваць з моладдзю было вельмі моцным. З сярэдзіны 1950-х гг., пасля пераезду на новую плябанію, Краснае стала цэнтрам маладзевага каталіцкага жыцця. «*Любіў з моладдзю. З Мінска прыязджала шмат народу! Дзяўчаты ўжо старэйшыя, з сем'ямі. І начавалі ў яго, там лесвічка была на другі паверх, дзе была абарудавана комната, і там яны і начавалі, тыя дзяўчаткі. І першыя лаўкі ў касцёле былі для іх. Сказаў: толькі для моладзі*»[58]. Ведаючы, што моладзь прыязджае здалёк, а мясцовыя жывуць небагата, увёў традыцыю супольных вячэраў пасля катэхезаў[59].

Падтрымліваў сувязь з Віленскай курыяй. Да Вільні ад Краснага дзве гадзіны на цягніку. «*В отношении продажи религиозной утвари ксендз Марсангер сказал, что таковую верующие привозят из гор. Вильнюса, а свечи для костела покупают в магазинах гор. Вильнюса, куда, кстати сказать, часто ездит и встречается с духовенством епископата*»[60].

Стараўся, па магчымасці, быць у курсе ўсіх падзеяў: савецкай палітыкі, становішча Каталіцкага Касцёла ў свеце, сітуацыі ў Польшчы, міжканфесійных адносінаў, чым шакаваў прадстаўнікоў уладаў, якія перыядычна выклікалі яго

на размовы. Напрыклад, у размове з намеснікам упаўнаважанага Савета па справах рэлігійных культаў пры Савеце міністраў БССР Ярашэвічам, калі апошні запытаўся, «*что ему известно о созыве Вселенского собора католической церковью, он <...> ответил, что он про созыв Вселенского собора слышал по радио из заграницы и добавил, что в Польше имеется его сестра, которая информирует о всех новостях <...> По вопросу религии, кроме того, он выписывает газету из Польши „Житье Варшавы“. Далее Марсангер сказал, что в этом году Папа проводил на одном из островов Италии совещание нескольких представителей религиозных центров по вопросу созыва Вселенского собора. <...>*

*Из беседы с ксендзом Марсангером выяснено, что он в курсе дела католической церкви в Англии, Франции и [разных] городах. <...> Через какие источники он знает все новости из заграницы про католическую церковь, кроме радио и газет — трудно сказать.*

*В конце беседы он сказал, что когда Н.С. Хрущев поехал в США, то Папа дал телеграмму всей католической церкви провести богослужение за успешные переговоры и установление прочного мира на земле.*

*Вторую телеграмму Папа Римский давал католической церкви, чтобы она молилась за мир. Этим самым Марсангер подчеркнул, что руководство католической церкви стоит за то, чтобы во всем мире был мир. <...>*

*[Вопросы] выступления нашей печати о религии Марсангер переносит болезненно (он привел в пример [выступление] в печати о Жировичской семинарии) и сказал, что в печати необходимо выступать с научной точки зрения перевоспитания верующих масс, убеждать верующих, а не выступать с критикой отдельных служителей культа, это ничего не даст*»[61].



Кс. Юзаф Марсангер з маладымі пасля сакрамэнту шлюбу. 1974 г.

Улады вельмі непакоілі спробы ўплыву Ватыкана на Касцёл у СССР. «*Положение католической церкви в СССР не только беспокоит ксендзов, но и Ватикан. Это видно из того, что он ежегодно засылает свою агентуру в нашу страну в качестве туристов. Так, 9 ноября 1966 года в гор. Минске был один такой агент Ватикана — ксендз Леклер, который прибыл в СССР в качестве туриста. Он третий раз приезжает к нам с целью ознакомления с состоянием церкви в СССР*»[62].

Кс. Марсангер вельмі спадзяваўся, што становішча Каталіцкага Касцёла ў СССР зменіцца пасля запланаванай сустрэчы М.В. Падгорнага з папам Паўлам VI падчас прабывання савецкай урадавай дэлегацыі ў Італіі. Думаў аб тым, што «*после встречи Папы с тов. Подгорным наконец-то в Белоруссии появится епископ, а возможно, даже будет представитель Ватикана в Москве*»[63].

Становўча ўспрыняў рашэнні Другога Ватыканскага сабору, аднак негатыўна паставіўся да звароту кардынала Вышынскага да епіскапаў Заходняй Германіі (1966 г.). На думку кс. Марсангера, гэтым кард. Вышынскі зменшыў свой аўтарытэт — немцы знішчылі шмат польскага народу і святароў, таму зварот быў неразумным дзеяннем[64].

Дзякуючы працы кс. Марсангера Краснае стала цэнтрам рэлігійнага жыцця Міншчыны. На святы сюды сцягваліся вернікі з усёй вобласці. Начальніку чыгуначнай станцыі даводзілася нават замаўляць дадатковыя цягнікі. У сакрэтнай дакладной запісцы на імя П. Лабуса ад 17 жніўня 1961 г. адзначана: «*В м-ке Красное религиозный праздник начался тогда, когда поезд из гор. Минска привез в красненский костел более 1 000 верующих. Этим поездом ехали верующие из Минска, Дзержинска, Борисова, Заславля, Олехнович; несколько человек было из Орши и других мест.*

*Религиозный праздник „Успение Богородицы“ продолжался с 11 часов утра до 17 часов вечера. После 17 часов верующие, которые прибыли из Минска, все не уехали, так как не было свободных мест.*

*Начальник станции Уша в разговоре со мной сказал, что ему пришлось затребовать специально пассажирский состав из Минска для того, чтобы всех граждан отправить по направлению Минска. В этот день кассирша ст. Уша продала жд билетов в сторону Минска 618. <...>*

*Из общего количества верующих, прибывших поездом, были в основном пожилых возрастов и преобладающее количество женщин. Детей школьного возраста прибыло с родителями около 25 и молодежи до 25 лет около 50 человек.*

*На религиозный праздник „Успение Богородицы" к костелу прибыло довольно большое количество престарелых верующих, инвалидов, которые, сидя на лестнице, просили милостыню. Кроме того, часть инвалидов привезли с собой самодельные конфеты разных форматов, религиозную утварь разных форматов и др.*

*По нашему настоянию (я был с т. Пономаревым), участковый милиционер пригласил в сельсовет тех, кто продавал религиозную утварь, составил акт и отправил их в Молодечно в ОБХС.*

*В молодеченском и лебедевском костелах в этот религиозный праздник было мало верующих: в молодеченском костеле около 80 человек и в лебедевском около 150 человек*»[65].

Забаранялася і важная рэлігійная дзейнасць, напрыклад, бежмаванне, «*так как это приведет к значительной активизации католицизма не только в области, но и в республике*»[66] Аднак кс. Марсангер рабіў гэта індывідуальна.



Дом, у якім жыў кс. Юзаф у Солах.

Просьбы каталіцкага насельніцтва аб адкрыцці касцёла ў Мінску і ўлады, і вернікі звязваюць з асобаю кс. Марсангера. Аб непасрэдных яго закліках дакладвалі асобы, якіх адпраўлялі праслухоўваць набажэнствы. «*Подобной практикой занимаются <...> кс. Марсангер, настоятель костела в Красном. Последний во время богослужения, на котором присутствовали и католики из г. Минска, в своей проповеди, произнесенной в начале июня сего года, призывал католиков г. Минска не прекращать своей деятельности, связанной с открытием костела в г. Минске, подавать ходатайства по этому вопросу в правительственные органы, рекомендовал им организовать массовые шествия католиков и проводить другие мероприятия. Не случайно 25 июня сего года католики гор. Минска в количестве 70 человек явились на прием в Совет Министров БССР по вопросу открытия костела в городе*»[67].

Мінскія католікі напісалі ліст праваслаўнаму мітрапаліту Мікалаю, якога прасілі хадайнічаць аб адкрыцці касцёла. Апошні звярнуўся да патрыярха Пітрыма, а той пераслаў ліст упаўнаважанаму па справах Рускай Праваслаўнай Царквы, апошні — упаўнаважанаму па справах рэлігійных культаў — Лабусу. Кола замкнулася, аднак актыўнасць вернікаў не знізілася. Мінскія католікі рыхтавалі ў апошнія дні снежня 1956 г. дэманстрацыю перад Домам ураду, каб паказаць сваю колькасць і звярнуць увагу на праблему. Аднак выкрыццё гэтых планаў перашкодзіла іх рэалізацыі. Упаўнаважаны адзначаў, што «*и сейчас их (католікаў. — Р.З.) в Минске проживает много, и в большинстве своем фанатики. Во время выборов в местные советы депутатов трудящихся многим депутатам задавали вопросы, почему не разрешают открывать костел в гор. Минске, в то время как работает три церкви, синагога и молитвенный дом баптистов*»[68].

У 1968 г. кс. Марсангер быў пераведзены на новае месца працы. Яго перавод быў выкліканы падазрэннем уладаў у дзейнасці кс. Марсангера па адкрыцці ў Мінску касцёла, значным уплывам святара на сталічных католікаў, а таксама актыўнасцю вернікаў сольскай парафіі, якія дабіваліся рэгістрацыі ў іх касцёле ксяндза[69].

У Солах, нягледзячы на ўзрост (меў ужо 66 гадоў), ксёндз не сядзеў без справы: перадусім узяўся за рамонт касцёла і арганізацыю працы з парафіянамі. «*Вечерами он собирал в костёле детей, прихожан и разучивал песни новые. Говорил, что завтра после Имши он ждёт детей с родителями, чтобы разучивать новые песни. К каждому празднику разучивали новые. Руководил. Выйдет, листочки раздаст напечатанные. Я думаю, что пани Бронислава печатала на машинке. Он играл на нескольких инструментах. Очень хорошо рисовал. В костёле в середине была нарисованная им Матерь Божья. Он постоянно что-то делал. Печатал на машинке тексты песен, учил с людьми, писал, рисовал, ремонтировал — ни минуты без дела*»[70].

Туга па выкладчыцкай дзейнасці прывяла да таго, што ў Солах ксёндз пачаў займацца навучаннем дзяцей з сем'яў, з якімі быў у добрых адносінах...

Дабірацца да Солаў было складаней, чым да Краснага, але да кс. Марсангера працягвалі прыязджаць мінчане і яго выхаванцы з іншых гарадоў. Працягвалася заснаваная ў Красным традыцыя супольных размоваў-катэхезаў і абедаў альбо вячэраў для моладзі

пасля іх. «*Нас всегда много у него собиралось, особенно если минчане приезжали. <...> На выходных очень много приезжало молодежи. И из России — как они его знали? И вот всё, что мы узнавали о религии, это всё с тех встреч. Он очень привлекал молодежь. Он не был политизирован. <...> С нами, с молодежью, он говорил о том, о чем с нами родители не говорили. Я, например, про все женские дела узнала от него, потому что родители об этом не говорили, в школе тоже. Когда вышла замуж, рассказывал про предохранение, о том, что нельзя. Когда уже забеременела — о том, что в случае опасности я могу окрестить своего ребенка сама. Говорил: если будешь видеть, что ребенок слабенький — не жди. Потом принесёшь в костёл*»[71].

Са з'яўленнем у Солах кс. Марсангера мястэчка стала цэнтрам душпастырскай дзейнасці. Толькі за няпоўны 1968 г. кс. Марсангер паспавядаў 7000 чалавек, у тым ліку звыш 200 дзяцей[72]. На споведзь да яго ездзілі з усёй рэспублікі. Аднак блізкіх людзей, з якімі сябраваў, не спавядаў. «*В последнее время он меня уже не исповедовал. Сказал, что у нас слишком хорошие отношения, и ему будет сложно. Поэтому, когда к нему приезжали священники, он мне звонил и говорил, если хочешь на исповедь, беги, есть ксёндз*»[73].

Трымаў сябе ў інтэлектуальнай форме: шмат чытаў, з пані Браніславай размаўляў па-лацінску, па-грэцку[74]. У Солах набыў сабе матацыкл, які служыў яму для блізкіх паездак[75].

Да кс. Марсангера часта прыязджалі святары. «*Священники из деканата очень часто приезжали: из Островца всегда — Алойзы, из Гервят ксёндз. Кроме того, он дружил со священником Яношем Робером — я так понимаю, он сидел с ним. Приезжал священник*



Магіла кс. Юзафа на могілках у Солах.

*из Бибрки, это Украина. Это недалеко от Львова, может километров 14–15. Они очень дружили. Но тот был греко-католик, венгр по национальности*»[76].

У 60–70-я гг. асноўным метадам змяншэння актыўнасці святароў былі фінансавыя спагнанні. Розныя камісіі па кантролі за выкананнем заканадаўства аб культах рэгулярна ладзілі праверкі. Было выяўлена, што «*служитель культа Масонгер (sic) делал попытку ввести индивидуальную обработку верующих, особенно молодежи и детей, в результате часть детей дошкольного и школьного возраста Сольского с/с начали посещать костел. Члены комиссии приглашали Масонгера и председателя костельного комитета, делались им серьёзные предупреждения. В ноябре-декабре месяце Сольский костел без ведома органов власти был радиофицирован. На заседании административной комиссии председатель костельного комитета Астюневич Иван Антонович оштрафован на 50 рублей, предложено в недельный срок убрать средства радиофикации*»[77]. У чарговы раз за радыёфікацыю касцёла, а таксама за навучанне дзяцей рэлігіі кс. Юзафа і старшыню касцёльнага камітэта аштрафавалі ў 1971 г. — кожнага на 50 руб.[78]

За 9 месяцаў 1969 г. сольскі касцёл пералічыў у фонд міру 340 руб., што складала 7,8% ад яго агульнага даходу (4359 р. — сума збораў за 9 мес.). У Гродзенскай вобласці больш плацілі толькі касцёлы ў Васілішках і Поразаве[79].

Упаўнаважаных па рэлігіі вельмі непакоілі настроі духавенства ў сувязі з падзеямі ў Чэхаславакіі. У выніку праслухоўванняў было высветлена: «*Ксендзы Лазарь из Бреста, Марсангер из д. Солы считают, что мы не должны были вмешиваться в дела Чехословакии. „Пусть чехи и словаки — говорят они — строят социализм, какой им хочется", и т.д. <...> Из этого мы делаем выводы и принимаем меры по улучшению работы с духовенством*»[80].

Кс. Марсангер удзяляў тайныя шлюбы. «*Я ездзіла да яго вянчацца, у Солы. Мы тайна ездзілі. Ксёндз Ян сказаў — тут (у Красным. — Р.З.) вянчаць не буду, ты тут працуеш, у камсамоле, навошта праблемы. Едзь у Солы. Мама з'ездзіла ў Солы, ён сказаў — канешне, прыязджайце*»[81]. Найбольш клапаціўся пра блізкіх знаёмых: «*Венчаться я хотела открыто. Но муж мой закончил Гродненский мединститут. И собирались студенты приехать к нам на свадьбу, но почему-то ксёндз Юзеф сказал, что венчание будет за закрытыми дверьми. Он сказал, это дело касается не только тебя*»[82].

За ўвесь час кс. Марсангер ні разу не выехаў у Польшчу. Спачатку гэта было небяспечна — у выніку нават тыднёвай адсутнасці пры касцёле пасля вяртання можна было даведацца аб тым, што будынак «па

просьбе вернікаў» перайшоў у карыстанне дзяржавы. Аднак і пазней далёка не ад'язджаў, бо ўпаўнаважаныя па рэлігіі падазрона ставіліся да выездаў святароў за мяжу. Напрыклад, П. Лабус разважаў: «*Встает вопрос. Какая цель преследуется теми органами, которые выдают разрешение на право поездки ксендзами Белоруссии в Польскую народную республику? Об этой цели я не знаю, но известно одно, что эти поездки имеют своим следствием активизацию ксендзов, активизацию в целом католической церкви в западных областях Белоруссии, в чем никто из нас не заинтересован. В связи с вышеуказанным прошу ЦК Компартии Белоруссии вмешаться в это дело и дать соответствующее указание административным органам о прекращении выдач разрешений ксендзам Белоруссии на поездку в ПНР, ибо от этих поездок, кроме активизации католицизма, мы больше ничего иметь не будем*»[83].

Пры неабходнасці ў Польшчу выязджала Браніслава Эйсмант. У 1967 г. пры вяртанні з Польшчы падчас дагляду на мяжы ў яе забралі рэлігійную літаратуру і прадметы культу[84]. Неабходную дапамогу часам аказвалі і парафіяне. «*Мои родители поехали в Польшу. Из Польши они везли мшал. Везли его в коробке из-под конфет. Маму досматривали полностью. Отца не так. Если бы их поймали, это было бы чревато серьёзными последствиями*»[85].

Апошнія гады жыцця ксёндз Юзаф хварэў. «*В последнее время он очень сдал, мучился с ногами. Туда ездили почти все наши доктора сморгонские. Для моего мужа кс. Юзеф остался единственным ксендзом, с которым он общался*»[86].

Памёр кс. Юзаф 9 чэрвеня 1982 года. Нягледзячы на праведзеную працу ў архівах і з людзьмі, якія дзяліліся сваімі ўспамінамі пра святара, застаецца яшчэ шмат пытанняў і недакладнасцяў, але гэта яшчэ больш падштурхоўвае для далейшых пошукаў і працы.

---

[1] Paluszkiewicz F. Ostatni mohikanin. W: Przyszli służyć, Rzym. — 1985. — S. 14.
[2] Маладзечанскі занальны архіў (МЗА). Фонд 895. Воп. 2. Спр. 17. Арк. 33.
[3] Дзейнічала ў перыяд 1922/1926–1939/1951 гг.
[4] 1926 г. — скончыў філасофію ў Любліне, 1932 г. — класічную філалогію ў Вільні, 1936 г. — тэалогію ў Любліне. МЗА. Фонд 895, воп. 2, спр. 17, арк. 33 (іншыя звесткі: духоўнае званне — Вільнюская духоўная акадэмія, 1926; філалагічны факультэт Вільнюскага ўніверсітэта — 1932; Люблінская духоўная акадэмія — 1936; пасвячэнне — 1935. Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці (ДАГВ) 475–1–129. С. 57, адв. — 58).
[5] МЗА. Фонд 895. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 8.
[6] Śmierci się z nas nikt nie boi. Listy kapłanów archidiecezji wileńskiej z ZSRR. — Białystok, 2012. — S. 94–95; НАРБ. Фонд 952. Воп. 4. Спр. 22. Арк. 56; МЗА. Фонд 895. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 8.
[7] Paluszkiewicz F. Ostatni mohikanin. S. 14.
[8] МЗА. Фонд 895. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 4.
[9] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Фонд 952. Воп. 2. Спр. 23. Арк. 1–2.
[10] Успаміны Казак (ва ўласнасці аўтара).
[11] «За связь и поддержку антигосударственных и бандитских элементов, за непосредственное участие в антисоветской и шпионской деятельности в период с 1946 г. по 1 июля 1950 г. арестовано и осуждено на разные сроки тюремного заключения 62 ксендза. Чувствуя за собой вину перед государством и боясь понести наказание за свою антисоветскую деятельность, 10 ксендзов сбежали. Таким образом, на 1 июля 1950 г. осталось на территории БССР 104 ксендза, которые обслуживают 103 костела с приблизительным количеством верующих 247 тысяч человек. Кроме этих 104 действующих костелов, в 91 костеле верующие собираются без ксендзов (примерно 139 тысяч верующих). В течение 1947–1949 гг. 50 костелов занято органами „заготзерно“ под зерносклады» / 28.06.1950. К. Уласевич (НАБ, 952–2–23. Справаздачы за 1950 г., с. 2–2). Паводле падлікаў упаўнаважаных, 38 ксяндзоў у Беларусі за антысавецкую дзейнасць прабылі ў зняволенні агулам больш за 100 гадоў. Цыт па: НАРБ. Фонд 136. Воп. 2. Спр. 25 (1971 г.). Арк 18.
[12] НАРБ. Фонд 952. Воп. 2. Спр. 23. Справаздачы за 1950 г., Арк. 205.
[13] МЗА. Фонд 855. Воп. 2. Спр. 6. Арк. 8.
[14] НАРБ. Фонд 952. Воп. 2. Спр. 19 (1949 г.). Арк. 125.
[15] НАРБ. Фонд 952. Воп. 2. Спр. 23. Справаздачы за 1950 г.
[16] МЗА. Фонд 895. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 2 адв.
[17] МЗА. Фонд 895. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 9.
[18] Успаміны Франюк (ва ўласнасці аўтара).
[19] МЗА. Фонд 895. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 15.
[20] МЗА. Фонд 895. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 10–10 адв.
[21] МЗА. Фонд 855. Воп. 2. Спр. 5. Арк. 22.
[22] Paluszkiewicz F. Ostatni mohikanin. S. 14.
[23] Успаміны Казак (ва ўласнасці аўтара).
[24] *Тамсама.*
[25] Успаміны Хамічонак (ва ўласнасці аўтара).
[26] Успаміны Казак (ва ўласнасці аўтара).
[27] *Тамсама.*
[28] *Тамсама.*
[29] Paluszkiewicz F. Ostatni mohikanin. S. 15.
[30] Успаміны Хамічонак (ва ўласнасці аўтара).
[31] НАРБ. Фонд 952. Воп. 4. Спр. 22 (1959 г.). Арк. 117.
[32] МЗА. Фонд 855. Воп. 2. Спр. 20. Арк. 80.
[33] МЗА. Фонд 895. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 42.
[34] Стэфан Шыманскі, 1911 г.н., у 1957 г. выехаў у Польшчу. МЗА. Фонд 859. Воп. 1. Спр. 3, Арк. 43.
[35] Успаміны Казак (ва ўласнасці аўтара).
[36] НАРБ. Фонд 136. Воп. 2. Спр. 11. Арк. 84.
[37] МЗА. Фонд 895. Воп. 2. Спр. 25. Арк. 20.
[38] МЗА. Фонд 895. Воп. 2. Спр. 25. Арк. 20.
[39] Paluszkiewicz F. Ostatni mohikanin. S. 15.
[40] Лагуновіч Францішак. Ксёндз Юзаф Морсангер. Маладзечна, 2005. Рукапіс з архіва касцёла св. Юзафа ў Маладзечне.
[41] Успаміны Франюк (ва ўласнасці аўтара).
[42] Успаміны Казак (ва ўласнасці аўтара).
[43] Успаміны Хамічонак (ва ўласнасці аўтара).
[44] НАРБ. Фонд 952. Воп. 4. Спр. 2 (1956). Арк. 269.
[45] НАРБ. Фонд 136. Воп. 2. Спр. 11. Арк. 89.
[46] НАРБ. Фонд 952. Воп. 4. Спр. 22 (1959 г.). Арк. 56.
[47] Успаміны Хамічонак (ва ўласнасці аўтара).
[48] Калевіч Г. Вернасць пакліканню // Наша вера. 2010. №7.
[49] Успаміны Франюк (ва ўласнасці аўтара).
[50] Калевіч Г. Вернасць пакліканню // Наша вера. 2010. №7.
[51] НАРБ. Фонд 952. Воп. 4. Спр. 22 (1959 г.). Арк. 155–156.
[52] Успаміны Казак (ва ўласнасці аўтара).
[53] *Тамсама.*
[54] НАРБ. Фонд 952. Воп. 4. Спр. 22 (1959 г.). Арк. 157.
[55] *Тамсама.* Арк. 118.
[56] Успаміны Казак (ва ўласнасці аўтара).
[57] НАРБ. Фонд 136. Воп. 2. Спр. 11. Арк. 85.
[58] Успаміны Хамічонак (ва ўласнасці аўтара).
[59] *Тамсама.*
[60] НАРБ. Фонд 952. Воп. 4. Спр. 22 (1959 г.). Арк. 158.
[61] *Тамсама.* Арк. 159–160.
[62] НАРБ. Фонд 136. Воп. 2. Спр. 5. Арк. 235.
[63] *Тамсама.* Спр. 11. Арк. 86.
[64] НАРБ. Фонд 136. Воп. 2. Спр. 5. Арк. 82.
[65] НАРБ. Фонд 952. Воп. 4. Спр. 30. Арк. 74 – 75.
[66] *Тамсама.* Спр. 22 (1959 г.). Арк. 149‑150.
[67] *Тамсама.* Спр. 10. Арк. 77.
[68] *Тамсама.* Воп. 3. Спр. 6. Арк. 15‑17.
[69] ДАГВ. Фонд 475. Воп. 1. Спр. 23 (1968 г.). Арк. 49.
[70] Успаміны Франюк (ва ўласнасці аўтара).
[71] *Тамсама.*
[72] НАРБ. Фонд 136. Воп. 2. Спр. 15 (1968 г.). Арк. 20.
[73] Успаміны Франюк (ва ўласнасці аўтара).
[74] *Тамсама.*
[75] *Тамсама.*
[76] *Тамсама.*
[77] ДАГВ. Фонд 475. Воп. 1. Спр. 41 (1969 г.). Арк. 32.
[78] *Тамсама.* Спр. 52. Арк. 40.
[79] *Тамсама.* Спр. 42 (1969 г.). Арк. 13.
[80] НАРБ. Фонд 136. Воп. 2. Спр. 14. Арк. 9.
[81] Успаміны Хамічонак (ва ўласнасці аўтара).
[82] Успаміны Франюк (ва ўласнасці аўтара).
[83] НАРБ. Фонд 952. Воп. 4. Спр. 22 (1959 г.). Арк. 144.
[84] НАРБ. Фонд 136. Воп. 2. Спр. 11. Арк. 88.
[85] Успаміны Франюк (ва ўласнасці аўтара).
[86] *Тамсама.*

# «ТАЙНА ГЖЭЧНАЕ ПАНІ ЭЛЬЖБЕТЫ...»

Развагі над кнігай Валера Каліноўскага
«ПАНІ ЭЛЬЖБЕТА: Гісторыя адной прыязьні». —
Смаленск: Інбелкульт, 2016




Кнігу, пра якую пойдзе гаворка, хочацца бясконца трымаць у руках, перагортваць яшчэ і яшчэ, ужо ўважліва, з асалодай, прачытаныя старонкі, каб вярнуцца ў лёс гераіні, якой яна прысвечана: «Пані Эльжбета: Гісторыя адной прыязьні». Аўтар кнігі — вядомы журналіст і пісьменнік Валер Каліноўскі, абраў адмысловы жанр партрэта-інтэрв'ю, прайшоў перыпетыямі лёсу сваёй гераіні і стварыў яркі, запамінальны вобраз прыгожай і выключна абаяльнай жанчыны, слыннага вучонага-беларусіста, прафесара Варшаўскага ўніверсітэта, а таксама дыпламата — першага амбасадара Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь (1991 — 1995 гг.) — пані Эльжбеты Смулковай.

Кніга ўзрушвае і захапляе чытача больш як прыгодніцкі ці авантурны раман, бо ў яе аснове ляжаць факты і дакументы, што раскрываюць праўдзівы лёс жанчыны, якая перажыла разам са сваёй сям'ёй усе драмы і трагедыі, якія выпалі на долю беларусаў і палякаў у XX стагоддзі, а гэта перадусім жудасныя рэпрэсіі сталінскага таталітарнага рэжыму супраць паняволеных народаў былой расійскай і новай савецкай імперыі. Мужна вытрымаўшы ўсе тыя завеі і сцюжы, ёй дадзена было самой упісаць яркія, поўныя жыццесварвальнай моцы і надзеяў старонкі ў гісторыю і культуру менавіта нашай краіны, спрычыніцца да ўмацавання яе дзяржаўнасці, а таксама пакласці новы пачатак садружнасці, супрацоўніцтву і ўзаемаразуменню нашых народаў дзеля будучыні.

Кніга Валера Каліноўскага — гэта не проста пераказ біяграфіі славутага чалавека, вядомай асобы. Гэта глыбокі роздум аб лёсе чалавека ў гістарычным часе і аб часе, які працякае праз чалавечы лёс. У гэтым узаемапрацяканні найважнейшае, можа, не колькасць і незвычайнасць вонкавых падзеяў, а тая ўнутраная дужасць, моц духу, якія дапамагалі рабіць належны выбар, не збочваць з цяжкіх невядомых шляхоў, бачыць наперадзе тое заўсёднае выратавальнае святло, якое дае ўнутраны зрок, выхаваны глыбокай хрысціянскай верай. Аўтар кнігі зрабіў мужнае ўласнае падарожжа ў той Час і Лёс, прайшоў і праехаў не толькі «горнімі», але й балючымі сцежкамі сваёй гераіні, а таму яго аповед так узрушвае чытача. Пані Эльжбета прызналася, што сама даведалася з кнігі нямала новага пра некаторыя абставіны, звязаныя з яе ўласнай біяграфіяй, «да прыкладу, што ўжо расце тайга на месцы сібірскай вёскі Усць-Сільга на беразе Васюгану», куды яе з мамаю і сястрою высадзілі з баржы ў 1941 годзе.

Кніга складаецца з пяці частак, назвы якіх гавораць самі за сябе, і кожная з іх асвятляе найважнейшыя этапы ў біяграфіі гераіні: 1) Эльжуня; 2) Ліза; 3) Эльжбета; 4) Пані прафэсар; 5) Пані амбасадар. Здзіўляе, наколькі глыбока здолеў аўтар увабраць у сваю свядомасць лёс іншага чалавека, перажыць яго ў сваёй душы, творча перастварыць, каб паказаць-адкрыць для іншых. Але гэта было невыпадкова. Якія ж акалічнасці, якія аб'ектыўныя і суб'ектыўныя абставіны паспрыялі таму, што менавіта пані Эльжбета Смулкова, пані прафесар і амбасадар, стала гераіняй новай кнігі пісьменніка. Паслухаем, што гаворыць ён сам пра перадумовы, творчыя імпульсы і нараджэнне задумы стварыць літаратурную біяграфію пані Эльжбеты Смулковай.

«Я ведаю пані Эльжбету з часоў яе працы ў Менску амбасадарам, быў на ейных лекцыях у Варшаўскім унівэрсытэце, на зьместоўнай навуковай канфэрэнцыі ў Беластоку, прысьвечанай гісторыі, гаворкам і культуры Палесься і Падляшша, калі яна ачольвала катэдру беларускай культуры Ўнівэрсытэту ў Беластоку, слухаў яе выступы на кангрэсах беларусістаў і славістаў у Менску, — піша В.Каліноўскі ва ўступе да сваёй кнігі. — Я глыбока ўдзячны пані Эльжбеце за згоду на вялікае інтэрв'ю, якое заняло цэлы тыдзень у снежні 2014 году і сталася добраю асноваю для напісаньня гэтай дакумэнтальнай кнігі. Я пастараўся разгадаць, кажучы словамі вядомага паэта-дысідэнта, а пазьней манаха Жыровіцкай абіцелі Зьніча, "тайну гжэчнае пані Эльжбеты", заглянуць у яе дзіцячыя і студэнцкія гады, калі яна фармавалася як асоба, распавесьці пра сямейныя ды асабістыя драмы й трагедыі, якія перажыла яна разам з многімі ў крывавым XX стагодзьдзі, паказаць яе лёс як адбітак гісторыі».

Вельмі кранаюць тыя старонкі кнігі, дзе апісваюцца дзіцячыя гады гераіні, страшныя падзеі, якія ёй давялося перажыць. Львоў

— калыска яе дзяцінства, там яна нарадзілася акурат на святога Яна, 24 чэрвеня 1931 года. Высакародная паважаная сям'я: маці-настаўніца Яніна Баранова (*Schoferówna* ў дзявоцтве) паходзіла з сям'і паланізаваных аўстрыйцаў; бацька — інжынер-ляснік Казімеж Баран, паходзіў з польскай сям'і, з Перамышля; яны пабраліся шлюбам у 1929 годзе. Пераломны 1939 год прынёс падзеі, якія абрынулі сям'ю ў бяздонны вір народнай трагедыі, звязанай з жорсткімі рэпрэсіямі сталінізму. Бацьку пані Эльжбеты у ноч на 23 сакавіка 1940 года забралі «людзі ў цывільным», і больш сям'я яго не пабачыла. Ён быў рэпрэсаваны «як службовец польскай адміністрацыі» і неўзабаве расстраляны, падзяліўшы лёс шматлікіх іншых ахвяраў вядомага Катынскага спісу. У маі 1941 года вывезлі ў Сібір і ягоную жонку разам з дзвюма малымі дочкамі Эльжуняю і Марылюсяю. Мужнасць і моц духу дапамаглі жанчыне з дзецьмі выжыць у тых нялюдскіх умовах, а чарговыя гістарычныя перыпетыі — вайна, як ні парадаксальна гэта гучыць, дзіўным чынам дапамаглі выратавацца, вырвацца з тых суровых умоваў — «голаду і холаду Сыбіру», цалкам не прыдатных для жыцця з малымі дзецьмі, і ўрэшце ў 1946 г. вярнуцца на радзіму.

Сімвалічны момант, перажыты ў дзяцінстве, стаў, магчыма, асновай для фарміравання будучага характару гераіні кнігі. Аўтар акрэслівае яго ў якасці эпіграфа да раздзела пра дзяцінства Эльжуні. Гэта словы з успамінаў самой пані Эльжбеты пра ноч арышту бацькі, калі яна, спалоханая дзяўчынка, бачачы чужых людзей, хаваецца ў спальні, заскоквае ў свой ложак: «...Праз хвіліну ў спальню заходзіць бацька ў верхняй вопратцы, адразу за ім чужак у цывільным. Бацька сакрэтным рухам усоўвае мне ў ручку свой заручальны пярсьцёнак: «Памятай, чыя ты дачушка!» Цалуе і сыходзіць. Да болю сьціскаю ў зацінутым кулачку той незразумелы тады скарб...».

Старонка за старонкай разгортваюцца перад чытачом кнігі перыпетыі далейшага лёсу гераіні: яе шлях ад пястункі-дзіцяці Эльжуні, не па гадах пасталелага ў сібірскіх выпрабаваннях падлетка Лізы, удумлівай студэнткі Эльжбеты — да знанага навукоўца-лінгвіста, аўтарытэтнага даследчыка беларускай мовы, польскага беларусіста, які даследуе лінгва- і этнакультурную спецыфіку рэгіянальнага памежжа, са сваёй школай вучняў у Беларусі і ў Польшчы («Пані прафэсар»). Спецыфіка навуковай дзейнасці пані прафесара спрычынілася не ў малой ступені і да таго, што па ўсёвызначальнай волі Усявышняга ёй давялосяператварыцца ва ўдумлівага, разважлівага, спагадлівага ды цвёрдага ў сваіх дзеяннях і перакананнях дыпламата («Пані амбасадар»), які паспрыяў пераадольванню паміж нашымі народамі гістарычнай прорвы, утворанай крывавымі дыктатарамі і іх рэжымамі ў XX стагоддзі. Насамрэч, не перабольшваннем будзе сцвердзіць, што пані амбасадар за пяць гадоў сваёй пасольскай місіі паспрыяла дзяржаўнаму адраджэнню нашай краіны, нацыянальнаму ўздыму і беларусізацыі рэлігійнага, культурнага жыцця, яна таксама стаяла ля вытокаў стварэння ўплывовай навуковай арганізацыі «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў», якая ўжо 25 гадоў працягвае сваю плённую дзейнасць, аб'ядноўваючы навукоўцаў-беларусістаў з розных краінаў свету.

Важны момант, на якім слушна акцэнтуе ўвагу аўтар кнігі, — сустрэча на жыццёвым шляху гераіні іншых людзей: не тых «чужакоў у цывільным», якія неслі страх і бяду, а блізкіх у высокіх памкненнях і з цёплымі душамі настаўнікаў, дакладней, настаўніц — дасведчаных мовазнаўцаў і педагогаў — прафесараў Галіны Турскай у Торуні і Антаніны Абрэмскай-Яблоньскай у Варшаве, якія скіравалі сваю таленавітую вучаніцу да зацікаўленняў народнымі гаворкамі, благаславілі на тыя аб'ёмістыя ды нялёгкія «палявыя доследы», што правялі яе шляхамі і сцяжынкамі Беларусі, ад вёскі да вёскі, ад мястэчка да мястэчка, дзе яна слухала людзей, збіраючы слоўныя скарбы, заглыбляючыся ў феномен душы і светаўспрымання беларускага народа, у саму з'яву гістарычнага і культурнага памежжа, якая характарызуе Беларусь як злучво традыцый Усходу і Захаду.

Пра сваю дыпламатычную місію пані Эльжбета скажа пазней сакрамэнтальныя словы: «Хацела б падкрэсліць, што сярод дыпламатаў я займаю асаблівае становішча, — калі перастану быць амбасадарам РП у Беларусі, буду амбасадарам беларускай праблематыкі ў Польшчы, паколькі вярнуся да сваёй навуковай спецыялізацыі беларусіста, прафэсара Варшаўскага ўніверсітэта». Так і сталася. Чароўная і мудрая пані Эльжбета са старонак гэтай кнігі і ў сённяшніх сваіх стасунках з беларусістамі нашай Бацькаўшчыны, Польшчы і замежных краінаў пачэсна працягвае быць «амбасадарам беларушчыны», нястомна будуе мост любові і ўзаемаразумення паміж нашымі народамі і краінамі. Кніга Валера Каліноўскага дапамагае глыбока зразумець сутнасць гэтай «пасольскай місіі» не толькі ў вузкім палітычным, але ў шырокім гуманістычным, нават апостальскім, сэнсе падобнага пасланніцтва.

*Ірына Багдановіч*

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Ліда на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1985), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004), «Прыватныя рымляне» (2006), «Душа лістападу» (2012), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001), укладальнік зборнікаў «Казімір Сваяк. Выбраныя творы»(2010), «Вінцук Адважны. Выбраныя творы» (2011) і «Аляксандр Надсан. Выбраныя творы» (2014). Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.



Барталамэ Эстэбан Мурыльё.
Аздараўленне паралітыка. 1670.
Палатно, алей. 237х261 см.
Лондан, Нацыянальная галерэя.

# Сведчанне Хрыстовай міласэрнасці

У 2017 годзе свет будзе адзначаць 400-годдзе з дня нараджэння Барталамэ Эстэбана Мурыльё (1617-1682). Адзін з майстроў бліскучай плеяды Залатога веку, Мурыльё найвыразней праявіў стыль барока ў іспанскім жывапісе і ў пазнейшых сваіх творах прадвызначыў стыхію ракако. Усё жыццё мастак служыў Касцёлу і стварыў цэлую галерэю алтарных карцін для храмаў і кляштараў. Важнаю часткаю яго творчасці з'яўляюцца пранікнёныя характарныя партрэты і жанравыя карціны. Яго талент быў ацэнены сучаснікамі — ён стаў лідарам севільскай школы іспанскага жывапісу, меў шмат вучняў і паслядоўнікаў. Нямецкі мастак і гісторык Ёахім фон Зандрарт у сваёй знакамітай энцыклапедыі сучаснага яму мастацтва, выдадзенай у Нюрнбергу кнізе «Нямецкая Акадэмія», або «Picturae eruditae» (1675-1679), з усіх іспанскіх мастакоў спыніў увагу толькі на Мурыльё, называючы яго «найбольш вядомым і цанімым іспанскім жывапісцам па-за межамі Іспаніі».

Барталамэ Эстэбан быў самым малодшым з чатырнаццаці дзяцей багатага севільскага цырульніка Гаспара Эстэбана Мурыльё. У сям'і ягонай маці былі жывапісцы і майстры прыкладнога мастацтва. У дзевяць гадоў ён застаўся сіратою і выхоўваўся ў сям'і старэйшай сястры Ганны. У 15-гадовым узросце Мурыльё хадайнічаў аб пераездзе ў Амерыку (калі б гэта здарылася, мастацтва магло б страціць генія). Паводле тагачаснай традыцыі, юнак ужо тады пачынаў навучанне жывапісу. Даследчыкі метадам стылістычнага аналізу ранніх твораў Мурыльё вызначылі як першага яго настаўніка севільскага жывапісца Хуана дэ Касцільё, сваяка яго маці. Мяркуецца таксама, што малады мастак падарожнічаў у Мадрыд і Італію, але большую частку свайго жыцця Мурыльё працаваў у Севільі, на некалькі месяцаў выязджаючы ў Мадрыд для выканання сталічных заказаў. Севілья была найважнейшым культурным і рэлігійным цэнтрам краіны, цэнтрам арцыбіскупства. У горадзе было 60 кляштараў, дзе і працаваў нястомны Мурыльё. На жаль, пажылы мастак моцна пацярпеў, калі ўпаў з рыштаванняў, працуючы над вялікім палатном, — праз некалькі месяцаў ён памёр ад траўмаў.

Алтарная карціна «Аздараўленне паралітыка» належыць да позняга перыяду творчасці мастака. Ён выканаў яе разам з пяццю іншымі палотнамі на тэму цудаў Хрыстовых для новага касцёла, пабудаванага ў Севільі Брацтвам дабрачыннасці, якое давала духоўную апеку, медыцынскую дапамогу і прытулак хворым і нямоглым, а таксама асуджаным на смерць. Сам Мурыльё быў членам гэтага Брацтва. Працуючы над палатном, мастак натхнёна выконваў абавязкі братчыка.

Фігура Хрыста на карціне знаходзіцца амаль у цэнтры кампазіцыі і дамінуе, але мастак парушае строгую сіметрыю, уносіць у кампазіцыю рух і жыццёвы імпульс. Зразумела, што Езус звяртаецца да паралітыка, які ляжыць каля Ягоных ног, а той адказвае Яму, і гэты дыялог становіцца галоўным сюжэтам палатна. Хрыстус паказаны франтальна, Ягоная постаць поўная велічы. Ступня левай нагі ярка асветленая, і гэты фрагмент выбіваецца з густога ценю, які ахутвае ніжнюю частку фігуры і прастору вакол яе. Здаецца, што Збаўца крочыць, і гэта стрыманая дынаміка задае рытм усёй кампазіцыі. Яркае святло выразна падкрэслівае твар і рукі Хрыста, разліваецца па галаве і целе паралітыка. Усе словы з евангельскага тэксту нібы гучаць у жэстах рук і адлюстроўваюцца ў тварах удзельнікаў дыялогу. На абліччы Езуса квітнеюць дабрыня і ласка, але чытаецца і рашучы заклік: «...устань, вазьмі насілкі свае ды ідзі да дому свайго» (пар. Мк 2, 11). Правая рука Езуса

скіраваная да хворага, і гэтая дыяганаль вызначае асноўную канструкцыю кампазіцыі першага плану, у якой чытаецца форма піраміды.

Не верыцца, што няшчасны хварэе ўжо 38 гадоў. Ягонае цела ў трактоўцы барочнага жывапісца нагадвае антычную статую, скінутую з пастамента. Мастак з захапленнем вылеплівае пэндзлем, святлом і ценямі галаву паралітыка і моцнае цела з яго мускуламі і жыламі. Напэўна, Мурыльё паказвае той самы момант Хрыстовага цуду, калі толькі пры набліжэнні Сына Божага лядашчае цела інваліда наліваецца здароўем і энергіяй. Чалавек прыпадымаецца і імкнецца да Хрыста, на ягоным твары адбіваюцца пакута і мальба, рукі разгублена разведзены ў жэсце адчаю.

Мы згадалі пра агульную канструкцыю кампазіцыі першага плану ў форме піраміды. Дзе ж знаходзіцца апірышча гэтай «піраміды» ў правай частцы палатна? Тут, у самым куце, нечакана ўзнікае нібыта выпадковы жанравы матыў: аблавухі вулічны сабака таксама апынуўся каля купальні. Менавіта яго фігура і замыкае справа кампазіцыю першага плану. Такое ў класічным жывапісе называецца «дзяжурнаю фігураю», але ў дадзеным выпадку гэта не зусім так. Яшчэ з Сярэднявечча выява сабакі сімвалізавала веру, абарону і нават добрага пастыра. Пейзажны матыў у гэтай частцы палатна таксама мае, на наш погляд, сімвалічны характар. Сабака нахіляецца над цяжкім недапрацаваным каменем-квадрам, што ляжыць над цёмным правалам у скале — своеасабліваю сцэнаю для ўсяго дзейства. У грубай прыродзе скальнай пароды мастак выяўляе сутнасць свету матэрыі, які, здаецца, непадуладны ніякім нябесным сілам, а цемра правалу ёсць сімвалам пекла і чалавечага граху, усяго, што супрацьстаіць Хрысту.

Але асноўнае дзеянне адбываецца ўсё ж у левай частцы кампазіцыі. Калі разглядаць яе ад ніжняга краю карціны, то бачна, што мастак вылучае на першы план важны для цэльнага вобразу твора нацюрмортны фрагмент. Каля пасцелі паралітыка — лахманоў, кінутых на салому, — Мурыльё арганізоўвае міні-кампазіцыю з прадметаў, у якіх адлюстроўваюцца няшчасце і безвыходнасць жыцця гэтага чалавека: самаробная мыліца, сасуд з абламаным акрайчыкам, пустая гліняная міска. Гэты фрагмент выкананы ў стылі, уласцівым іспанскаму нацюрморту. У іспанцаў мы не ўбачым раскошы і яркасці работ галандскіх і фламандскіх нацюрмарцістаў — гэта заўсёды строгія формы і лініі, праца ў тоне, мінімум выразных сродкаў, лаканічнасць вобразаў. Гэта ёсць дадатковы «радок» у мастакоўскай характарыстыцы няшчаснага паралітыка. А цяпер паспрабуем ахапіць позіркам усю кампазіцыйную лінію самай ніжняй часткі палатна. Паміж правалам у скале і мізэрнымі пажыткамі паралітыка роўна пасярэдзіне мы бачым ярка асветленую ступню Хрыста — уладарны крок Збаўцы вызначае ўвесь вобразны лад карціны, прысвечанай Ягонаму трыумфу.

Разам з Хрыстом да паралітыка падышлі тры Ягоныя вучні. У іх тварах — спагада і здзіўленне, гэта тры яркія індывідуальныя характары. Найбольш выразная постаць (мяркуем) святога Пятра, які стаіць побач з Хрыстом. Ягоныя рукі, у жэстах якіх увасоблена перажыванне цуду, упісваюцца ў складаны і дынамічны сэнсавы «вузел» разам з рукамі Хрыста і паралітыка. Усю гэтую фігурную групу кампазіцыйна ўмацоўвае выява калоны непасрэдна за ёю, і такім чынам асноўная дзея разгортваецца на першым плане карціны, што сведчыць пра наследаванне яшчэ і рэнесансавай традыцыі.

Пераход на другі і дальні планы кампазіцыі Мурыльё здзяйсняе з дапамогаю архітэктурнага матыву, які адыгрывае ў палатне важнае значэнне. Портык класічных формаў вызначае глыбіню прасторы, а за ім рух углыб забяспечваюць выявы будынкаў. Замыкае фон выява магутнай галерэі. У гэтай прасторы мы бачым фігуры хворых і людзей, якія суправаджаюць іх у чаканні цуду. Хворыя чакаюць цудоўнай з'явы вакол купальні, яны знямоглыя ад слабасці і пакутаў. І вось высока ў нябёсах, сярод сумных хмараў, ярка ўспыхвае золатам Боскае святло — там з'яўляецца анёл (гэтая выява кампазіцыйна знаходзіцца на адным узроўні з галавою Езуса).

Няяркі каларыт карціны, тым не менш, дэманструе яркае майстэрства Мурыльё-каларыста. Самы яркі колеравы фрагмент — фігура Хрыста. Самаабмежаванне палітры спалучаецца ў карціне з майстэрскаю распрацоўкаю фарбаў, якія жывуць ва ўладзе цьмянай атмасферы выявы. Танальныя гармоніі забяспечваюць жывую пластыку формаў...

Карціна Эстэбана Мурыльё, створаная адданым хрысціянінам, для многіх пакаленняў і для нас сённяшніх з'яўляецца вечным сведчаннем усемагутнай дабрыні і міласэрнасці нашага Збаўцы.

*Валеры Буйвал*

---

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбургу (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.

Ева Лявонава

# ЧУЙНАЕ СЭРЦА

## Штрыхі да творчага партрэта Элізы Ажэшкі



У гэтым годзе культурны свет адзначыў 175-годдзе з дня нараджэння слыннай польскай пісьменніцы Элізы Ажэшкі (*Eliza Orzeszkowa*). Яна нарадзілася 6 чэрвеня 1841 г. на беларускай зямлі, у былым маёнтку Мількаўшчына, што знаходзіўся непадалёк ад Гродна, у сям'і «вальнадумца і вальтэр'янца» Бэнэдыкта Паўлоўскага. У Гродне, куды яна перабралася на сталае жыхарства ў 1869 г., і яго ваколіцах прайшла большая частка жыцця Ажэшкі. Тут 18 мая 1910 г. яна і памерла.

«Зоркай першай велічыні» на небасхіле польскай літаратуры памежжа XIX–XX стст. назваў Элізу Ажэшку ўкраінскі пісьменнік Іван Франко. Яна пакінула пасля сябе каля 60-ці тамоў мастацкай прозы, крытыкі і публіцыстыкі. Усе найважнейшыя праблемы грамадскага жыцця знайшлі ўвасабленне ў яе кнігах. Істотны ўплыў на светабачанне пісьменніцы мела паўстанне 1863—1864 гг., да якога яна спрычынілася як сувязная партызанскага атрада Рамуальда Траўгута, што дзейнічаў на Палессі. Пасля трагічнага зыходу паўстання Ажэшка, рызыкуючы жыццём, пераправіла Траўгута да мяжы Каралеўства Польскага.

Жыццё наднёманскага краю стала важным фактарам фарміравання Элізы Ажэшкі як творцы. Нядзіўна, што Беларусь шматстайна прысутнічае ў яе творах. У іх арганічна ўвайшлі беларускія народныя песні, паданні, абрады (беларускаму фальклору яна прысвяціла цыкл нарысаў «Людзі і кветкі на берагах Нёмана», 1888—1893). Веданне этнаграфічных асаблівасцяў і нацыянальнага характару, мовы і побыту беларусаў дазволіла пісьменніцы стварыць іх яркія, запамінальныя вобразы.

Літаратурную дзейнасць Э. Ажэшка пачала з апавядання «У галодныя гады» (1866), аднак хутка стала працаваць у жанры рамана. У артыкуле «Некалькі заўваг аб рамане» (1866) яна гаворыць пра такую яго абавязковую якасць, як тэндэнцыйнасць, што ўяўлялася тады пісьменніцай спрошчана: галоўнае ў рамане — тая або іншая публіцыстычная ідэя, якая павінна сцвярджацца не столькі праз яго мастацкую структуру, сюжэт і характары, колькі праз аўтарскія адступленні, праз выказванні герояў-«рэзанёраў». Некаторым даследчыкам гэта давала падставы адносіць шэраг яе ранніх твораў не да мастацкай прозы, а да мастацкай публіцыстыкі, якая, тым не менш, не пакідала чытача абыякавым. Ажэшка ж была перакканана: «Як люстэрка, што цьмяна ці крыва адлюстроўвае прадметы, мусіць быць разбіта, так і раман, у якім грамадства не пазнае сябе, спасцігне хуткае забыццё».

Аднак паступова дыдактычнасць і схематызм знікалі, узмацнялася псіхалагічная выразнасць персанажаў. У немалой ступені гэта было плёнам эстэтычнай сталасці Элізы Ажэшкі, хаця і надалей нават самыя значныя яе творы не будуць вольнымі ад ідэяў пазітывізму. Менавіта тыя раманы, у якіх ужо адчувальны адыход пісьменніцы ад канцэпцыі тэндэнцыйнасці, прынеслі ёй шырокую вядомасць: «Марта» (1873), «Пампалінскія» (1876), «Меір Езафовіч» (1878; апошні быў перакладзены на многія мовы ў хуткім часе пасля апублікавання).

Адзін з лепшых твораў Элізы Ажэшкі — аповесць «Нізіны» (1884), у якой пададзена шырокая карціна жыцця парэформеннай беларускай вёскі з яе галечай і забітасцю.

У бязлітасным асуджэнні асяродку, які спараджае коснасць і прымхі, — пафас яшчэ адной «беларускай» аповесці — «Дзюрдзі» (1885). Зыходным пунктам у пабудове яе сюжэта стала сцэна суда над чатырма сялянамі, забіўшымі жонку вясковага кава-

**Ева Лявонава** — кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Крытык і навуковец. Працуе ў такіх галінах літаратуразнаўства, як германістыка, беларусістыка, кампаратывістыка, вывучае беларуска-замежныя літаратурна-культурныя сувязі. Апублікавала ў айчынным і замежным друку больш за 400 артыкулаў, навуковых і навукова-метадычных працаў, у тым ліку кнігі «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX–XX стагоддзяў» (1998), «Беларуская літаратура XX ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт» (2002), «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры» (2003), «Немецкая литература XX века: Германия. Австрия» (Москва: Флинта; Наука, 2010) і інш. Аўтар і сааўтар многіх вучэбных праграм, вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў для выкладчыкаў-славеснікаў, студэнтаў і школьнікаў.

ля, маладую прыгажуню Пятрусю. Для пісьменніцы важна было звярнуць увагу чытача на той факт, што жахлівае злачынства здзейснілі не нейкія бадзягі або закаранелыя бандыты, а землеўладальнікі, гаспадары, «працаўнікі з чалом, акропленым потам». Аповесці «Нізіны» і «Дзюрдзі» — адны з нямногіх твораў Э. Ажэшкі, пазбаўленых сентыментальнасці і ідылічнасці ва ўспрыманні сялянскага жыцця.

На беларускім матэрыяле створана і аповесць Элізы Ажэшкі «Хам» (1888). Маральна-этычная скіраванасць твора палемічна ўвасоблена ўжо ў яго назве: польскія шляхціцы пагардліва называлі сялянаў хамамі, але ў гэтых «хамаў» нярэдка было больш, чым у паноў, унутранай культуры, прагі ведаў, маральнай чысціні і высакароднасці. Менавіта такія якасці ўласцівыя Паўлу Кабыцкаму, рыбаку з прынёманскай вёсачкі. Не толькі глыбокім пачуццём, якое нечакана нарадзілася ў яго сэрцы, але і «святым чалавечым абавязкам выратавання бліжняга» кіруецца ён, беручы за жонку Франку — істоту, поўную супярэчнасцяў, сапсаваную «трагічнымі падзеямі і балотнымі выпарэннямі жыцця», па-свойму шчырую і прывабную. Маральны абавязак, вера ў Бога прымушаюць Паўла цярпець невыносныя душэўныя пакуты, даравацъ жанчыне здраду, уцёкі і нават спробу атруціць яго.

Асаблівае месца ў творчасці Элізы Ажэшкі займае раман «Над Нёманам» (1887). Па эпічнай шматпланавасці яго справядліва параўноўваюць з паэмай Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш». Месца дзеяння ў рамане, як і ў аповесцях, — беларуская зямля, аднак стрыжань сюжэта разам складаюць адносіны паміж «вярхамі» і «нізамі» шляхты. «Нізы» — нашчадкі дробных шляхціцаў, якія некалі перасяліліся ў гэтыя мясціны з Польшчы. Уклад іх жыцця ўжо мала чым адрозны ад сялянскага, ды і «вярхі» — насельнікі панскіх маёнткаў — бачаць у іх «мужыкоў», нездарма шлюб Юстыны Ажэльскай з Янам Багатыровічам, яе адыход у «мужыцкую хату» выклікае ў «паноў» жах.

Эліза Ажэшка дэталёва ўзнаўляе панараму жыцця польскай шляхты. Прадстаўнікі ўсіх маёмасных слаёў знайшлі сваё месца ў рамане: тут і багаты памешчык Дажэцкі, і Ружыц, які праматаў мільённае багацце, і Бэнэдыкт Карчынскі, з сярэдняй шляхты, залежны ад тых, хто стаіць на саслоўнай лесвіцы на некалькі прыступак вышэй, але і ад яго залежаць і знаходзяцца з ім у пастаянных звадках за лес і зямлю шляхціцы-земляробы, шматлікія жыхары сяла Багатыровічы.

Адбываецца і ўнутрысаслоўны падзел, але ўжо духоўнага, маральнага кшталту. Сын Карчынскага Вітальд верыць у роўнасць і брацтва людзей, у «дэмакратычныя ідэі і тэорыі, ажыццяўленне якіх магло, як здавалася яму, адрадзіць моц народаў і перш за ўсё яго радзімы», заклікае дваранаў паяднацца з «малымі і безабароннымі», ісці да іх у «цесныя, цёмныя норы, хаця б гэта пагражала... немінучай гібеллю».

Тэма паўстання 1863—1864 гг. займае істотнае месца ў рамане. Наогул, стаўленне герояў да гэтых падзеяў з'яўляецца своеасаблівым крытэрыем іх маральнасці. Успамінам персанажаў пра паўстанне прысвечаны самыя рамантычныя і хвалюючыя старонкі твора.

Адно з самых значных апавяданняў Элізы Ажэшкі — «Зімовым вечарам» (1887). Сюжэт твора складаны, і для яго ўвасаблення іншаму пісьменніку спатрэбіліся б, можа, сотні старонак і раманны маштаб. Паводле гэтага сюжэта, якраз у той час, калі горад і яго ваколіцы ўзрушаны паведамленнем уладаў пра ўцёкі з катаргі небяспечнага злачынцы Бонка, рабаўніка і забойцы, у хаце Сымона Мікулы з'яўляецца незнаёмы падарожны. Калісьці ў сям'і Сымона здарылася вялікая бяда: адбыўшы тэрмін зняволення, вярнуўся дамоў сын Ясь, аднак знявечаны турмой характар і няпростыя адносіны з бацькам змусілі яго пакінуць хату, і з таго часу ніхто пра яго больш не чуў. І вось зімовыя вячоркі сабралі ў хаце Сымона моладзь. Хлопцы, узбуджаныя чуткамі пра бандыта і спробай незнаёмца патлумачыць прычыны колішніх жахлівых злачынстваў уцекача, успрымаюць яго развагі як выклік і разам з Аляксеем, сынам Сымона, кідаюцца вязаць вечаровага госця, не падазраючы, што перад імі — родны брат Аляксея, той самы злашчасны Ясь-Бонк. І толькі Сымон, чыё бацькоўскае сэрца не пераставала балець за сына, здагадаўся, хто гэты чалавек, і загадаў адпусціць яго.

Галоўныя персанажы апавядання — родныя па крыві, але шмат у чым розныя людзі. І справа не толькі ў тым, што іх разводзяць абставіны: у той час як беглы катаржнік Ясь-Бонк належыць да «адрынутых», астатнія члены сям'і застаюцца добрапрыстойнымі і ў вачах грамадства, і ў сваіх уласных. Апавядальнік невыпадкова падкрэсліць, што Аляксей паводзіць сябе «як заўсёды ганарліва» і самаўпэўнена, што Сымонава нявестка Хрысціна ходзіць, «горда ўзняўшы галаву», з адчуваннем «асабістай годнасці», што сам Сымон — чалавек паважаны і ўладны: «Лёгка было здагадацца, што, калі гэты стары ўстане на ўвесь рост і скажа свае слова, усе прысутныя паспешліва і старанна зробяць усё, што б ён ім ні загадаў».

Аднак агульнае і адметнае паміж героямі абумоўлена не толькі іх сацыяльным статусам.

Варта ўзгадаць, якімі наогул уяўляла сабе Э. Ажэшка розныя тыпы людзей. М. Дамброўская пісала: «Апроч тых элементаў, якія цяжка ахапіць розумам, адзін з найважнейшых складнікаў маральнай атмасферы шэдэўраў Ажэшкі — барацьба адно з адным і з лёсам двух тыпаў людзей, прадстаўнікоў двух кірункаў цывілізацыі. Адзін тып — чалавек, які вечна адорвае, у вышэйшай ступені здольны на самаахвярную любоў... ён не прагне ўладарыць і валодаць, заўсёды імкнецца дапамагчы бліжняму і становіцца багацей, шчодра дорачы самога сябе. Другі тып не разумее іншага спосабу стасункаў са светам, апроч улады і багацця». Да першага тыпу людзей, разам з Хрысцінай з «Нізінаў», Пятрусяй з «Дзюрдзі», «хамам» Паўлам Кабыцкім, Марыя Дамброўская адносіць і Сымона Мікулу. Што да Яся Мікулы, дык ён — разам з Франкай з «Хама» і шэрагам іншых персанажаў — з таго асаблівага тыпу людзей, «якія не ў сілах змагацца са сваімі схільнасцямі, кідаюцца ў пошуках шляху паміж гэтымі двума светамі, несучы пагібель сабе і іншым».

Сапраўды, постаць Яся неадназначная: па ўсім бачна, што на ім ёсць кроў і ахвяры, але злодзеем ён не нарадзіўся і не выхоўваўся. Вельмі істотна звярнуць увагу на тое, з чаго пачалося падзенне Яся. «Можа, ён першы раз і за справядлівасць пакутаваў, — даводзіць Сымон, яшчэ не ведаючы, што перад ім яго сын. — ...бывала, і кажа: “Тата, я заб’ю таго, хто несправядліва прыйдзе забіраць нашу зямлю!..” Зямля па справядлівасці наша была, але... суд мы прайгралі... Прыехаў нейкі высокі ўраднік і двух ніжэйшых з сабою прывёз, і давай яны па полі хадзіць... А нашы хлопцы як выскачаць з косамі, з граблямі ды каламі! Можа, з дваццаць іх было, а мой Ясік сперады... Значыцца, бунт. Значыцца, супраціўленне ўладзе. Ну, пасадзілі іх у турму, судзілі іх. Іншых выпусцілі або сяк-так пакаралі, а яго на тры гады турмы асудзілі. Зачыншчык, кажуць» (апавяданне цытуецца ў перакладзе Янкі Брыля).

Да супрацьстаяння з уладамі Яся прыводзяць нежаданне змірыцца з незаконнасцю іх дзеянняў, абвостранае пачуццё справядлівасці. І пазней, калі ён уцякаў з катаргі і кожны раз уладкоўваўся на працу, ці не ад злачыннага «смуроду» ён збягаў? Ды толькі «бяда трасе таго, хто на ёй едзе». «Бяры яго! Як ганчакі за лісою, панясуцца, пакуль назад у гной не загоняць, і скубуць, катуюць, пакуль той зноў не пачне кусацца да крыві! А што яму застаецца?.. Увесь свет вораг, калі ніхто і не падумае ратаваць, а кожны прагне загубіць...» — гучаць з вуснаў Яся роспачныя, адчайна-горкія словы.

Ніякі астрог не ў стане ўтрымаць Яся ў сваіх сценах, гэтак імкнецца яго душа на волю. «Я ж не раз і не два разы быў у горадзе і турму бачыў. Такія сцены, Божухна ты мой! — дзівуецца Аляксей. — Усюды салдаты са штыкамі. Птушкай трэба быць, а не чалавекам, каб вылецець адтуль... А ён вылецеў...».

Трэба заўважыць, насуперак аўтарытэтнаму меркаванню М. Дамброўскай, што не так усё проста і з вобразам Сымона. Бясспрэчна, гэта чалавек маральны; бясспрэчна, жыве ён паводле хрысціянскіх запаведзяў ды свайго ўласнага этычнага «кодэксу». Бясконца любіў ён Яся, «не такога, як усе», разумнага, гарачага, прыгожага; ды ці няма і яго віны ў далейшым злавесным лёсе сына? Ці не дадаў і ён да ўрокаў турэмных «гувернёраў», сам таго не жадаючы? «Ой, бедны ж ён, бедны! Напакутаваўся ён, нацярпеўся ад роднага бацькі, пакуль навечна ў свет пайшоў...» — галосіць старая Настуля. Да характарыстыкі Сымона добра падыходзіць трапнае выказванне Конрада: «Сплячэнне супярэчнасцяў у чалавечай натуры часам нават любові надае адчайную форму здрады». У характары Сымона дабро і зло таксама не палярызаваны, ён паказаны ва ўсёй складанасці сваёй натуры. Як, зрэшты, і шэраг іншых герояў апавядання «Зімовым вечарам».

Няпростай маральнай і сацыяльнай праблематыцы, напружанай псіхалагічнай атмасферы, трагедыйнасці твора адпавядае і яго складаная паэтыка. Кампазіцыя апавядання ў значнай ступені трымаецца на рэтраспекцыі, на кантрасце паміж «раней» і «цяпер», якія судакранаюцца, спалучаюцца праз дыялог персанажаў і выкарыстанне прынцыпу мантажу. З дапамогай апошняга рэальнасць чаргуецца з успамінамі Яся пра мінулае, пра дзяцінства; у такіх выпадках ствараецца ўражанне, нібы сам час парушае сваю няспынную хаду, сваю няўмольную плынь і логіку. Адным са структурных элементаў апавядання з’яўляецца гэтак званае кольца, ці абрамленне, наяўнасць якога, безумоўна, паглыбляе філасофскі сэнс твора.

Кампазіцыя апавядання ўзбагачаецца і праз розныя гісторыі, казкі, песні, загадкі, заклінанні; аўтар уводзіць іх у адпаведнасці з удала выбранай сітуацыяй — вячоркамі. Казка пра тое, як два разумныя браты трэцяга, дурня, «узялі і забілі, нож у сэрца ўсадзілі», выконвае некалькі функцый. Па-першае, разам з іншымі фальклорнымі элементамі яна стварае насамрэч народна-паэтычную атмасферу, беларускі нацыянальны каларыт. Па-другое, праз зблíжэнне рэальнай калізіі (два браты на вачах бацькі няволяць трэцяга) з казачнай сюжэт выходзіць за межы канкрэтнага, прыватна-выключнага

здарэння і ўзнімаецца да ўзроўню сацыяльна-філасофскага абагульнення. Трагічны казачны сюжэт па-свойму паўтараецца ў не менш трагічнай рэчаіснасці. Уражанне адэкватнасці такое моцнае, што ў нейкае імгненне губляецца адчуванне мяжы. Гэтаму садзейнічае і яшчэ адзін вельмі тонкі мастацкі прыём: прысутныя, узрушаныя спробай затрымаць госця, забыліся на казку, якая гэтую спробу суправаджала, але старая Настуля праз сон працягвае дрыготкім голасам спяваць:

*Не грай, татачка, не грай,*
*Сэрцайка майго не разрывай,*
*Мяне браточкі забілі,*
*Нож у сэрца ўсадзілі...*

Адзначым, што ў мастацкай парадыгме Элізы Ажэшкі важнае месца займаюць разнастайныя інтэрпрэтацыі біблейскага матэрыялу. Вось і ў дадзеным выпадку біблейскія матывы надаюць адлюстраваным у творы падзеям абагульнена-сімвалічны сэнс: паводле хрысціянскіх запаведзяў намагаецца жыць Сымон; у атачэнні дванаццаці чалавек родных аказваецца Ясь у бацькавай хаце; Бонк і яго супольнікі, паводле чутак, зарэзаўшы трох чалавек, «толькі трыццаць рублёў знайшлі ў іх» — асацыяцыя з трыццацю срэбранікамі; як варыяцыя вядомай новазапаветнай сітуацыі ўспрымаецца вячэра Яся-Бонка ў бацькавай хаце (паказальна, што Аляксей адмаўляецца выпіць з незнаёмцам, і менавіта Аляксей найбольш агрэсіўна да яго паставіцца); біблейскі сюжэт пра вяртанне марнатраўнага сына нагадваюць паводзіны Яся ў фінале апавядання, калі ён «рынуўся на зямлю і прыпаў вуснамі да вялікай, босай, запыленай Мікулавай нагі».

Неаднойчы ўсплывае ў апавяданні вобраз Сына Божага: менавіта абрысы ўкрыжаванага Хрыста першымі кінуліся ў вочы Ясю ў спарахнелай каплічцы на могілках, з Хрыстом асацыіруецца вобраз Яся-Бонка ў кульмінацыйнай сцэне («Здавалася, што пакуты ўсяго свету ўвасобіліся ў ім, гэтым убогім гаротніку»), літасці «дзеля пакут Хрыста нашага» просіць Ясь у людзей. Пералік такога роду біблейскіх алюзій і рэмінісцэнцый можна было б доўжыць. Аднак не толькі праз іх, не толькі апасродкавана надаецца апавяданню характар прыпавесці; анталагічна-экзістэнцыяльная якасць прыўносіцца ў твор і словамі самога Яся, злодзея і пакутніка, віноўніка і ахвяры, Хрыста і Антыхрыста ў адной асобе: «А ці ведаеце вы, пан гаспадар, што найгоршае бывае часам побач, ой, як блізенька каля найлепшага...», або: «Кожнага чалавека можа бяда напаткаць, і ніводная маці не ведае, каго яна на руках калыша...»; «У адным д'яблы спяць, а ў другім прачнуцца і валакуць яго на вечныя пакуты». Так канкрэтнарэальнае спалучаецца ў Элізы Ажэшкі з агульначалавечым, універсальным.

Пра ролю фальклорнага пачатку ўжо гаварылася; дададзім, што ён накладвае адбітак і на мову персанажаў, і на мову твора ўвогуле. Выразна народны зачын уласцівы, напрыклад, бясслоўнаму звароту сына да бацькі: «А памятаеш, тата, ой, памятаеш...»; «Не жыць мне з табою, тата, не жыць...» і інш. Характэрна, што апавяданне і ў арыгінале месціць у сабе мноства беларускіх слоў і выслоўяў, па-беларуску пададзены загадкі і большасць песняў. Даследчыкі нязменна падкрэсліваюць артыстызм апісанняў Элізы Ажэшкі, найперш пейзажных, пазначаных гарманічнай еднасцю духоўнага і прыроднага, дакладных і пластычных настолькі, што амаль фізічна адчуваеш цемру і націск завірухі, бязмежную самоту і адчай няшчаснага блуканца «ў вялікім моры ночы і адзіноты», чуеш стогны ветру, які нясе чалавека — «кроплю, крушынку, зярнятка пяску, каліўца травы» — «па гэтым шырокім, дзікім, змрочным свеце». Асобныя рысы пейзажа лейтматывам паўтараюцца, уводзячы трагічныя падзеі ў не менш трагічны кантэкст. Адна з дамінантаў пейзажа — цемра; цёмна ў душы чалавека — цёмна і звонку. Такое паэтычнае суладдзе, такая выключная мастацкая суаднесенасць не часта сустракаецца ў літаратуры.

Творы Элізы Ажэшкі заўсёды выклікалі жывую цікавасць у беларускага чытача. На беларускую мову іх перакладалі Ядвіга Бяганская, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Галіна Тычко. Беларускія тэатры і студыі ў розны час ставілі спектаклі па творах Ажэшкі. Так, для Першай беларускай трупы І. Буйніцкага пісьменніца перапрацавала апавяданне «Зімовым вечарам» (сам Буйніцкі быў заняты ў ролі Аляксея). Спектаклем па гэтым творы пачаў сваю дзейнасць у 1920 г. Беларускі дзяржаўны тэатр, а ў 1921 г. у ім жа была зроблена інсцэніроўка аповесці «Хам». На кінастудыі «Беларусьфільм» ажыццёўлена і яе экранізацыя. Янка Купала да ліку пісьменнікаў, якія яго «больш за ўсё цікавілі», адносіў і Ажэшку. Сяброўства звязвала пісьменніцу з Францішкам Багушэвічам, чые творы яна высока ацэньвала; у лісце да паэта Яна Карловіча Эліза Ажэшка пісала: «Быў у мяне нядаўна пан Багушэвіч і чытаў мне сваю, толькі што напісаную па-беларуску казку, доўгую, поўную фантазіі, цудоўную. Прыгожы гэта талент». Сам жа Францішак Багушэвіч называў Элізу Ажэшку «каралевай жывога слова і пакутлівай праўды». «Яна была жывой мудрасцю і чуйным сэрцам цэлай эпохі», — сказаў адзін з прамоўцаў на пахаванні пісьменніцы. Такой яна ўспрымаецца і сённяшнім удзячным чытачом.



Лідзія Камінская

# «УЧЫНКАМ НАШЫМ ПАШЛІ ЎМАЛОТ...»

## Да 130-годдзя з дня нараджэння Міколы Равенскага

Збіраючыся на хрэсьбіны ўнука маёй сяброўкі, я купіла адпаведную гэтай нагодзе кнігу — «Хрысціянская азбука. Чытанне для дзяцей і бацькоў». Выдадзеная «Біблейскім таварыствам у Рэспубліцы Беларусь» у 2003 годзе накладам у 3000 асобнікаў, кніга прыемна здзівіла мяне сваім мудрым, сапраўды цікавым і для дарослых, і для дзяцей зместам: кароткімі хрысціянскімі прыпавесцямі, аповедамі, казкамі, прымаўкамі, загадкамі і нават заданнямі, а яшчэ парадавала таленавітым мастацкім афармленнем (рэд. Н.Б. Назарава, мастак І. Гардзіёнак). Пагартаўшы яе па добрай філалагічнай звычцы да канца, на апошняй старонцы я ўбачыла верш Наталлі Арсенневай «Магутны Божа» і не ўбачыла прозвішча аўтара музыкі — Міколы Равенскага, што было б цалкам натуральна ў такой кнізе — даўно ж вядома, што гэты твор стаў духоўным гімнам, які гучыць у многіх касцёлах Беларусі, прынамсі ў Мінску.

Дарэчы, у рускамоўным выданні гэтай жа кнігі тымі ж укладальнікамі змешчаны ў канцы верш Канстанціна Раманава «Молитва» («*Научи меня, Боже, любить...*»). Асабіста я супраць перакладу верша Н. Арсенневай на рускую мову, але калі ў нас абедзве мовы лічацца дзяржаўнымі, то хіба не лагічна было б змясціць і беларускі тэкст у рускамоўнай кнізе? Не згадвалася імя Міколы Равенскага і ў кантэксце Году культуры, калі на беларускім тэлебачанні мільгалі імёны знакамітых

---

**Лідзія Камінская** — філолаг. Нарадзілася ў пас. Камсамольскі-на-Волзе Куйбышаўскай вобласці. Вучылася ў Бешанковіцкай СШ № 2 на Віцебшчыне. Закончыла філалагічны факультэт (рускае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978). Працавала ў Чырвонадарскай васьмігадовай школе (Чэрвеньскі р-н), у Літаратурным музеі Янкі Купалы, Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, у часопісе «Роднае слова». З 1997 г. супрацоўнічае з часопісамі «Наша вера» і «Ave Maria». Жыве ў Мінску.

кампазітараў — Глебава, Паліводы, Будніка. Вось вам і азбука культуры... Між тым менавіта Мікола Равенскі пакінуў беларусам у спадчыну два духоўныя па сваёй сутнасці гімны: у савецкі час уся краіна слухала і спявала «Люблю мой край, старонку гэту...» на словы Канстанцыі Буйло, а музыка лічылася народнаю (у энцыклапедычным даведніку «Беларусь» (1995) так і напісана: верш «Люблю» стаў народнаю песняю; праўда, аўтар музыкі ўсё ж названы).

Не многія музыказнаўцы ведаюць, што Мікола Равенскі напісаў і «Ліпнёвы гімн» (на словы яшчэ аднаго «нацдэма» — Уладзіміра Дубоўкі), прысвечаны вызваленню Беларусі ад польскіх войскаў. Пісаў музыку і на словы Янкі Купалы, Цішкі Гартнага (таксама «ворага народа»), на вершы Максіма Багдановіча («Слуцкія ткачыхі», «Завіруха», «Не кувай ты, шэрая зязюля»; у час вайны напісаў музыку да «Пагоні»; і Максім Багдановіч, напэўна, стаў бы «ворагам народа», калі б пашчасціла дажыць да «чырвонай паводкі»).

Публікацый пра Міколу Равенскага вельмі мала. Найбольш падрабязны энцыклапедычны артыкул надрукаваны ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (2001 г., т. 6, аўтар – Марына Аўсяная). Гэтае выданне энцыклапедыі ўнікальнае тым, што на вокладках яго першых двух тамоў (1993 і 1994 гады) змешчана выява «Пагоні» — у 90-я гады «Беларускую Энцыклапедыю» ўзначальваў Міхась Ткачоў, таленавіты гісторык і сапраўдны патрыёт, які, на жаль, заўчасна памёр у 1992 годзе. Першы том быў падрыхтаваны да друку пад яго кіраўніцтвам (ды і астатнія тамы зроблены добрасумленна), а ў рэдкалегію сярод іншых уваходзілі У. Конан, М. Ермаловіч, В. Скалабан, Б. Сачанка, А. Мальдзіс, вядомыя сваёй адданасцю Бацькаўшчыне і праўдзе гісторыі.

Паводле згаданага артыкула, беларускі кампазітар, фалькларыст Мікола Равенскі (1886 — 1953) нарадзіўся ў вёсцы Капланцы Ігуменскага павета (цяпер Бярэзінскі раён). У 1913 – 1915 гг. вучыўся на рэгенцкіх курсах у Маскве і Пецярбургу, пасля чаго працаваў рэгентам і настаўнікам спеваў у Навагрудку. Быў актыўным збіральнікам народных песняў, якія вельмі любіў, і нават удзельнічаў у фальклорнай экспедыцыі, арганізаванай Інбелкультам у 1921 годзе. Скончыў Маскоўскую кансерваторыю, працаваў у Мінску выкладчыкам у музычным тэхнікуме і ў Беларускай кансерваторыі. Сябраваў з Уладзімірам Дубоўкам і ўвогуле быў блізкі па сваіх поглядах да літаратурна-мастацкага аб'яднання «Узвышша». Дарэчы, менавіта У. Дубоўка быў першым, хто напісаў пра М. Равенскага («Узвышша», 1928 г., № 3).

У 1929 г. М. Равенскі пачаў працу над операй «Браніслава» па аднайменнай паэме У. Дубоўкі, але пасля арышту У. Дубоўкі ў 1930 г. опера была канфіскаваная Народным камісарыятам асветы Беларусі, а ў 1938 г. Міколу Равенскага выключылі з Саюза кампазітараў і фактычна пазбавілі працы. Чаму выключылі — у артыкуле не сказана. За адно сяброўства з У. Дубоўкам, за прыхільнасць да яго творчасці, за музыку на яго вершы ўжо можна было выключаць, а ён жа сябраваў яшчэ з Кузьмою Чорным, які пасля «дбайных» рук чэкістаў не дажыў да 45-ці гадоў. Мала таго, што сябра «ворагаў народа», нацдэмаў, дык яшчэ і родны брат. Менавіта ў 1938 г. быў арыштаваны і расстраляны ў Курапатах (што стане вядома пазней) настаўнік Антон Равенскі, які меў шасцёра дзяцей, хату без падлогі, але надта багатую бібліятэку — быў разумны і гаварыў «антыдзяржаўныя рэчы». Пра брата Міколы Равенскага і, найперш, пра драматычны лёс самога кампазітара выдатна напісала Дзіяна Чаркасава ў артыкуле «Альфа і амега яго жыцця» (час. «Полымя», 1992 г., № 12). Па яе словах, Анатоль Багатыроў сцвярджаў, што прозвішча Міколы Равенскага было сярод тых, «каго абавязкова арыштавалі б, каб не вайна...»

«І тым не менш няма ніякіх падстаў, — піша Дзіяна Чаркасава, — меркаваць, што Мікола Равенскі ўспрыняў вайну як збавенне. Як і на мільёны людзей, яна абрынулася на яго, быццам абвал, і прымусіла выбіраць свой шлях <...> У час вайны, пакінуўшы Мінск, М. Равенскі жыў у Чэрвені, працаваў у царкве псаломшчыкам, выконваў іншыя абавязкі, а самае галоўнае — стаў рэгентам царкоўнага хору. Ён ведаў і любіў царкоўную музыку, ім самім напісана многа цудоўных твораў, якія гучалі і гучаць у храмах. М. Равенскі быў з дзяцінства і да скону веруючым чалавекам, і вера ў міласць Усявышняга дапамагала яму выстаяць у найцяжэйшых жыццёвых варунках».

У 1944 г., калі фашысты ўцякалі з нашых земляў, Мікола Равенскі таксама вырушыў на Захад, але ці можна назваць яго за гэта здраднікам?

Працытую радкі з верша Наталлі Арсенневай «Не першыя» («Туга па радзіме», Мінск, 1992):

<...>

Не першых
сюды нас кон з ветрам прыгушкаў,
выгнаннікаў з торбаю, сэрцам і кіем,
з прыдушанай мовай,
адзінай, што душы
адныя адным адчыняе.
Такія,
не першыя,
мы запынілі пагоню
натоўпу чужога за ўдачай і хлебам,
у ходзішча ўросшы,

з душой пад адхонам,
зляканай усмешкай...
Не першыя, дзе там!
Паўвеку таму, над густою вадою,
стаялі, як мы тут,
дзядзькі з-пад Налібак,
дзяўчаты з-пад Шчары грамадкай рудою
<...>
што ўчора
нагбом, набрынялаю жменяй,
асот і куколь з каласамі зразалі,
рыпліваю сошкай гарнулі каменне
і роднаю песняй разгойдвалі далеч...

Ці было ім соладка на чужыне, адказала таксама Наталля Арсеннева:

Не цалавала рук
нікому я ў жыцці.
Табе ж,
мая зямля,
я цалавала б ногі...

На пачатку 1990-х, калі беларусам здалося, што цяпер ужо сапраўды ва ўсім можна разабрацца аб'ектыўна і справядліва і нешта са страчанага нават вярнуць, Святлана Берасцень (адна з найбольш таленавітых журналістаў «ЛіМа») адшукала дачку Міколы Равенскага Вольгу Аляксеенку — артыстку Акадэмічнага хору Дзяржтэлерадыё Беларусі, якая не толькі доўгі час не ведала, што яе бацька аўтар музыкі гімна «Магутны Божа», але, як і яе маці Яніна Станіславаўна (другая жонка М. Равенскага, першая памерла маладою), не ведала нават даты яго смерці — такі быў час... Размова С. Берасцень з дачкою М. Равенскага з'явілася ў «ЛіМе» (5 сакавіка 1993 г.) пад назваю «Маўчанне было надта доўгае...» Аказваецца, толькі ў 1971 годзе дачка Антона Равенскага Ніна «атрымала ліст з Англіі ад далёкай радні — цёткі Тані, якая ў нейкай газеце напаткала знаёмае імя». Праз перапіску з Таццянаю Руткоўскаю, дачкою стрыечнага брата Міколы Равенскага Аляксандра, Вольга Аляксеенка шмат чаго даведалася пра свайго бацьку, а вось запытацца пра тое, чаму ён апынуўся на чужыне без сям'і, адзін, са скрыпкаю, страціўшы ўсё, Святлана Берасцень не адважылася. Дарэчы, у энцыклапедыі «Тэатральная Беларусь» (2003 г., т. 2) ёсць артыкул пра Ніну Антонаўну Равінскую — заслужаную артыстку Беларусі, былую салістку (1970-я гады) мінскага тэатра музкамедыі — Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра. Гэта была прыгожая, таленавітая жанчына з прыгожым сапрана...

У чарговы раз гартаючы старонкі часопіса «Полымя», я адчувала даўкую роспач, перачытваючы вось гэтыя радкі: «Трагічна абарвалася ў гады вайны жыццё старэйшай дачкі кампазітара Лёлі Равенскай, — піша Дзіяна Чаркасава. — Яна была блізкім сябрам і сувязной Ісая Казінца, які з першых дзён акупацыі Мінска стварыў падпольную групу, быў сакратаром Мінскага гарадскога падпольнага камітэта КПБ. Таго самага І. Казінца, Героя Савецкага Саюза, імем якога названа адна з вуліц нашага горада, і на ёй жыве Лёлін сын, прыёмны сын Казінца, марскі афіцэр Барыс Камінскі, унук апальнага беларускага кампазітара Міколы Равенскага. Казінец і Лёля трапілі на явачнай кватэры ў рукі гестапа. Пасля катаванняў Казінца павесілі ў скверы каля тэатра імя Янкі Купалы, а Лёлю расстралялі ў двары мінскай турмы...»

Мікола Равенскі ведаў пра гэта, і смерць дачкі была і яго ахвярапрынашэннем... Гэта здарылася ў маі 1942 года. Іменем Казінца ў Мінску названыя плошча і вуліца, а на месцы пакарання смерцю ёсць мемарыяльны знак, але ў энцыклапедычным артыкуле пра Героя не згадваецца імя яго паплечніцы Лёлі Равенскай...

Цікава, з кім Мікола Равенскі сябраваў на чужыне? Хутчэй за ўсё, сапраўдных сяброў (пасля У. Дубоўкі і К. Чорнага) не было, бо пасля яго смерці знікла нават яго найвярнейшая сяброўка — любімая скрыпка. Але ў 1990-я гады ў Беларусі ў Міколы Равенскага з'явіўся новы сябра (гэта ж духоўнае паняцце!), роўны У. Дубоўку і К. Чорнаму, — гэта быў Ніл Гілевіч. Аднойчы ўражаны гімнам «Магутны Божа», менавіта ён, як старшыня камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, 20 красавіка 1995 г. горача даказваў, што песня, створаная ў далёкім замежжы беларусамі з драматычным лёсам, назаўсёды адарванымі сілаю абставінаў ад Бацькаўшчыны, павінна стаць дзяржаўным гімнам. Але «сіла абставінаў» і на гэты раз была мацнейшаю...

...Размаўляючы з жонкаю Міколы Равенскага Янінай Станіславаўнай, Дзіяна Чаркасава спытала ў яе, як яна можа растлумачыць, што такому высакароднаму чалавеку выпаў такі пакутлівы лёс і пакутлівая смерць (у яго быў рак). «Яе адказ, — піша Д. Чаркасава, — быў і просты, і загадкавы, і мудры мудрасцю чалавека, які многа перажыў і знайшоў сваё апірышча ў веры. — Шлях наш вузкі, сказана ў Евангеллі, хаця шырокай дарогай ідуць многія. Многія нарадзіліся, але нямногія выратуюцца».

...Яны паўсталі перад Богам з умалотам сваіх учынкаў, са сваёй любоўю, грахамі і пакутамі — Наталля Арсеннева, Мікола Равенскі, Кузьма Чорны, Уладзімір Дубоўка, Лёля Равенская, Ніл Гілевіч. Усе, хто ішоў у Неба вузкім шляхам.

# ПАМЯЦІ АЛЯКСАНДРА ЯРАШЭВІЧА (1940–2016)



Ён вельмі любіў Італію, і, калі гаварыў пра яе, называючы казачнаю краінаю, яго цёплыя карыя вочы станавіліся таямніча шчаслівымі, як у хлопчыка, мары якога збыліся — ён не раз быў у Італіі. Абразу Маці Божай Снежнай з рымскай базылікі Санта Марыя Маджорэ, самай вялікай з рымскіх святыняў, ён прысвяціў сваю маленькую кніжачку «Маці Божая Снежная ў Беларусі» («Про Хрысто», 2003), у якой упершыню былі пададзены гістарычныя і іканаграфічныя звесткі пра абразы «Снежнай» у Беларусі, бо ён моцна любіў і сваю родную Беларусь, захоплена адшукваючы ў яе сакральным мастацтве сімвалы хрысціянскага адзінства культурнай прасторы Еўропы — у Друі і Гродне, у Нясвіжы і Ішкалдзі, у Ідолце і Ружанах. Даследуючы іканапіс і гісторыю рэлігіі Беларусі, Аляксандр Ярашэвіч пабываў амаль ва ўсіх яе кутках.

Між тым, па першай сваёй вышэйшай адукацыі ён, кандыдат мастацтвазнаўства, быў фізікам — закончыў фізічны факультэт БДУ у 1962 годзе і шмат гадоў працаваў у Інстытуце ядзернай энергетыкі ў Соснах пад Мінскам — там і жыў, далёка ездзячы на працу ў горад, але свае Сосны любіў, бо там жа лес, прырода, цішыня...

Захоплены мастацтвам, ён стаў навуковым супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі — працаваў у Музеі старажытнабеларускай культуры, дзе некалькі гадоў быў галоўным захавальнікам фондаў, а ў апошнія амаль два дзесяцігоддзі працаваў у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Быў нашым верным добрым аўтарам, сябрам і дарадцам амаль ад пачатку існавання часопіса, і апошняя яго публікацыя «Адзінства ў разнастайнасці» (пра беларускія абразы Маці Божай, павезеныя на выставу ў Ватыкан) была змешчана ў № 2 за гэты год. Ён мог бы напісаць пра свае любімыя іконы значна больш, але пісаць не вельмі любіў. Апрача згаданай кніжачкі, у нашым выдавецтве «Про Хрысто» выйшла яшчэ адна яго маленькая перлінка — «Абраз Маці Божай Будслаўскай» (2004), і гэтымі кніжачкамі ён вельмі даражыў. Быў адным з аўтараў двухтомнага даведніка «Рымска-каталіцкія могілкі ў Мінску на Беларусі» (Варшава, 1996, 2000), укладальнікам і адным з аўтараў кнігі «Музей старажытнабеларускай культуры» (Мінск, 1998).

Ён некалькі гадоў цярпліва, мужна, годна змагаўся са сваёю хваробаю і па-ранейшаму працаваў, жыў штодзённымі клопатамі, усміхаўся. 29 кастрычніка, калі яго адпявалі ў царкве Свята-Елізавецінскага кляштара ў Мінску, ішоў дождж, а потым з’явілася сонца...

*Плакаў дождж па Італіі —*
*Па Італіі Вашай,*
*Аляксандр Адамавіч,*
*Ярашэвіч Саша.*

*Плакаў дождж,*
*Схіляючы дрэўцы ў паклонах,*
*І цямнелі, смуткуючы, фарбы*
*На любімых Вамі іконах.*

*Плакаў дождж,*
*Ды праз хмары прабіваліся промні,*
*Несучы Вам сонца Італіі —*
*Мы таксама Вас сонечным помнім...*

*Рэдакцыя «Нашай веры»*
*і ўвесь калектыў выдавецтва*
*«Про Хрысто».*

Васіль Зуёнак

# ЧЫТАЧ ЧЫТАЧУ — ЯК ПАЭТ ПАЭТУ, АЛЬБО — ЛЮБЛЮ ЧЫТАЦЬ СКОБЛУ

Чытачы бываюць розныя. І чытаюць яны па-living рознаму — і ў залежнасці ад настрою ды характару, і пакліканыя шумлівай зацікаўленасцю ці збегам абставін... Але заўсёды, пры ўсёй гэтай розніцы, чытанне — працэс, ці занятак, творчы. І — не ў крыўду, а пэўна, на радасць аўтару — чытач бачыць іншы раз далей сказанага — так і павінна быць!

То бясспрэчная ўласцівасць сапраўднага таленту: падключыць асабісты вопыт чытача, абудзіць яго прытоеную эмацыйную зараджанасць. І тады прыходзіць узнёслы стан творчай суладнасці, творчага ўзаемадзеяння...

...Аднойчы, чытаючы верш Міхася Скоблы пра Язэпа Драздовіча, які «жыў між людзей і спаміж падлюг», я раптам запытаўся сам у сябе: а чаму побач гэтае — «між» і «спаміж»? І тут жа ўцяміў: о, колькі сказаў і яшчэ скажа кожнаму гэты гук, пазначаны літарай «с»: «між» і «спаміж». Колькі нясе — важкага і характарнага — у напоўненасць зместу гэтае «с» са змяіным сіпеннем і сыканнем, маючы на ўвазе яго сумоўе са словам «падлюг»... Пра тое, можа, і сам аўтар не ведаў: можа, зусім падсвядома выскачыла гэтае «с»?.. А я здагадаўся...

Міхась Скобла не пачаў ні адмаўляць гэтага, ні прызнавацца, але заўважыў наконт маёй «здагадкі»: чытач, «які ўмее бачыць верш на малекулярным узроўні...»

Вось так стасункі «аўтар — чытач» ці «чытач — аўтар» (зрэшты, якая розніца?!) перарастаюць у нечаканыя сюжэты... Аўтар пахваліў чытача. А што ж яшчэ яму застаецца рабіць?..

*А чытач? А чытач чытае далей...*
*У перанаселенай вёсцы,*
*Дзе вечна гасцюе жальба...*

Вядома, галоўны тут, у вершы міфічна-рэальным «Бортнікі», паэтычны стрыжань: вёска, дзе «вечна гасцюе жальба», — гэта могілкі... Але прыгледзімся да слова «перанаселенай», — якое яно сэнсава галінастае! Пачнём з «...населенай», што пры ўсёй, увачавідкі пабачанай, шчыльнасці інакш і не вызначыш як «перанаселенай». Але ж з-за асноўнага, здавалася б, слова выглядае — варта толькі апусціць склад «на» — ці не яшчэ больш важнае і важкае: «пера < > селенай»... Пераселеная вёска... І пры гэтым згадаем нашу Чарнобыльскую зону...

Вось яно, тое самае прачытанне на «малекулярна-мікраскапічным» узроўні...

І яшчэ — у дадатак: «*Поўня, як абветраны рамонак...*» (верш «Два лісты ў Парыж Язэпу Янушкевічу») — гэта ж трэба ўбачыць: без пялёсткаў, жаўтлявай сэрцавінкай сваёй — поўненькі, поўня... І зноў жа — вымярэнне: «мікраскапічнае» — у раўнавазе з касмічным...

Люблю чытаць Скоблу.

Верш паэта не стракаціць тандэтнымі ўпрыгожваннямі. Яго трымаюць у найлепшай паэтычнай форме і важкасці залатыя самародкі жыццёвых дэталяў. Яны ў Міхася Скоблы — будаўнічы матэрыял паэтычнага вобраза. Метафара ў яго не выдуманая, не штучна сканструяваная, а ўбачаная,

---

**Васіль Зуёнак** — паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, кандыдат філалагічных навук. Нарадзіўся ў 1935 г. у в. Мачулішча Крупскага раёна. Скончыў аддзяленне журналістыкі філфака Белдзяржуніверсітэта (1959). Працаваў у газеце «Піянер Беларусі», часопісе «Маладосць», сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Друкуецца з 1954 г. Выдаў зборнікі паэзіі «Крэсіва» (1966), «Крутаяр» (1969), «Сяліба» (1973), «Нача» (1975), «Маўчанне травы» (1980) і інш. Піша таксама для дзяцей. Жыве ў Мінску.



пачутая, адчутая — яна жыве, дыхае, у ёй можна палічыць пульс. І яна можа загаварыць — і гаворыць! — нечакана, так, як ёй хочацца...

Дымы з камінoў: колькі прынеслі яны вершаваных радкоў і строфаў — і ўсё, прыблізна, у адной выяўленчай натуры і ў адным кірунку — знізу ўверх. А як усё «нагаблявана-ўвертыкаленае» нечакана і паэтычна ёмка «перакуліў» чатырохрадковы верш Міхася Скоблы:

КУДЗЕЛЯ ЗІМЫ

*У сумётах двары сядзелі.*
*Выраcталі дымы ўвачавідкі —*
*Быццам хаты пралі кудзелю,*
*З белых хмараў цягнучы ніткі...*

Во як аказваецца: дымы адтуль ідуць, з надхмарнага паднябесся, — гэта хаты прадуць нябесную кудзелю...

Што тут — метафара? Ці ўжо нешта самастойна вызначанае як мастацкая з’ява? Несумненна: гэта ўжо паўнавартасны мастацкі твор. І гэта — характэрнейшая асноватворная ўласцівасць паэзіі Міхася Скоблы: метафара разгортваецца ў паўнавартасны паэтычны аповед, як, да прыкладу, у вершы «Дзве касы: памяці дзеда Васіля», дзе якраз і скандэнсаваны той, самы апазнавальны, знак паэзіі Міхася Скоблы ў цэлым...

Дзед, адвечны працаўнік, выйшаў на сенажаць з касою. І тут яго сустрэла, быццам падсцерагала, другая адвечная сіла — таксама з касою... І — «*схапіліся ў лузе між сабой дзве касы*»... Баладны матыў, баладнае пераўвасабленне — несумненныя: не дзед і смерць, а іх сімвалы — жыцця і смерці — сышліся ў двубоі. І што вельмі важна заўважыць: дзедава каса змагалася, супрацьстаяла працаю: «*Касіў дзед канюшыну. Упаў на пракос і памёр...*» Упала на пракос і дзедава каса. Але — ці перамагла смерць са сваёй касою? Не! У яе няма той сілы, якою валодала дзедава каса, — сілы жыццядзейнасці — дзейнасці ў імя жыцця. Жыццё буяе, ахінае і дзеда несмяротнасцю:

*Лезлі ў вочы рамонкі,*
*Казытаўся чабор,*
*Не змаўкалі жаўронкі...*
*І аднаго шкада:*
*Дзед не чуў, ён памёр...*

Колькі шчымлівага смутку ў гэтай па-дзіцячы (вось дзе — зноў жа! — «мікраскапічны» сакрэт паэзіі) наіўна-просценькай выснове — жывога перад мёртвым. З сустрэчным пытаннем — гэта ўжо ад імя чытача, наконт таго, што «дзед не чуў»...

І яшчэ «ад чытача»: не па-чытацку вось так «раскладваць» верш — яго трэба чытаць на адным дыханні — цалкам і «нагбом». Але — мусіш пастyпацца — каб «паказаць», «адзначыць», «прыкмеціць»...

З паэтам Скоблам люблю размаўляць: ён гаворыць па-мойму. Што па-беларуску — гэта само сабой зразумела. А тут — разуменне глыбейшае. Ёсць душэўныя таемнасці. І паэзія — сувязная між імі. Чытаеш — і ловіш сябе на думцы: «Ах, здаецца б, і я так сказаў!» А вось жа ўдача адкрыцця выпала Міхасю. І не зайздросціш — радуешся! Гэта дзеецца

на адной хвалі паэтычнай сувязі. Пасьпяшаюся супакоіць: гэта не пагражае небяспекай паўтарэння — гэта проста «будаўнічы матэрыял» з аднаго бору.

Прыгадаем: дзедава каса ў Міхася Скоблы нерухома легла на пракосе. Знерухомела каса і ў дзеда з майго верша «Люцікі і смолкі лугавыя...» — хоць і не з такім трагічным фіналам: маўкліва іржавее ў падстрэшку, а «з касавільна кульбу дзед зрабіў...» Кожная каса маўчыць па-свойму. І маўчаннем апавядае-сведчыць сваё...

Міхась Скобла расказвае «Казку пра дождж» — як ён «пасеяў дождж на небасхілах», а «нехта ў мех пазбіраў насенныя дажджынкі» — і запанавала сухмень... Раскажу і я — толькі ўжо не казку, а замову (вершам «Добры прыезд», даволі «пашанотнага» ўзросту — 1964 г.): як насуперак сухменнай стыхіі «я дождж у свой прыезд наканаваў» і «прагнозаў аднастайнасці сухія за ноч дашчэнту лівень размачыў»...

У Міхася Скоблы — «Ода баразне»: «*О баразна — беларускі акоп!..*» А я раскажу, а то і праспяваю «Мелодыю бульбянай баразны», дзе «пырхаюць пальцы, як над піяніна...»

Такі вось вершаваны дыялог... Люблю пагаманіць са Скоблам!..

Генетычна падобную сувязь, творчую крэўнасць, пэўна, адчуваў і сам Міхась Скобла ў стасунках з паэтычным светам Анатоля Вялюгіна. Вялюгінскае прыцягненне захапіла аднойчы і палоніла назаўсёды маладога паэта. Пэўны час, калі Міхась кватараваў у Заслаўі, ён, асядлаўшы ровар, ехаў з жонкаю на недалёкую Лысую гару, на лецішча да Вялюгіна, — ехаў, як на прычасце, на паэтычны паклон. «Ад тых размоваў, вершаў у альтанцы, — згадвае Міхась Скобла, — засталося ў душы светлае рэха...» Уяўляю, як там, «у падсуседзях у спелага бору», нетаропка, густым голасам, з хітравата-лагодным прыжмурам вачэй («а во яшчэ паслухай!..») выносіў і ўзносіў з невычэрпнай памяці Анатоль Сцяпанавіч адзін за другім паэтычныя шэдэўры... Ды і Міхась, па-юначы ўзнёсла, натхнёна падтрымліваў гэта паэтычнае сумоўе ўчэпістай на вершы памяццю (вялюгінская хватка!)... Ды і вывучку набываў вялюгінскую, прычашчаючыся яго паэзіяй, дзе «думка скандэнсаваная, вобразы ўштукаваныя ў вершы, нібы каштоўныя камяні ў дыхтоўныя аправы...»

Гэта былі не проста гасцёўныя «візіты» — то было душэўнае, духоўнае памкненне. І хто прайшоў школу Вялюгіна, той загартаваны ў паэзіі.

Паэтычная мова Міхася Скоблы па-вялюгінску дакладная, змястоўна-важкая, не церпіць пустапарожніх слоў; радок пругкі, мускулісты, скіраваны да афарыстычнага гучання. Думка не віхляецца цьмяна і няпэўна: яна — пра жыццёванабалелае.

Усяго адзін прыклад. Бог даў народу магчымасць самаўвасобіцца, самавызначыцца, самаажыццявіцца — Бог даў яму мову. Берагчы яе — як заруку існасці — заклікае Францішак Багушэвіч: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі...» — і як суровае, як самае страшнае, што можа быць пад небам на зямлі, — папярэджанне ад Міхася Скоблы — паралельным радком:

*— Не пакідайце мовы, каб не ўмёрлі!*
*Самазабойцаў не ўваскросіць Бог.*

Выдатны суразмоўца Міхась Скобла для чытача. А сам Міхась Скобла — як чытач?

О, тут можна толькі здзівіцца і ў захапленні нагадаць: дзве аб'ёмнейшыя анталогіі — «Краса і сіла: беларуская паэзія XX стагоддзя» і «Галасы з-за небакраю: паэзія свету ў беларускіх перакладах XX стагоддзя» — а гэта ж найперш прачытанне! Каб з'явіліся гэтыя сотні анталагічных старонак, трэба было перачытаць іх тысячы і тысячы. (У «Галасах з-за небакраю», заўважым, 658 аўтараў, пачынаючы ад Гамера, і 198 перакладчыкаў). Але Міхась Скобла не проста чытач, а чытач-даследчык, старальнік і стваральнік. Старальнік, бо вышуквае штосьці эксклюзіўна-нечаканае ці па даўнасці часу забытае, як, прыкладам, паэтычныя пераклады Янкі Брыля. Стваральнік — бо гэта сапраўды выдатная праца па стварэнні Кнігі.

Вольны ход думкі, эрудзіраванасць — тое ж, што і начытанасць, паэтычная назіральнасць, ставяць у шэраг класічных біяграфічныя эсэ Міхася Скоблы, яго прадмовы да ўкладзеных ім і пракаментаваных кніг.

І таму (як чытач з 75-гадовым стажам) хачу шчыра параіць: чытайце Міхася Скоблу! Чытайце ў паэзіі і ў прозе. І не пра́мініце тое, што ён сам раіць прачытаць.

*Рэдкалегія часопіса «Наша вера» сардэчна віншуе Міхася Скоблу — свайго даўняга аўтара і сябра, з залатым юбілеем. Жадаем шчодрых Божых ласкаў і чакаем новых твораў!*

# Міхась Скобла



Фота Джона Кунстадтэра.

**Міхась Скобла** — паэт, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Роднае слова» і выдавецтва «Беларускі кнігазбор», у Міністэрстве культуры і друку. Аўтар кніг паэзіі «Вечны зніч» (1990), «Вочы савы» (1994), «Нашэсце поўні» (2001), «Акно для матылькоў» (2009), зборнікаў пародый «Розгі ў розніцу» (1993), вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), краязнаўчых нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999), радыё-дыялогаў «Вольная студыя» (2009), эсэ «Саркафагі страху (2016). Уклаў фундаментальныя анталогіі паэзіі: «Краса і сіла: беларуская паэзія XX ст.» (2003), «Галасы з-за небакраю: паэзія свету ў беларускіх перакладах XX ст.» (2008), збор твораў Л. Геніюш ды інш. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (2000).

## *НОВЫЯ ВЕРШЫ*

* * *

Над Крошынам ізноў пагрымвае.
Чарнее паднябенне неба.
І жырандоляю Багрымавай
Штоноч свяціць касцёлу трэба.

І ўпоцемку жыць могуць людзі,
Раздольна поначы ваўкам,
Сава ў дупле кугікаць будзе,
А як у цемры жаўрукам?

Сузор'е знічкамі не падае.
І рады просьбіты дарам.
Свяціся ж Боскаю лампадаю
У жаўруковых песнях, храм!

### НА РАДЗІМЕ МІХАСЯ СТРАЛЬЦОВА

Прыехаць у сонечны Сычын,
Па вёсцы бязлюднай прайсці.
Ні крыку, ні скрыпу маснічын,
Ні шчэбету ў жоўтым лісці.

Павук на спачын у начоўкі
Па ўласнай драбінцы залез.
У хаты, нібы ў леснічоўкі,
Заходзіць дапытлівы лес.

Бяроза стаіць каля печы,
Асіна дрыжыць ля акна.
Збуцвелую бэльку на плечы,
Здаецца, падхопіць сасна.

На покуць прабралася ліпа,
Ядловец за ёй наўздагон...
І ўжо за сялібай сяліба
Здалася ў зялёны палон.

А злеціць жаўна з паднябесся,
І ўжо неўпрыцям той жаўне,
Ці хаты сабраліся ў лесе,
Ці лес у тых хатах жыве.

## КАЛЫСКА

З мазаікі ўспамінаў-сноў
Збіраю зноў асколкі —
Калыскаю лаўлю ўюноў
Пад вясёлкам вясёлкі.

Рыбацкай граматы азы
Засвоены сумленна.
Калыска сплецена з лазы.
Рачулка па калена.

Прыбіла плынь да босых ног
Усмешлівую лотаць.
Калыска выгайдала трох.
Ёй даспадобы — лётаць.

Зашыюцца ўюны няхай
У глей пад карнявіска.
Ты зноў мяне пакалыхай,
Калысанька, калыска.

На бераг прыкульгае бай,
І кот-варкот, і ліска.
Ты ўсіх нас разам пагайдай,
Калысанька, калыска.

І покуль дзень той праміне
І прыйдзе вечар золкі,
Калысанька, злаві мяне
Пад восілкам вясёлкі!

## ЯБЛЫНЯ

Яблыневы сад абкошваў дзед,
Размаўляў з казой, збіраў ламачча.
Спадцішка ступала смерць услед —
Дзед яе за дрэвамі не бачыў.

Як убачыў — адвязаў казу,
Пажадаўшы саду даўгалеццяя,
Пачапіў на яблыню касу
І пайшоў пакорліва за смерцю.

Дзед ішоў прысадамі, мяжой.
А каса галодная люцела
І паіла яблыню іржой,
І ўпілася ёй зубамі ў цела.

Дзед ішоў праз поле нацянькі
Лёгкаю хадою, як калісьці.
Пакруціла ў яблыні сукі,
Пачарнела сярод лета лісце...

Ранкі абмываліся расой,
І стаяла ў жоўтым лістападзе
Яблыня кашчавая з касой
У здзічэлым анямелым садзе.

* * *

Турэцкі бераг. Шарая гадзіна.
Штурмуе мора ўпартае базальт.
Чуваць аднекуль песня муэдзіна,
А ля пустой таверны грае альт.

Як быццам свету цэламу «бывайце»
Гаворыць тою музыкай скрыпач.
Таверна. Мора. Моцарт і Вівальдзі.
І песня муэдзіна, нібы плач.

Турэцкі вечар зманьвае ў альковы —
Заходзь, багаты лірай і рублём.
Старой дзяржавы сцяг маладзіковы
Над кожным домам, як над караблём.

Плывіце пад тым сцягам, хто ахвочы.
Але пацвердзіць музыка сама, —
Мы розныя з ёй памятаем ночы, —
Чарней за ноч турэцкую няма.

* * *

З пасланнем ад продкаў — бяроста,
Пісала сатлелага след...
«Лісты — ашчадкніжкі сяброўства»*, —
Меў рацыю ўсё-ткі паэт!

Лісты — красамоўныя крэскі
Да вашых партрэтаў без рам.
Не шліце сябрам эсэмэскі,
Лісты дасылайце сябрам!

Няхай непаспешная пошта
Даставіць вам пісьмы дамоў —
І, нібы той грынаўскі кошык,
Квітнецьме букетам раскошным
Гербарый пачуццяў наноў!

Не крышку, а добрага лішку
Дадасць, не шкадуючы, час
На тую лістоў «ашчадкніжку» —
Вось ён, залаты ваш запас.

Нашто з намі век каратае
Назойлівы скайп і вай-фай?
Хай пішацца слова «вітаю»,
Хай пішацца слова «бывай».

## ДУДА

*Памяці Зміцера Сідаровіча*

Абселі зыркіх зорак восы
Падшыты золатам кілім.
А з хмарачоса на нябёсы
Душа ляцела пяць хвілін.

*Радок Міхася Стральцова.

Што ёй балістыка і пластыка
Аблок у лёгкай іх хадзе?
Яна, нібы ў падстрэшшы ластаўка,
Жыла ў дудзе.

Дуда журылася жалейкай,
Дуда гукалася сурмой.
І плакала па згубе нейкай,
І звала за радзіму ў бой.

Віднеўся ў вышыні бяздоннай
У вырай-рай птушыны тор.
Душа, застаўшыся бяздомнай,
Віла гняздо з калючых зор.

Ім ані хорам, ані сола
У горняй высі не гучаць.
І Бог паслаў ёй арханёла —
Каб даспяваць, каб не маўчаць.

І стуль, дзе сціхнуў голас трубны,
Дзе ў райскай квецені сады, —
Пачуўся раптам жыццялюбны
Зык арханёльскае дуды.

## ВЯРТАННЕ

*Памяці Анатоля Сыса*

Хто пайшоў на той свет безыменным,
Хто героем пад мармурам спіць.
Ты ж вярнуўся ў Гарошкаў каменным,
Больш не хочаш ні есці, ні піць.

Без цябе мізарнее застолле,
Растае на Дняпры ледастаў.
Каб ты каменем стаў сярод поля —
Так народ гаварыў. Ты і стаў.

Не за вёскай валун нелюдзімы,
Што ўначы абжываюць сычы,
Ты за пазухаю ў радзімы —
Камень Божы ў яе прашчы.

Для батыявокіх — пагібель,
Абарончы мур для братоў.
Ты і словам цаляў — не хібіў,
Стаўшы каменем — пагатоў.

Плуг замрэ у руках ратая,
А рака ад шаманскіх камланняў,
І далёкае «дух — гэта я» —
Як галёканне старыц і плаўняў.

Не збудуеш для духу турму,
Пройдзе ён і праз вушка іголкі,
І заззяе насустрач яму
Трыумфальная брама вясёлкі.

## ЯК ТРАПІЦЬ У РАЙ

Ён думаў — кар'еру завершыў,
Няўдаліца, лузер, банкрут.
Запіў. І дапіўся да вершаў.
Памёр. І быў з партыі першым
На Божы пакліканы суд.

Спытаў яго Госпад сурова:
— Ты грэшнік вялікі, хаця
Для ўсіх ёсць апошняе слова.
Дзе вынік зямнога жыцця?

І там, дзе струменіў эфірны
Між белых аблок халадок,
Ён Богу — пра ўсе свае фірмы,
Пра ўласны аграгарадок...

Ды Госпадам без цырымоній
Прыпынена споведзь была:
— Служыў ты, як бачна, мамоне,
Для гэткіх — у пекле смала!

Здранцвеў з пераляку памершы:
— О Божа! Суд строгі вяршы,
Але — мо паслухаеш... вершы?
Я... вершы пісаў... для душы.

І там, дзе струменіўся свежы
Між белых аблок халадок,
Ён Богу чытаў свае вершы,
Забыць баючыся радок!

Аблокі, як белыя вішні,
Расквецілі ўсцяж небакрай.
І трапіў падсудны — у рай,
Бо вершы любіў Усявышні.

## АДКАЗ КАРДЫНАЛА

Бабулі дзве, дзядок і маладзіца
Прыйшлі да кардынала на прыймо.
— Вялебны, нам не есца і не спіцца —
На рускай мове хочам мы маліцца,
На мове іншай рады не дамо!

Паслаў нас ксёндз, і храм у нас ёсць новы,
І на алтар сабралі капітал...
— Ваш ксёндз — такі любіцель рускай мовы? —
Спытаўся, памаўчаўшы, кардынал.

О, Ваша Эмінэнцыя, любіцель!
На мове беларускай — ні гу-гу,
Ды дбае так пра нашую абіцель...
І кардынал сказаў: — Дапамагу.

А што далей? Храм узвышаўся новы,
У ім жылі малітва і любоў.
А гэты ксёндз, аматар рускай мовы,
Служыць паехаў некуды ў Тамбоў.



# Антаніна Хатэнка

**Антаніна Хатэнка** — паэтка, культуролаг. Нарадзілася ў 1956 г. на Зэльвеншчыне, на хутары Ліберполь у сям'і дырэктара пачатковай школы. Вучылася ў Пружанскай школе-інтэрнаце. Закончыла філалагічны факультэт БДУ (1978), аспірантуру пры Інстытуце этнаграфіі, фальклору і мастацтвазнаўства АН Беларусі. Працавала ў выдавецтве «Народная асвета», Беларускім фондзе культуры, Літаратурным музеі Янкі Купалы, на Белдзяржтэлерадыё, на радыё «Рацыя» і радыё «Свабода». Выдала кнігу паэтычнай публіцыстыкі «Зніч крыжовых дарог» (Мінск, 1992), нарысы пра беларускую народную творчасць «Чалавек у далонях Сусвету» (Мінск, 1998), кнігу-паэму «Здзічэлае рэха вясны» (Кліўленд, ЗША, 1999), зборнік вершаў «Тры грацыі» (супольна з Нінай Мацяш і Аўгінняй Кавалюк; Санкт-Пецярбург, 2002).

**БЕЛЫ ЗВОН**
*(зімовая мярэжа)*

Зіміць зямля. Тут час, як сон, свіціцца.
Мінуласць і наступнасць – эраўзлёт.
Так хочацца да Бога прытуліцца.
Але пралёг да Неба галалёд.

Баліць бальшак. Тут спее ўздым пад снегам.
Тут горка пахне Воляю здавён.
Прыб'юся птушкай ціхае суцехі –
І разгайдаю схаладзелы звон.

Стаіўся сум. Застылая завея...
Вячыста Воля расхінае век.
Чуйнуе ў сэрцы звонавым Надзея.
І ў зорцы. І ў дарозе. І ў траве.

* * *

Белы птах над Чырвоным касцёлам.
Неба крылы наўсцяж распрасцёрла.
І спаміны мае – пілігрымы,
выпраўляюцца ў даўнія зімы.

Там далёка-далёка завея
развінулася з сонцавых веяў.
Лёгка кружаць лятункі-пялёсткі
па-над садам нямым, па-над лёсам.

Белы шал. Чырвань-шнар. Завіруха.
Перамовы таемныя Духу.
Ціха-ціха ў Чырвоным касцёле
пад высокай аховай анёлаў.

У Чырвоным касцёле грамнічна.
Свеціць свечкі расчуленай клічнік.
А спамінаў маіх пілігрымы
падаюцца чужымі-чужымі.

Бел-чырвоная-бела над намі
адшугала эпоха снягамі.
І над помным Чырвоным касцёлам
адазвалася ўдзячлівым звонам.

* * *

За домам снег кулямі з вязаў падаў,
імжа ільдзяна шкрэблася ў вакно.
А недзе срэбразвонныя Каляды
кружыліся... Далёка і даўно.

Сляпая доля ўсхліпвала адчайна,
нібыта ў цемрадзь падала кулём.
Каго мой лес удома прывячае,
узмахваючы ўбеленым галлём?

Адсюль, з маёй далёкасці сірочай,
ні роду, ні народу не чутно.
Так б'ецца ў ноч адплаканая роспач —
сцінае стогн каляднае вакно.

Скавыча сум па-воўчы адзінотна
на месяц, што плыве ў пушчанскі Край
у снегавыя ўхутацца палотны,
замест мяне ўшчадрыцца ў зімаграй.

*18.01.2016, Украіна*

* * *

*«У родным краі ёсьць крыніца
жывой вады».*
М. Багдановіч

Твой шлях ад Менску да Гародні —
сувой-спакой.
У снезе сонным і халодным —
вагонь вякоў.

Твой шлях ні блізкі, ні далёкі —
узмах крыла.
Якою прывіднай і крохкай
зіма была.

Твой шлях ад снежня —
да бязмежжа, ад Краю ў рай.
У сцюжы спала незалежнасць,
Літвы пара.

Твой шлях пад зоркаю Венерай —
кахання спеў,
пад болем, страхам і бязвер'ем
уздым саспеў.

Твой шлях да помнае крыніцы
жывой вады.
Тут прыпыняюцца маліцца
сны-халады.

Твой шлях дамоў, да Веранікі —
сцямнеўся сад.
А ў шатах восені паніклай
трымціць краса.

Твой шлях ад Менску да Пагоні,
з прадоння ўвыш.
Ад вастрабрамскага бяссоння
да зор ляціш...

*09.12.2001*

## АДРАДЖЭННЕ

Па-за ціхай завеяй,
за мінуласцю дзён
век сумежвае веі,
шлях мярэжна відзён.

Па-за белай заслонай,
за спамінам былым
пахаваны палоны,
пацішэлі грамы.

То ўзляціць завіруха,
то нямотна ўпадзе...
Кінеш покліч — ні зруху
не чутно анідзе.

Адгалосак мяцеліц
долі не развіне.
Сны да волі ляцелі.
Яве як развіднець?

За саслеплай завеяй —
невідушчыя дні.
Можа, свет прасвятлее...
Як сабе не зманіць?

*27.02.2004*

***



# Анатоль Брусевіч

## У чаканні зімы

**Анатоль Брусевіч** – паэт, літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў 1977 г. у Гродне. Скончыў філалагічны факультэт ГрДУ імя Янкі Купалы (1999), там жа — магістратуру (2000) і аспірантуру (2003) пры кафедры польскай філалогіі. Аўтар кніг паэзіі «Дуэль» (1992), «Падаю ў неба» (2006), «Апошні дзень» (2013), манаграфіі «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча» (2008). Жыве і працуе ў Гродне.

* * *

Пакацілася лета за вежы гатычных касцёлаў,
Зачынілася светлае неба на хмары-замкі
І не хоча пускаць заблукалых вандроўных анёлаў,
І яны адлятаюць ізноў на чатыры бакі.

Так і скончыцца свет — ні анёлаў, ні лета не будзе,
Толькі неба і хмары, і вежы, нібыта цвікі,
І малітвы, якія прыдумалі некалі людзі,
Каб спакойна блукаць, вандраваць на чатыры бакі.

* * *

У чаканні зімы на раскіданым вогнішчы лета,
На счарнелым вуголлі пустых, нібы рэха, уцех
Дождж халодны малюе абрысы сляпога паэта,
Рыфмара, што застаўся сам-насам са смехам людзей.

Так, паэт быў сляпы, бо не бачыў высокага неба.
Ён сачыў глыбіню, глыбіня яго выпіла зрок.
У чаканні зімы агаліліся райскія дрэвы,
І лістоту пад імі зграбае купальскі дзядок.

* * *

*Эдзіку Мазько*

Так шмат дарог вядзе да Пана Бога,
А ты абраў кароткі самы шлях —
Пайшоў наўпрост — па вострых камянях,
Не баючыся да крыві параніць ногі.

Ну што ж, бывай, цяпер ты не адзін.
Ты нас пакінуў цешыцца самотай,
Лічыць гады ад слоты да спякоты,
Сачыць, як з дрэваў сыплецца бурштын,

Глядзець, як падрастаюць нашы дзеткі,
Як вершы спяць у пераплётах кніг,
Як адыходзіць з марамі цягнік
У светлы край жывых і штучных кветак.

* * *

Мяне ратавала вера.
Павернуты да сцяны
Халодных, як золак, вершаў,
Я сэрцам прагнуў вайны.

Я марыў чытаць па рунах
Дажджу малітвы зімы,
Пусты сумлення рахунак
Напоўніць гукам сурмы.

Але не сурмой напоўніў
Сябе, а чорнай турмой,
Якая зацьменнем поўным
Лягла на мой неспакой.

Я думаў: скончацца слёзы,
І лёс саскочыць з ляза
Ілжывых, подлых даносаў.
Ды не. Іскрыцца сляза,

Як сімвал страчанай меры,
Як першы нясмелы крок...
Мяне ўратавала вера.
І я не пайшоў у змрок.

* * *

Палова жыцця пражыта.
Другая палова — міт.
— Чаму ты з вершамі сшытак
Гартаеш і плачаш наўзрыд?
— Мой плач — хвілінная слабасць
З нагоды дзіўнага сну:
Прысніўся нямоглы старац,
Шукаў ён нешта ў пяску,
Худымі грэбаў рукамі
Ва ўсе чатыры бакі.
Пытаюся: «Што шукаеш?»
— «Шукаю вершаў радкі.
Я выкінуў іх у хвалі
Юнацтва бурнай ракі.
І хвалі іх пахавалі,
І сталі пяском радкі.
А я з таго самага часу
Згубіў шчаслівы спакой...»
Я ў твар угледзеўся старцу:
О, Божа! Ён твар меў мой.

* * *

Іржавымі ключамі навальніцаў
Адчыніць лета браму ў райскі сад.
Адтуль ужо не вернешся назад,
Спазнаўшы ўсю трывогу таямніцы.

Адтуль адна дарога — да вады,
У глыбіні якой жыве маўчанне.
Калі папросіш, срэбнымі ключамі
Яно адчыніць браму ў нікуды...

**Вершы**

Вершы прыходзяць да паэтаў,
Як дзеці да састарэлых бацькоў —
Рэдка, калі проста так,
Звычайна на святы,
Каб споўніць свой
Быццам бы абавязак,
Вяртаюць яны нібы тое,
Што некалі пазычалі,
Хоць на самай справе
Ніхто нікому нічога
Ніколі не быў вінны.
А калі адыходзяць вершы,
Паэты доўга не могуць
Заснуць, узіраюцца моўчкі
У змрок лістапада і снежня
Ці проста ва ўласныя думкі,
І свята чакаюць, чакаюць
Вяртання дахаты
Блудных, любімых дзяцей.

* * *

Маўчання пацалунак змрочны
Вяртае ў сон халодных зор.
Душу шляхамі слёз сірочых
Вяду, хоць кожны крок — лязо.

Трывогай поўніцца свабода.
Свабодай пеняцца гады.
Гарачь ад заходу да ўсходу
Душы крывавыя сляды.

Галіна Тычко

# Чалавек вялікага сэрца

*Кузьма Чорны. Чалавек — гэта цэлы свет :*
*успаміны, эсэ, артыкулы, інтэрв'ю, дакументы / [укладальнік Г. Шаблінская]. —*
*Мінск : Мастацкая літаратура, 2016. — 510 с., [32] л. іл., партр., факсім. —*
*(Жыццё знакамітых людзей Беларусі : ЖЗЛБ).*




У наш хуткаплынны і мітуслівы час у чалавека, як быццам, няма патрэбы азірацца назад, заглыбляцца ў мінулае, асабліва, калі яно было не такім светлым і бязвоблачным, як хацелася б. Але пры ўсёй шматстайнасці выбару крыніцаў інфармацыі забаўляльнага і пазнавальнага плану, класіка застаецца заўсёды запатрабаванай, неперажыўзыдзенай, здольнай захапляць і здзіўляць новымі адкрыццямі глыбіняў чалавечай душы, невычэрпнасці і неспазнанасці яе свету.

Класічныя творы і іх вялікія аўтары, як тая перліна ў марской ракавіне, абточаная водамі вечнасці, з гадамі набіраюць большага бляску, уражваюць дасканаласцю сваіх формаў і непрадказальнасцю жывой душы чалавечай.

Такой падаецца сёння спадчына і постаць Кузьмы Чорнага, нашага знакамітага класіка, самабытнага пісьменніка, чалавека глыбокай і далікатнай душы, вялікага сэрца. Асабліва па-новаму адкрываецца гэтая глыбіня і веліч, калі бачыш пісьменніка ў кантэксце яго складанага гістарычнага часу, у повязях з тагачасным літаратурным і сацыяльна-палітычным асяроддзем; вачыма сямейнікаў, знакамітых пісьменнікаў, сяброў і добрых знаёмых. Такім ён паўстае са старонак унікальнай кнігі «Кузьма Чорны. Чалавек — гэта цэлы свет : успаміны, эсэ, артыкулы, інтэрв'ю, дакументы», укладзенай вядомай руплівіцай на ніве беларускага мастацкага слова — Галінай Шаблінскай, якая ўжо выступала ў якасці ўкладальніка кніг серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі», склаўшы тамы, прысвечаныя Янку Купалу і Уладзіміру Караткевічу.

«Постаць Кузьмы Чорнага мяне цікавіла даўно. Здавалася б, хрэстаматыйны аўтар, але мы ведаем пра яго да крыўднага мала. <...> Вялікі талент — гэта заўсёды вялікая таямніца. І мяне кожны раз дзівіць тая сіла супрацьстаяння часу, абставінам, лёсу, якой валодаюць таленавітыя людзі (на жаль, не ўсе). Я, можа, выкажу парадаксальную думку, але Купала, Караткевіч і Чорны — блізкія ў выяўленні свайго боскага творчага дару. Паглядзіце, у кожнага з іх —

**Галіна ТЫЧКО** — доктар філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай філалогіі і сусветнай літаратуры БДУ культуры і мастацтва. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў (з 1993 г.). Даследуе сучасную беларускую літаратуру, займаецца перакладамі з польскай мовы. Аўтар манаграфіі «Творчасць Янкі Купалы і традыцыі духоўнай рэгіянальнай і польскай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя» (2001) і шматлікіх публікацый.

кароткі зямны век: 60, 54 і 44 гады адпаведна. Яны перажылі палітычныя ўціскі свайго часу, а то і рэпрэсіі, і праз усе выпрабаванні — такое ахвярнае служэнне беларускаму слову і Бацькаўшчыне», — адзначала ў адным з інтэрв'ю, прысвечаным выхаду кнігі, Г. Шаблінская.

Гэтая кніга, як і папярэдняя, укладзеныя Г. Шаблінскай, створана ў серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі», але паводле сваёй будовы, спосабу выкладу матэрыялу, змястоўнага напаўнення яна істотна адрозніваецца ад тых твораў, што мы прызвычаіліся лічыць класікай жанру. Несумненна, і праз стагоддзі дасведчаны чытач не перастане захапляцца славутымі раманамі біяграфічнага плану: Ю.Тынянава «Смерць Вазір-Мухтара» — пра складаны жыццёвы лёс рускага пісьменніка А. Грыбаедава; вытанчанай інтэлектуальнасцю твора Я. Парандоўскага «Кароль жыцця», дзе па-мастацку ўвасоблена жыццё славутага О. Уайльда. У гэтым шэрагу і кніга нашага А. Адамовіча «Браму скарбаў сваіх адчыняю» — раман пра трагічную наканаванасць беларускага лёсу, пра жыццё і смерць Максіма Гарэцкага, кніга, якую нельга чытаць без слёз. Ёсць шмат іншых твораў падобнага плану, якія ўвайшлі ў скарбніцу сусветнай літаратуры і, прыадчыняючы свет душы вялікіх мастакоў, робяць нас лепшымі, больш міласэрнымі і чалавечнымі.

І тым не менш, кніга пра лёс Кузьмы Чорнага — адметная, адрозная ад класічнай традыцыі. Постаць творцы, яго пісьменніцкая і чалавечая індывідуальнасць падаюцца Г. Шаблінскай праз асабістыя сведчанні Кузьмы Чорнага, яго аўтабіяграфію, дзённікавыя запісы, фрагменты твораў. Складаны свет пісьменніцкай душы мы спазнаем праз інтэрпрэтацыю яго літаратурнай спадчыны даследчыкамі XX стагоддзя і сучаснымі, праз успрыманне людзей, якія асабіста ведалі і кантактавалі з пісьменнікам, і тых, хто адкрываў Кузьму Чорнага як класіка нацыянальнай літаратуры.

Такое шматгалоссе, своеасаблівы, паводле азначэння С. Алексіевіч, «жанр чалавечых галасоў», «дакументаў чалавечай душы», дае свой плён. Кампазіцыйна кніга падзеленая на пяць частак. У першым раздзеле ўкладальніца змяшчае некалькі варыянтаў аўтабіяграфіі К. Чорнага, напісаных у розны час і з розных нагодаў, а таксама звесткі біяграфічнага характару, пададзеныя праз успаміны дачкі пісьменніка Рагнеды Раманоўскай, асабістыя запісы самога Кузьмы Чорнага. З асаблівай цікавасцю чытаюцца «Нататкі да біяграфіі Кузьмы Чорнага» В. Вольскага, сучасніка К. Чорнага, аўтабіяграфічны нарыс С. Александровіча «Сэрца, у якім месціцца цэлы свет», а таксама інтэрв'ю Г. Каржанеўскай з дачкой пісьменніка Рагнедай Раманоўскай і інтэрв'ю Г. Шаблінскай з яго ўнукам Міколам Раманоўскім.

З успамінаў і выказванняў блізкіх паўстае воблік жывога Кузьмы Чорнага, які, аказваецца, насуперак псеўданіму, быў бялявы, вясёлы і дасціпны. Рагнеда Мікалаеўна прыгадвае шмат розных смешных гісторый, расказаных бацькам і пра сваіх блізкіх сваякоў, і пра суседзяў цімкаўцаў. Сябры і знаёмыя ў сваіх успамінах таксама часта згадваюць яго схільнасць да жартаў.

«Кузьма быў надзвычай прыемным субяседнікам, умеў добра расказваць і шчыра смяяцца. Кожнае яго вуснае апавяданне было, па сутнасці, амаль закончаным творам, з цікавымі назіраннямі, стройным сюжэтам і жывымі чалавечымі характарамі», — згадвае пісьменнік Мікола Хведаровіч (с.345). Васіль Вітка прыводзіць адну з такіх жартоўных мініяцюраў Кузьмы Чорнага, напісаных як бы мімаходзь:

«Урэменна»

— Мабыць, я такі жанюся!

— З кім?

— Ну з гэтай... З Манькай.

— Каторай?

— Ну, што ў буфеце...

— Рыжай?

— Ну.

— Рабой?

— Ну.

— Касавокай?

— Ну.

— Ты што, здурнеў?

— Дык я ж... Урэменна... (с. 129).

Іван Мележ, які аддаў на суд Кузьму Чорнаму свае апавяданні напярэдадні яго першага інсульту, прыгадвае, як быў здзіўлены і ўзрушаны тым, што хворы пісьменнік, які сам не мог чытаць, папрасіў дапамогі дачкі і праз некалькі дзён напісаў пачаткоўцу грунтоўны адказ.

«Чуў я ад таварышаў, што людзі ад Чорнага выходзілі бадзёрымі, выходзілі з жаданнем працаваць, — прыгадваў І. Мележ. — Гэта было добрае, чулае да людзей сэрца. Мусіць, ад гэтай сваёй дабрыні, ад чуласці, а можа, ад пераканання, што лагоднае, добразычлівае слова больш дае сілы чалавеку, чым лаянка, ён людзям, што адкрывалі яму першыя запаветныя свае сшыткі, задумы, часта гаварыў добрыя абнадзейлівыя словы» (с. 259).

У раздзел «Застаўся ў сэрцах і думах» укладальніца ўключыла

таксама і фрагмент мастацкай аповесці Міхася Тычыны пра Кузьму Чорнага «Вяртанне» .

А вось у трэцім раздзеле — «Урокі класіка» — змешчана падборка матэрыялаў вядомых пісьменнікаў і літаратуразнаўцаў, якія даюць ацэнку творам Кузьмы Чорнага. Развагі А. Адамовіча, Я. Брыля, В. Адамчыка, В. Быкава пра феномен пісьменніка і яго ролю ў нашай літаратуры вельмі ўдала падсвечаны факсімільнай публікацыяй «„Зямля“ Кузьмы Чорнага» Адама Бабарэкі — нашага выдатнага крытыка-ўзвышэнца, які загінуў у гады рэпрэсій.

Дзённікавыя запісы Кузьмы Чорнага, яго ліставанне і іншыя дакументы Г. Шаблінская аб'яднала ў раздзел «Душу выпрабоўвае час», які пачынаецца выдатным аглядным артыкулам М. Мушынскага «Мемуарная і эпісталярная спадчына Кузьмы Чорнага».

У заключным раздзеле ўкладальніца змясціла матэрыялы пра Літаратурны музей Чорнага ў Цімкавічах, а таксама ўласныя матэрыялы да радыёспектакля «Млечны шлях» паводле рамана К. Чорнага, прэм'ера якога адбылася ў 2014 г. на Беларускім радыё. Варта адзначыць, што ў кнізе пададзены ўнікальныя матэрыялы з сямейнага архіва пісьменніка. Кніга багата аздоблена фотаздымкамі, разнастайнымі ілюстрацыямі, сярод якіх змешчаны нават малюнкі Кузьмы Чорнага, фрагменты яго рукапісаў, вокладкі першых выданняў яго твораў і інш.

Усе гэтыя матэрыялы і дакументы ствараюць складаны і светлы вобраз Кузьмы Чорнага — пісьменніка і чалавека, часам нечаканы, непрадказальны, велічны і па-чалавечы просты, абаяльны ў праявах і дробязях штодзённага жыцця.

У юнацтве Кузьма Чорны спяваў у царкоўным хоры, а напрыканцы жыцця, прадчуваючы хуткую смерць, ён пакінуў у сваім дзённіку трагічны запіс: «Божа, памажы мне напісаць мае раманы». Дачка прыгадвае, як ён шчыра маліўся, застаючыся адзін у сваім кабінеце, просячы паратунку ад смерці. Як вынікае з успамінаў сваякоў, сям'я пісьменніка была надзвычай талерантнай у дачыненні да рэлігіі: у ёй паядналіся каталікі, уніяты, праваслаўныя, а сам Кузьма Чорны, ажаніўшыся з габрэйкай, пазнаёміўся і з юдаізмам. Ёсць яшчэ адзін цікавы факт, пра які згадвае сястра Чорнага — Марыя Карлаўна: будучы пісьменнік нарадзіўся ў маёнтку Боркі, які належаў фундатару Чырвонага касцёла Эдварду Вайніловічу, у якога ў той час арандаваў зямлю яго бацька (с. 32).

Мікола Раманоўскі, унук пісьменніка, прыгадваючы сямейныя гісторыі, расказвае, як выяўлялася беларуская сялянская натура ў звычках вялікага пісьменніка. «Адзінае рознагалоссе ў Чорнага з жонкай, я чуў, было наконт таго, як бульбу абіраць. Чорны абіраў бульбу па-вясковаму: шах-шах — і гатова: паўбульбіны ідзе ў шалупінне — свінні ўсё з'ядуць. А бабуля — па-гарадскому: ашчадна, тоненька» (53).

Новыя акцэнты выяўляюцца Г. Шаблінскай і ў вытоках творчага майстэрства Кузьмы Чорнага. Агульнавядома, як любіў беларускі класік творчасць А. дэ Бальзака, Ф. Дастаеўскага, як шмат вучыўся ў іх. Грунтоўна і пераканаўча расказвае сённяшнім чытачам пра гэта выдатная кніга А. Адамовіча «Маштабнасць прозы: Урокі творчасці Кузьмы Чорнага» (1972 г.). Але, аказваецца, быў у Кузьмы Чорнага і яшчэ адзін кумір у вялікай літаратуры — нарвежскі пісьменнік XX стагоддзя, Нобелеўскі лаўрэат Кнут Гамсун, творчасць якога ў савецкай літаратуры стала больш-менш вядомай у 80-я гады мінулага стагоддзя. У размове з А. Зарыцкім Кузьма Чорны, паказваючы на партрэт Кнута Гамсуна, які вісеў у яго кабінеце, сказаў: «Вось гэта той парог, праз які мне ў маладыя гады давялося пераступіць» (с. 161).

«Што было ў Кузьмы Чорнага прывабнага, як у чалавека і пісьменніка? Мне здаецца — незвычайная сталасць і грунтоўнасць яго твораў, поглядаў, пачуццяў. Мы часам кідаемся ад аднае фарбы да другое, захапляемся часта вонкавымі, эфектнымі праявамі душы чалавека. Потым успышка гасне і мы зноў шукаем: дзе ж асноўнае ?

А Кузьма Чорны быў чалавекам аднаго сталага і глыбокага дыхання», —піша Пімен Панчанка ў прыватным лісце, даведаўшыся пра смерць Чорнага ў снежні 1944 года (с. 476–477).

Высокая праўда і мастацкасць творчай спадчыны Кузьмы Чорнага, якія так кранаюць чытача, па-новаму прачытваюцца і ўспрымаюцца сёння праз прызму яго няпростага жыццёвага лёсу, праз далучэнне да праяваў яго жывой чалавечай душы. І ўсё гэта дзякуючы кнізе, пра якую ішла гаворка.

# «У МУЗЫЦЫ ПАВІННА БЫЦЬ ПЕСНАПЕННЕ...»

Вольга Янум — дырыжор, вакаліст, выкладчыца Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, даследчыца харавога спеву. Рэгент вялікага хору парафіі РПЦ Маці Божай «Усіх, хто ў смутку, Суцяшэнне» ў Мінску. У 2008—2010 гг. — кіраўнік Акадэмічнага хору Белтэлерадыёкампаніі. Стваральніца хору Мінскай духоўнай вучэльні для адраджэння старажытнай царкоўнай спеўнай традыцыі. Стваральніца і кіраўнік камернага хору *Salutaris*, які стаў лаўрэатам шматлікіх міжнародных конкурсаў і фестываляў. Узнагароджаная ордэнам Роўнаапостальнай княгіні Вольгі III ступені і медалём святой Еўфрасінні Полацкай. Жыве і працуе ў Мінску.



*— Я пачну са словаў аднаго з найвялікшых кампазітараў нашага часу і глыбока духоўнага чалавека Арва Пярта: «Мы атрымалі здольнасць да творчасці ў спадчыну ад Бога, які стварыў нас па сваім вобразе і падабенстве. Навукоўцы і людзі мастацтва прымаюць крышынкі з багаццяў Яго Валадарства. Пакіньма Баху і Эль Грэка іх веру, і тады з чыстым сэрцам мы зможам атрымаць асалоду ад іх мастацтва». Ці згодныя Вы з тым, што духоўнасць у мастацтве залежыць ад таго, што ўнутры чалавека-творцы?*

— Так, цалкам згодная, і гэта вельмі адчуваецца. Ёсць вялікая розніца паміж тым, як бярэцца духоўны сюжэт ці тэкст і пішацца твор без разумення і глыбіні, з адным знешнім аздабленнем, прыхарошваннем, і тым, як гэта робіць чалавек, які ведае, пра што ідзе гаворка, разумее змест і глыбіню сюжэта, зрэшты, калі гэта робіць сапраўдны вернік.

*— Дык ці ацэньваць творцаў найперш з пазіцыі іх веры?*

— Мы ніколі не зможам зразумець, якая іх вера, можна толькі адчуць гэта па саміх творах, на эмацыйным узроўні. Наколькі глыбокія былі гэтыя людзі, можна зразумець па тым, што яны стварылі. Кожны твор мастацтва я ацэньваю па адным і тым жа прынцыпе: ён павінен чалавека ачышчаць. Не эпатаваць, не шакаваць, а весці да гармоніі і прыгажосці. Кожны сапраўды духоўны твор павінен уздымаць чалавека над штодзённасцю, і гэта імгненна адчуваецца, калі яно ёсць. Я магу не мець ніякага ўяўлення пра тое, ці аўтар практыкуючы, уцаркоўлены, як кажуць, вернік. Гэта можа быць чалавек вельмі далёкі ад Царквы, аднак пры ўспрыманні яго твора — жывапіснага або музычнага палатна, скульптуры, архітэктуры — узнікае невытлумачальнае адчуванне, разуменне таго, ва ўгоду чаму гэта створана: ці дзеля нейкіх выкрутасаў, як спроба здзівіць, шакаваць, ці ў гэтым ёсць чысціня, цнатлівасць, дасканаласць. Для мяне на першым месцы знаходзіцца гэтае ўздзеянне твора на чалавека. Мне вельмі падабаюцца словы цудоўнага дырыжора Тэадора Курэндзіса, вельмі сугучныя майму разуменню таго, як я сама выбіраю п'есу для харавога рэпертуару. Ён дасканала перадаў гэтую думку так, што лепш не сказаць: «Я ацэньваю твор з той кропкі гледжання, ці ёсць у ім песнапенне».

Такі парадокс — музыка можа не мець ніякага дачынення да царкоўнай. Але ці ёсць у ёй глыбіня, якая набліжаецца да духоўных ідэалаў? Няхай гэта не духоўная музыка ў літаральным сэнсе слова, але ў ёй ёсць чысціня і ўзвышанасць, якая прыўзнімае і цябе. З гэтай пазіцыі і я ацэньваю любую музыку.

На сольным канцэрце *Salutaris* ў Марыінскім тэатры ў Пецярбургу мы прысвяцілі цэлае аддзяленне народнай праграме. У мяне не было жадання на канцэрце забаўляць публіку, шакаваць якой-небудзь бяз-

глуздзіцай, а хацелася здзівіць слухача прыгажосцю беларускай песні. І гэта атрымалася, бо ў беларускай песні ёсць узвышанасць, чысціня, усхваляванасць, сапраўдная духоўнасць, і мы з радасцю выконваем такія спевы.

*— То бок, гаворка пра духоўнасць не ў сэнсе рэлігійнасці, а ў шырэйшым разуменні слова?*

— Так, у сэнсе эталона — таго, да чаго мы імкнемся. Няхай гэта гучыць банальна, але ці робіць гэты твор нас лепшымі? Ці адчуў ты, убачыўшы або пачуўшы гэты твор, нешта такое, што гэтак цябе кранула і ўсё ў табе перавярнула, што ты стаў зусім іншым? Ці ты выйшаў з тэатра або выставы з адчуваннем, што гэта не мастацтва, з пачуццём агіды? На жаль, цяпер гэтага вельмі шмат, але я ўсяляк спрабую ад гэтага адгарадзіцца і прытрымлівацца прыгажосці. Той прыгажосці, якая «па вобразе і падабенстве», так? Усё, што прыгожа — ужо па-боску.

Адчуванне прыгожага вельмі залежыць ад эстэтычнага выхавання чалавека. Калі гаварыць пра музыку, то вялікая роля ў гэтым належыць і выканаўцу, і тут важна аддзяліць духоўную музыку ад богаслужбовага спеву — гэта розныя рэчы. Нельга змешваць канцэртнае выкананне з тым, што адбываецца ў святыні. Нельга сказаць, што нейкі сакрамэнтальны момант набажэнства «суправаджаецца музыкай». Богаслужбовы спеў — неад'емная ўнутраная частка гэтага працэсу, якая мусіць быць духоўна напоўненай і адпаведнай зместу той сакрамэнтальнай таямніцы, што адбываецца ў святыні, але яна не павінна перашкаджаць людзям, якія прыйшлі заглыбіцца ў гэтую таямніцу.

Цяпер жа часам ствараецца такая сітуацыя: у святыню прыходзяць людзі, якія абавязкова хочуць нешта пачуць, напрыклад, у нашай царкве ў




Вялікі пост абавязкова хочуць пачуць «Пакаянне» Вэдэля. А для мяне гэта — антыцаркоўная музыка. Гэта ўсё — творы Вэдэля, Бартнянскага, Беразоўскага — пісалася ў часы, калі разбураліся старажытныя традыцыі Праваслаўнай Царквы, самабытныя распевы сталі знікаць пад ціскам уведзенай у XVIII ст. заходнееўрапейскай культуры. Старабрадцы засталіся адзінымі, хто захаваў спрадвечны знаменны распеў Рускай Праваслаўнай Царквы, і да гэтай пары большасць не мае паняцця пра гэтыя старажытныя традыцыі. На жаль, гэтая тэндэнцыя відавочная не толькі ў Праваслаўнай Царкве — у Каталіцкім Касцёле адбываецца тое самае — старажытная традыцыя грыгарыянскага харалу і песнапенняў унікальнай плеяды кампазітараў, якія стваралі ў Сярэднія вякі, знікае.

Мой сын вельмі любіць музыку Гіёма дэ Машо, ён часам мне кажа: «Мама, ты паслухай, якая музыка, як тады пісалі!», а мы, на жаль, ідзем у бок секулярызацыі, спрашчэння. Яшчэ адзін мой улюбёны дырыжор, Уладзімір Мінін, пра творчасць і творцаў кажа так: «Мы ніколі не павінны спускацца да ўзроўню партэру». Значыць, мы не павінны імкнуцца стаць больш «сучаснымі», больш зразумелымі — маўляў, публіцы гэта занадта складана, таму я буду выконваць нешта прасцейшае, прымітыўнае. Не! Задача высокага мастацтва — стварыць нешта такое, каб публіка цягнулася да гэтага. Задача Царквы і Касцёла тая самая — не паддавацца спакусе, каб было прасцей, лягчэй. Няхай будзе так, што чалавек прыйдзе ў святыню і адразу ўзнясецца на нябёсы ад таго, што тут адбываецца: ад укладу, ад унутранага ўбрання, ад павольных прыгожых рухаў святароў, і няхай тут гучыць ашаламляльная, духоўная, глыбокая, сапраўдная богаслужбовая музыка, якая вельмі арганічна ўплятаецца ва ўсё навакольнае і з'яўляецца яго часткаю, а не дысанансам. Нельга, каб у святыні хор, а ў каталіцкім касцёле яшчэ і аркестр, арганы, станавіўся проста канцэртнай адзінкай. Нельга, каб людзі прыходзілі не на богаслужэнне, а паслухаць канцэрт. У Праваслаўнай Царкве гаворка пра гэтую небяспеку вялася яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя такімі цудоўнымі музыкамі, як Грачанінаў, Кастальскі, Нікольскі. На жаль, з таго часу прайшло сто гадоў, а мы так і стаім на гэтых граблях, і нічога не змяняецца, калі не сказаць, што сітуацыя пагаршаецца.

*— Дык у чым небяспека для «высокай» музыкі — у секулярнасці тых, хто слухае, ці тых, хто піша і выконвае?*

— Возьмем для прыкладу Пратэстанцкія Цэрквы — пяцідзясятнікаў і баптыстаў. Па якім шляху пайшла ў гэтым плане Пратэстанцкая Царква? Па шляху найменшага супраціву! Напэўна, людзям нешта больш

зразумела, лягчэй успрымаецца імі, калі богаслужэнне напоўненае паўэстраднымі песнямі. Сёння з многіх радыёстанцый і каналаў тэлебачання бурным і смуродным патокам гэта ўсё ліецца нам у вушы, і гэтая прымітыўная музычная мова (хоць і цяжка называць яе музычнаю!) вельмі даступная для чалавека і, на жаль, уплывае на нізкія эмоцыі. Слухаючы гэтыя рытмы, чалавеку хочацца больш разняволена рухаць целам, абвастраецца сексуальная пачуццёвасць і гэтак далей. Гэтыя нізкія эмоцыі прыводзяць чалавека да бескантрольнага стану эйфарыі. Калі ж на музыку падобнага кшталту накласці духоўны тэкст тыпу «Божа, прыйдзі, будзь з намі, і ўсё будзе цудоўна і дзівосна», гэта не дадасць спеву глыбіні, закране душу чалавека толькі павярхоўна. Музыка высокага класу і высокай духоўнасці выклікае зусім іншыя эмоцыі і пачуцці — вышэйшыя за матэрыяльнае цела. Гэта не эйфарыя, а катарсіс, душэўнае ачышчэнне. Дакранаючыся да нечага велічнага і сапраўднага, мы сапраўды дакранаемся да боскага, да святыні, бо гэта роднасныя паняцці. І гэта дае музыка высокага духоўнага напаўнення.

*— Але і лёгкая музыка мае права на існаванне. Нельга сказаць, што немагчыма прыйсці да Бога, слухаючы які-небудзь хрысціянскі рок ці соўл...*

— Справа не ў гэтым. На жаль, вельмі часта людзі не чуюць, апроч гэтага, нічога іншага. Прыйсці да Бога можна праз што заўгодна, але чалавек мусіць ісці далей і разумець, што музыка ў святыні — гэта іншая музыка. І ў праваслаўных, і ў католікаў ёсць духоўныя вершы і песні, якія спяваюцца пад гітары і з ударнымі, у гэтым нічога дрэннага няма. Але гэтая музыка не павінна з'яўляцца ці пераважаць у богаслужэнні, там, дзе чыніцца сакрамэнтальнае.



*— Гэтая сакрамэнтальнасць павінна выяўляцца і ў музыцы таксама...*

— Так. Сакрамэнтальнасць патрабуе чысціні і ў гучанні, не толькі ў самім моманце. Ва ўсім павінна панаваць гармонія.

*— На будзённых службах у касцёлах найчасцей гучаць аднагалосныя, як кажуць, спевы для народу, вельмі простыя ў музычным плане, якія людзі спяваюць з вялікаю ахвотаю, бо для іх важна не толькі слухаць, але прымаць удзел у сакрамэнтах.*

— Праваслаўныя таксама практыкуюць народную літургію, напрыклад, у Петра-Паўлаўскім саборы ў Мінску, калі парафіяне спяваюць наогул усё. Але, як правіла, людзі падчас богаслужэння спяваюць вельмі мала, гэта не вітаецца ў Царкве, каб не парушалася дасканаласць. Не ўсе парафіяне здольныя ствараць чысты, прыгожы цуд гуку. У некаторых святынях нават пішуць аб'явы: «Спяваць разам з хорам не благаслаўляецца». У каталіцкім касцёле людзі могуць спяваць пад арганы, якія трымаюць тон, і тут ужо ўсё залежыць ад майстэрства арганіста, які мусіць падабраць для простага спеву адпаведную гарманізацыю. Цікава, што на пачатку мінулага стагоддзя Грачанінаў, адзін з карыфеяў рускай духоўнай музыкі, прапаноўваў увесці арганы ў праваслаўнае богаслужэнне. Мы ж спяваем у псальме «хваліце Яго на струнах і арганах», і гэта не пярэчыць сэнсу богаслужэння. Але новаўвядзенне не прыжылося, бо старажытная традыцыя лічыць, што чалавечы голас — самы дасканалы інструмент, які не патрабуе ніякага дапаўнення.

*— Дарэчы, я ведаю прыклад, калі ўсе людзі ўмелі на Імшы спяваць грыгарыянскую Missa de Angelis. Значыць пры жаданні можна навучыць, падцягнуць да вышэйшага ўзроўню?*

— Безумоўна. Наколькі атмасфера спеву будзе адпавядаць таямніцы богаслужэння — гэта вялікая задача і адказнасць рэгента, справа яго густу і разумення таго, дзе ён знаходзіцца, каму спявае і дзеля чаго наогул гэта ўсё робіцца. На жаль, такіх людзей мала, большасць жадае нечым уразіць, здзівіць, і ў святыні пачынаецца канцэртнае спяванне.

Чаму так неверагодна чыста, па-анёльску заўжды гучыць манаскі хор? Бо там ніхто нікога не жадае ўражваць ні голасам, ні вывучкай. Гук нараджаецца натуральна, з малітвы. Адчуваю-

чы гэтую розніцу, рэгент павінен зразумець, што ў богаслужэнні не месца канцэртнай музыцы.

*— Вы практычна цытуеце Арва Пярта: «З класічнай музыкі рэдкія рэчы ўкараніліся і сталі царкоўнай музыкай. Нават рэквіемы і месы ў вялікай колькасці — гэта не месы. З эмацыйнай кропкі гледжання — яны як анты-месы».*

— Гэта датычыць і праваслаўнай музыкі: існуе вялікая колькасць твораў, якія трэба выконваць, але не ў святыні. Гэта той самы выпадак, калі праз музыку людзі прыходзяць да Бога, што адбылося і са мною. Я захапілася духоўнай музыкай Чайкоўскага, Рахманінава, Грачанінава, Часнакова і шчыра жадала да нечага прыйсці праз гэтую музыку. Слухаючы «Высокую месу» Баха, немагчыма ўявіць, каб яна гучала падчас богаслужэння. Ды яна і не патрэбная там, бо ў яе ўкладзена зашмат фарбаў і эмоцый, якія вернік адчувае апрыёры, нутром, без падказкі. Падчас богаслужэння гэтыя эмоцыі толькі перашкаджаюць, толькі адцягваюць увагу. Падобная музыка павінна гучаць у канцэртах, гучаць так, каб яе эмацыйны пачатак мог натхніць людзей, якія яе слухаюць, пайсці ў святыню, каб даведацца, адкуль узнікла гэтая прыгажосць, чаму гэта напісалі і дзе крыніца гэтага цуду. А ў самой святыні ў гэтым няма сэнсу. Аднак жа, слухаючы музыку Баха, я разумею, што гэта дар Божы — чалавек не мог напісаць такое без веры. Як жа трэба любіць Бога, каб спяваць Яму ўсё жыццё! Міжволі ўзгадваецца таксама фантастычная музыка Брукнера! Многае з гэтага — музыка, якая не павінна гучаць у святыні, але яна глыбока духоўная, яна сапраўды ўзносіць, ачышчае чалавека.

*— Я працягну цытату: «Музыка для набажэнстваў — зусім іншы свет, там кампазітар павінен стаяць нібы збоку, не ўваходзячы ў гэтую атмасферу са сваімі жарсцямі. Гэта музыка не павінна мець жарсцяў».*

— Я згодная! Мне таксама вельмі падабаюцца яго надзвычай дакладныя словы пра тое, што духоўная музыка — гэта цішыня. Дастаткова твораў, дзе знешняя атракцыйнасць, выяўленчасць пачынаюць пераважаць. Гэта не малітоўны стан, дзе непатрэбных эмоцый няма, дзе слова натуральна вынікае з малітвы, дзе музыка — працяг гэтага слова. Чалавек моліцца і пачынае гэтак жа спяваць: нягучна, не спяшаючыся. У музыцы самога Пярта, дарэчы, вельмі шмат такіх застылых момантаў, паўзаў, якія прымушаюць слухача спыніцца. Ты прыходзіш у святыню, і ў гэты момант час нібы застывае, ты абстрагуешся ад знешняга свету — такая самая няспешнасць павінна быць і ў богаслужбовых спевах.

*— Калі мы загаварылі пра слова, то яно павінна быць першым?*

— Так, абавязкова. Што тычыцца канцэртнай духоўнай музыкі, там аўтар укладае ў твор уласныя эмоцыі, тое, як ён адчувае і перажывае пэўную духоўную падзею або тэкст. А што тычыцца богаслужбовага спявання, людзі, прыходзячы ў святыню, зазвычай ведаюць, чаму прысвечаны той ці іншы момант літургіі, што адбываецца ў кожную хвіліну — музычная эмацыйнасць будзе залішняю, бо кожны ўспрымае гэта па-свойму.

*— Музыка не павінна быць навязліваю.*

— Так! Яна не павінна навязвацца — нельга, каб усе забыліся пра слова і захапляліся галасамі. Гэта бывае цяжка пераадолець, бо калі ў хоры спяваюць добрыя музы́кі, кожны хоча паказаць прыгажосць і моц свайго голасу, а дырыжор хоча прадэманстраваць, што яго хор можа спяваць самую складаную музыку. Напэўна, на пачатку шляху праз гэта праходзяць усе. Але кожны музы́ка, які служыць у святыні, павінен задаваць сабе пытанні: «Дзеля чаго я тут, у гэтым месцы? Што адбываецца вакол мяне? Што я раблю, і як гэта павінна быць?» Калі я выконваю музыку ў канцэртах, тады, натуральна, усё наадварот. Мая задача здзівіць, захапіць, каб у чалавеку, далёкім ад духоўнага, ад святыні, прачнулася нешта дагэтуль нязнанае, што прымусіць яго пажадаць даведацца, чаму такая прыгажосць была напісаная, што такое сапраўднае, дзе яго крыніца.

*— З хорам Вы выконваеце і ўсходнюю, і заходнюю духоўную музыку. У чым для Вас розніца паміж імі?*

— Гэта найперш звязана з розніцаю ўсходняга і заходняга менталітэту. Усходні — закрыты, інтравертны, а заходні — адкрыты, экстравертны. Я вельмі люблю заходнееўрапейскую музыку Барока, Рэнесансу, Сярэднявечча — яна вельмі кантрасная, разнастайная рытмічна. У рускай музыцы гэтага няма, бо на той момант, калі ў Заходняй Еўропе музыка дасягнула неймаверных вяршыняў, там спявалася аднагалоссе. Да XVII ст. у Праваслаўнай Царкве панаваў аднагалосны спеў, манодыя. А ў пазнейшы час увесь патэнцыял вакальнай музыкі выкарысталі Грачанінаў, Рахманінаў, напісаўшы ў сваіх творах такую вертыкаль для хору, што ў іх практычна гучыць сапраўдны аркестр. У гэтай музыцы такая цеплыня і глыбіня! І былі хоры, здольныя гэтую музыку выканаць, напрыклад, Сінадальны хор у Маскве. Усходняя і заходняя музыка — вельмі розныя, але і адна, і другая можа ўзнесці на сапраўдную вышыню.

*— Мы шмат казалі пра важнасць захавання традыцый, вяртання да крыніцы традыцыйнай музыкі. На Вашую думку, што сучаснага можна ствараць у гэтым кірунку, дзе мяжа дапушчальнасці ва ўводзінах новага?*

— У сваёй дысертацыі я прысвяціла раздзел прыдатнасці пэўных песнапенняў для богаслужэння і падкрэсліла наяўнасць у творы інтанацыі старажытнага распеву. Калі яго гарманізацыя адпавядае традыцыі, калі ў ім адчуваецца прыналежнасць да духу старажытнай музыкі, гэты твор прыдатны для выканання ў святыні. Менавіта дух, настрой старажытнай традыцыйнай музыкі — крытэрый якасці сучасных духоўных твораў.

*— А што важней, на Вашую думку: дасканалае выкананне па нотах ці выкананне, як кажуць, «з душою», але не вельмі дасканалая тэхніка?*

— Прафесійная музыка павінна выконвацца прафесіяналамі, а задача дырыжора — так данесці да слухача гэтае выкананне, каб яно стала духоўным. Гэта вяршыня дырыжорскага майстэрства, але мала хто гэта робіць, на жаль. Дырыжорская інтэрпрэтацыя твора павінна мець на слухача, нават самага павярхоўнага, такое ўздзеянне, каб той пераўвасобіўся, каб ён пачуў тое, што ты ўкладаеш у твор. Ёсць прыклад цудоўнага дырыжора Барыса Абальяна, які некалькі гадоў таму быў запрошаны працаваць у Паўднёвую Карэю, у хор *Gracias*. Гэты хор, не ведаючы мовы, не з'яўляючыся царкоўным хорам, выконвае духоўную музыку Рахманінава так, як не кожны рускі хор можа выканаць яе. Прафесіяналізм — вялікая справа, а для душы не трэба абавязкова спяваць нешта звышскладанае, каб не сапсаваць твор. Я шмат разоў бачыла, як не вельмі добрыя хоры бяруцца за складаныя для выканання п'есы, каб даказаць сабе: «Мы можам!», або спрабуюць спяваць грандыёзныя шматгалосныя канцэрты маленькім складам — гэта гучыць кепска. Трэба аб'ектыўна ставіцца да сваіх магчымасцяў — нават хор з трох чалавек можа знайсці такі рэпертуар, што слухачы будуць бясконца захапляцца і дзякаваць за кранальнае выкананне.

*— З чаго для Вас пачынаецца праца над творам?*

— Па-першае, нешта ў п'есе павінна мяне закрануць, там павінна быць імкненне да высокага, да цнатлівасці, чысціні, нейкай неапісальнай прыгажосці — павінна быць песнапенне. Нават у свецкім спеве павінна быць глыбіня, тое, што імгненна цябе ўзносіць. Такія творы я бяру ў рэпертуар. Нейкі час займае развучванне нотаў, а пасля я пачынаю напаўняць твор зместам, прапаную хору разнастайныя варыянты выканання, каб увайсці ў трапяткі стан, у стан малітвы, і перадаць гэты стан слухачу. Класіфікаваць малітву, хоць гэта грубавата гучыць, таксама магчыма: яна можа быць ціхая, стрыманая, натхнёная, адчайная, узвышаная, чыстая, удзячная — эпітэты, каб натхніць хор, можна знаходзіць бясконца. Калі я прыношу твор для выканання, мне важна, каб хор імгненна ў гэты твор закахаўся, як закахалася я сама. Тады можа атрымацца цуд.

*— А чаго Вы патрабуеце ад выканаўцаў? Ад чаго трэба адштурхоўвацца спевакам?*

— У першую чаргу патрабую гуку. Я вельмі шмат працую над гукам. Можна колькі заўгодна рабіць *crescendo* або *diminuendo*, розныя музычныя акцэнты, але мяне ніколі не ўразіць хор, які спявае брыдкім непрафесійным гукам. Найперш у хоры павінна быць правільнасць, адзінства гуку, тады натуральным становіцца і слова. А пасля трэба накласці на гук вобраз. Я падаю вобраз хору, і кожны спявак інтэрпрэтуе і падае яго па-свойму, і ў адзінстве гэтага мноства адчування атрымліваецца нешта вельмі цікавае — у залу, да слухача, ідуць патрэбныя эмоцыі.

*— Што для Вас з'яўляецца вяршыняю духоўнай музыкі ў літаральным сэнсе?*

— У розны час я захаплялася рознай музыкай, гэта залежыць і ад унутранага стану, уласных перажыванняў. Гэта і «Страстная седмица» Грачанінава, і «Всенощное бдение» Рахманінава, музыка Часнакова, Шнітке, Свірыдава, «Пакуты паводле Мацвея» і «Пакуты паводле Яна» Баха, «*Membra Jesu nostri*» Букстэхудэ, музыка Моцарта і Бетховена, музыка эпохі Адраджэння: Талліса, Палестрыны, Монтэвэрдзі, Пёрсэла. Пералічыць усіх, хіба, немагчыма. Як ні дзіўна, усе вялікія кампазітары жадалі пакінуць нешта ў жанры духоўнай музыкі. І дзякуй Богу, што так здарылася!

*— Вы апярэдзілі маё пытанне: атрымліваецца, што кожны вялікі кампазітар у пэўны момант да гэтага прыходзіць?*

— Так, прыходзіць да Бога ў пэўны момант. Абавязкова! Не выпадкова ўсе яны хочуць дакрануцца да гэтай сферы духоўнага, стварыць нешта падобнае.

*— Дзякуй за размову!*

*Размаўляла Юлія Шэдзько.*



Францішак Кінановіч.





Ганна Мацінская ў маладосці.

# Са шляхотнага роду Канановічаў

Францішак Кановіч (1881 — 1954) — бацька польскага паэта, празаіка і перакладчыка Мацея Юзафа Канановіча, які сябраваў з Янкам Брылём, Уладзімірам Калеснікам, Максімам Танкам, перакладаў беларускую паэзію і прозу.

Бацька Францішка Канановіча Юзаф (1839 — 1899) паходзіў з вёскі Дубраўка, быў чатыры разы жанаты, ад трох жонак меў 13 дзяцей. Другая жонка Юзафа, маці Францішка, Антаніна з Левашкевічаў (1844 — 1889) нарадзіла шэсць хлопцаў і дзвюх дзяўчат. Усе браты і сёстры жылі ў роднасці. Сын ад першай маці Юзэфы Валяр'ян выехаў у Амерыку і забраў да сябе сына Антаніны Браніслава — яны прысылалі братам і сёстрам грошы, дапамагалі пабудавацца, дакупіць зямлі. Канановічы жылі ў вёсцы сярод сялянаў, самі працавалі на зямлі, але былі роду шляхотнага, гербу «Радван». Усе Канановічы не маглі застацца на гаспадарцы, а таму ехалі ў свет і там будавалі сваё жыццё, стваралі сем'і, але наведвалі родных, сумавалі па Дубраўцы.

Францішак скончыў школу і працаваў памочнікам пісара ў валасных управах. У 1901 г. ён выехаў за старэйшым братам Каралем у Лодзь. Самаадукацыяй вывучаў польскую мову, атрымаў прафесію і працаваў у падатковай інспекцыі. Ажаніўся з дзяўчынай з высокага роду — Ганнай Мацінскай (1884—1975). Мелі яны траіх дзяцей — Ірэну, якая была медыкам, паэта і перакладчыка Мацея Юзафа, мастака Марка, які графічна ўклаў у выглядзе кола родавае дрэва Канановічаў. Усе Канановічы збіралі звесткі пра свой род.

Брат Францішка Адам выехаў у Екацерынаслаўль, куды ў 1914 — 1918 гг. у бежанства заехала сям'я Францішка. Адам быў рымар і шавец, навучыў гэтаму рамяству Волеся, бацьку маёй сяброўкі Ані Чыгір. У 1930 — 1934 гг. Францішка Канановіча «выслалі» працаваць з Лодзі ў Навагрудак. Калі адтуль адправілі на пенсію, Францішак з Ганнай нейкі час жылі ў сям'і сястры Тафілі і Антона Гузеля ў Галубах. Успаміны пра самабытную сялянскую культуру вёскі, духоўнае аблічча сваякоў асабліва вартыя таго, каб беларускі чытач пазнаёміўся з гэтым сведчаннем сыноўняй любові да роднай зямлі, хоць і цяжка выбраць кароткі ўрывак з гэтых тэкстаў жыцця.

Францішак Кановіч апавядаў, а дачка Ірэна запісвала ўспаміны бацькі, а ў камп'ютар усё перанесла ўнучка Гражына, дачка пісьменніка Мацея Юзафа і мая сяброўка.

Францішак, Ганна, іх дачка Ірэна (замуж не выходзіла), пахаваны ў Варшаве. Мацей Юзаф і яго жонка Крыстына, іх сын Мацей Рымвід спачываюць у Лодзі. Сын Янак памёр і пахаваны ў Парыжы, там жывуць яго дзеці. Марак, Зося іх сын Пётр жылі ў Варшаве, пахаваныя ў Паб'яніцах.

*Данута Бічэль*

**Данута Бічэль** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1984). Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басаны» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), «Іду сцяжынаю да Бога» (2012), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008), «Мост святога Францішка» (2010), «Правінцыя святога Францішка» (2013), «Выбранае» (2016). Жыве ў Гродне.

Францішак Кананoвіч

# Дзе Луконіца ўпадае ў Шчару

## Урывак з успамінаў

Дзе Луконіца ўпадае ў Шчару, на пясчаным пагорку паміж Шчараю і шырокім паскам лугоў і балот, стаіць вёска Дубраўка. У 1864 годзе ў вёсцы было 10 поўных сялянскіх гаспадарак на прасторы каля 30-ці гектараў поля, лугоў і папараў... Гэта Радзіма.

У 1926-м паехалі мы ўсе на Беларусь. Успамінаю такі выпадак. Волесь, я і хлопцы вярталіся з Багданаўшчыны — даехалі да Шчары, Волесь крыкнуў:

— Гоп! — а з другога берагу адказаў Антось: — Тут я, маю лодку!

Ноч была ясная, ціхая, спакойная, месячная. Выпраглі каня і далі мне ў рукі павадок, уцягнулі воз і вупраж на лодку і перавезлі на другі бераг. Пасля пераправілі каня. Пакуль Антось запрагаў, Волесь пераправіў нас. Пакуль ехалі дамоў, Волесь з Антосем размаўлялі пра гаспадарскія справы, хлопцы маўчалі. А я падумаў: у такім глухім закутку, пры святле месяца, здарылася падзея — такая простая, такая родная і прыгожая! Прыдумаць нешта падобнае немагчыма.

Праз некалькі дзён Волесь ехаў у Букштава дапамагчы сіротам Маліноўскім, дзецям сястры Мальвіны, і мяне з хлопцамі ўзяў з сабою. Калі мы пад'язджалі да разбуранага маёнтка Катчына, насустрач ехаў адміністратар маёнтка Лобзава. Саскочыў з брычкі, прывітаўся і пачаў угаворваць Волеся, каб на зваротнай дарозе абавязкова заехаў у Лобзава да князя Гедройца паразмаўляць пра куплю гэтага маёнтка:

— Князь вельмі хацеў бы, каб Вы купілі Катчына!

Мы паглядзелі на мураваныя забудовы Катчына, на вялікі двор.

Вярталіся ад Маліноўскіх а дзясятай гадзіне ўвечары, у палацы князя ўсе вокны свяціліся. Волесь спыніў каня, падумаў і кажа:

— Запозна. Зрэшты, і так не магу купіць гэты маёнтак.

Паехалі далей. Я кажу:

— Прадай Дубраўку і купі Катчына.

Прытрымаў каня і кажа:

— Дубраўку прадаць не магу. Дубраўка ані мая, ані твая, ані Антосева. Дубраўка належыць нашчадкам. Дубраўка — гэта радзіма, а радзіма не прадаецца. Скажаш, што ты ў Дубраўку не вернешся, бо згубіў на яе правы? Але ў нас свая праўда, яна больш справядлівая, чым законы. Як трэба будзе табе або тваім дзецям вярнуцца ў Дубраўку, з адкрытым сэрцам тут вас прымуць на зямлю і на працу.

Неяк Юзік і Марак пакланіліся, зняўшы шапкі, старэйшаму селяніну, з якім яны былі незнаёмыя. Гэта быў Грыбась Каўбаска. Ён спытаў:

— Ці вы Франкавы хлопцы?

Даведаўшыся, што Франкавы, зайшоў да Волеся і са слязой на вачах гаварыў аб павазе да старога незнаёмага чалавека...

...У канцы лістапада 1935 года Упраўленне падатковай інспекцыі ў Навагрудку праз лекарскую камісію па стане здароўя адпусціла мяне на пенсію. Падатковая інспекцыя ў Варшаве выдзеліла мне за 36 гадоў службы, ад снежня таго ж года, паводле шостага разраду, 450 злотых у месяц. Праца ў Навагрудку была нам цікаваю: мая сям'я пазнаёмілася бліжэй з тою зямлёю, адкуль мой род. Але жылі мы ўвесь час паасобку, шмат было выдаткаў. Калегі па працы, развітваючыся, падаравалі мне срэбны партсігар. 23 снежня 1935 года, сабраўшы сціплыя манаткі, я з жонкаю і сынам Юзікам выправіўся ў Галубы. На станцыі Ражанка сустрэў нас Францішак Гузель на кані, пазычаным у рыбака з правага берагу Нёмана, каб не перапраўляць свайго каня праз ваду, бо Нёман у той час якраз замярзаў.

Мы спазніліся — паўгадзіны перад гэтым Нёман стаў... Рыбак раіў перачакаць у яго дзень-другі, альбо ехаць аж праз Орлю, дзе, магчыма, ходзіць паром. На другім беразе Нёмана Антон Гузель пры вогнішчы нас аклікнуў. Рыбак з сынам прарубалі лёд зігзагамі і, падганяючы, каб хутка садзіліся ў лодку,— лёд тут жа зноў замярзаў — перавезлі нас на другі бераг, чаго нават самі ад сябе не чакалі. За гэтую пераправу зарабілі 5 злотых, дамаўляліся на 3. Пераправа была небяспечнаю — у прарубаныя засекі лёд мог насунуцца і паламаць лодку... Лёд угінаўся, калі мы ішлі да лодкі. Пад Юзікам лёд праламаўся, ён замачыў па калена нагу.

Праз гадзіну мы былі на месцы, дзе нас чакала смачная вячэра з рыбы. Гузелі вызвалілі нам адзін пакой, які называўся «супраціўны». Меў два акны — адно супраць другога, з аднога відаць былі агарод, вуллі і поле. З другога акна відаць надворак з хлявамі і студняю, дарогу,



На возе — Ірэна Канановіч (першая). 1932 г.

высахлае рукаво возера і вёску. Шмат месца займала печ з прымуркам і плітою, такою, як ва ўсіх тутэйшых хатах. Стаялі два ложкі: вялікі, драўляны, і меншы, жалезны; стол, два крэслы і табурэтка, шафка на посуд. Дроў хапала.

У пакоі гаспадароў было шэсць вокнаў, пакоі аддзяляліся сенцамі. Дом стары, але зусім добры, а ганак надаваў яму самавітасці. Вёска Галубы — Наваградскага павета, у канцы, з боку лесу, працавалі скіпідарня і смалярня, якімі кіраваў Лейбавіч, ён жыў наводшыбе. Па закупы ездзілі або хадзілі ў мястэчка Орлю па прыгожай дарозе паміж возерам і сасновым борам. Хлеб, бульбу і ўсе малочныя прадукты нам давалі Гузелі. 28 снежня, адразу пасля свята, нарадзіліся ў іх блізняткі. Слабейшага, безнадзейнага, паводле дыягназу павітухі, узяла пад апеку мая жонка. Назвалі яго Янак. Дзіця хутка паправілася і да нас прывыкла за два гады нашага там жыцця. Маці гадавала Адольфіка і Болесіка, якія з Янкам толькі сустракаліся.

Выдалася нагода, і я купіў лодку і сетку (трыгубіцу, 40 метраў) лавіць рыбу. У прыгожыя вечары нацягваў сетку ў возеры і пакідаў, а ранкам даставаў колькі рыбак, даволі вялікіх плотак з чырвонымі вачыма. Рыбы хапала — альбо злоўленай, альбо купленай... Вясной наш гаспадар недалёка ад дома ўзяў дзялянку на вырубку лесу з умовай, што сукі і верхавінкі забірае дадому. Дробнае галлё і кару складалі ў кучы і палілі. Такімі падпальшчыкамі былі мы з жонкаю. У нашы абавязкі ўваходзіла пільнаваць лес ад пажару. Дзялянак для чысткі ад голля было шмат. Вяскоўцы іх сквапна расхапалі. Вёска была ўся ў дыме, зрэшты, прыемна пахла жывіцаю. Гузель назбіраў і прывёз на надворак 90 фураў дроў са сваёй дзялянкі. Лясы належалі князю Чацвярцінскаму. У Зачэпічах, па дарозе ў Орлю, працавалі лесапільні. Адміністратарам па гандлі лесам быў габрэй. Будаўнічае дрэва прадавалася на замежных рынках. Па нейкай прычыне габрэя звольнілі з працы, і дрэва перасталі купляць. Князь думаў, што сам справіцца з замежным гандлем. Не атрымалася, вярнуў таго габрэя — і гандаль зноў пайшоў добра. У Зачэпічах князь пабудаваў касцёлік — сабе і лясным работнікам. Аднойчы ў нядзелю мы ўбачылі сям'ю князя ў касцёле. Адміністратары адсунулі людзей ад алтара, паставілі крэслы для яснавяльможнага панства. Дзве дачушкі спачатку селі ў сярэдніх лаўках, непадалёк ад мяне. У сціплых сукеначках, босыя. Я падумаў, што гэта пакаёўкі, але адміністратар падышоў і папрасіў князёўнаў на ганаровыя месцы. Князь быў сярэдняга росту, крыху паўнаваты, са звіслымі белымі вусамі.

У канікулы і ў святы да нас прыязджалі дзеці. Адны канікулы ў нас правялі Воленька Гжэлінская, лясны акадэмік Мірак Равінскі і Зося Мацінская. Мы з Воленькаю хадзілі ў лес па грыбы, ды грыбоў яшчэ не было. Мірак аб'ядаўся піражкамі з ягадамі са смятанай, якія пякла Ірка, вучыўся рубаць дровы. Зося з гаспадароваю дачкою Броняю хадзіла ў лес і на луг. Перад гэтым Францішак Гузель павёў гурток да неруша па маліны. Каля гадзіны ішлі праз пярсцёнак балота. У балоце давялося скідаць порткі. У адным месцы Францішак пераносіў мяне на плячах, але заграз і не мог утрымаць такі цяжар. Прыйшлося мне злезці з плячэй, каб выцягнуць яго. У лясным нерушы маліна яшчэ не наспела. Францішак прасіў, каб не сварыліся, не губляліся. Казаў, што тут водзяцца дзікі, ваўкі, совы і арлы, але ўсяго гэтага, на наша шчасце, мы не спаткалі. Дзікія звяры на волі не любяць, каб імі любаваліся, гэта можна толькі ў заапарку. Затое мы ўбачылі стагадовыя дрэвы і вываратні, якія загароджвалі нам шлях. Францішак казаў, што адпраўляцца ўглыб не варта і небяспечна, можна заблудзіць. А матачнік займае вялікі абшар на некалькі дзясяткаў кіламетраў удоўж і ўшыр. Уваход у пушчу, дзе мы прабіраліся, ведаюць не ўсе з навакольных вёсак. Як канчаецца неруш з другога боку, ніхто не можа сказаць, бо ніхто

там не быў.

— Можаце ўявіць, як прадзіраецеся праз кусты малінаў і ажынаў, праз густую асаку і зараслі, праз высокі папаратнік? А што пад нагамі — невядома. Можаш напароцца на дзіка альбо на воўка. А зверху сочыць за вамі рысь, падобная да ката, а сама, як шалёны сабака. Скочыць на высачаную здабычу — і вып'е кроў. Чалавек з Другіх Галубоў з леснікам пайшлі на дзікоў, улезлі ў гэтыя нетры — і не вярнуліся. Прыехала паліцыя, хацелі іх шукаць, але сталі на ўскрайку пушчы і не ведалі, куды падацца. Паліцыянт з карабінам перапез праз спрадвечны вываранець і ўбачыў перад сабою, чаго ніколі не бачыў: вялізныя вылупленыя вочы і разяўлены рот, гатовы праглынуць. Паліцыянт са страху выпусціў ружжо, зваліўся ўніз і пакалечыўся. Паліцыянты нікога не знайшлі, вярнуліся з пакалечаным у Орлю...

Франак памаўчаў і так страшыць далей:

— У мінулым годзе прыехала экскурсія гімназістаў. Кіраўнік, мусіць, вучыўся плаваць у басейне ці ў ванне, захацеў пераплысці «*дурны такі Нёман*», паказаць усім, які ён смелы плывец. Даплыў да сярэдзіны, дзе быў моцны вір, і ўтапіўся. Мой дзед не ўмеў плаваць, бацька і я жывём пры вадзе, а плаваць не ўмеем. Не хочам рызыкаваць. Можаце ісці далей у гушчар, а я вас тут пачакаю...

Усе, аднак, вырашылі перад змяркканнем вярнуцца дадому.

Ранкам другога лютага 1936 года выбраліся мы — Гузель з жонкаю Тафіляю і я з жонкаю Ганнаю — на санках у Дубраўку. Ехалі праз лес, толькі тры-чатыры кіламетры лёдам па Шчары. Шэрань ляжала на лапках соснаў. Ціша, спакой, ні душы. Прыехалі хутка, бо санная дарога была раз'езджаная. Дзень праляцеў за гасцінным сталом у братоў. Пагаварылі. Фелікс расказваў пра паляванне. Пабылі на набажэнстве ў касцёліку ў Скрундзях. На другі дзень, паабедаўшы, атрымаўшы ад гаспадыні-імянінніцы гасцінцаў, вярталіся ў Галубы. Неба пацямнела, пачаў падаць снег. Волесь радзіў пераначаваць, а калі ўсё ж ехаць, то пераправіцца праз Шчару на правы бераг, дзе болей прасторы. Пераправіліся праз Шчару ўжо ў цемры, пайшоў густы снег. Настала ноч, пачалася завея, гаспадар, згубіўшы напрамак, пусціў каня на волю, спадзеючыся на яго інстынкт. Аднак конь перапез праз заснежаны плот і сані задам зачапіліся за слуп. Трэба было ўставаць і паднімаць сані. Уехалі ў вёску, якую Гузель ведаў. У канцы вёскі каня завярнулі ўправа, сані паехалі проста, вывернулі пасажыраў і накрылі сабою зверху. Конь стаяў і глядзеў на гэта ўсё з пагардаю. Калі выграбліся з-пад санак, са здзіўленнем заўважылі, што гусь, смятана і ўсе мы — цэлыя і сухія.



Антон Гузель у сваім двары. Галубы, 1937 г.

Наперадзе — 7 міляў Ліпічанскай пушчы аж да самых Галубоў. Праехалі каля чатырох, пачулі плач дзіцяці. Конь спыніўся на хвіліну. Гузель пераджагнаўся і сказаў: «Страшыць». Але зноў, далей ад дарогі, пачулі жаласны крык: «Ратунку... ратунку!» Конь занепакоіўся, адпушчаны, пабег хутчэй, і тут перад намі раздаўся спалоханы рогат: «Га-га-га!» — і яшчэ раз: «Га-га-га!» Конь стаў. Гузель павярнуўся да нас і прашаптаў: «Водзіць! Не трэба адказваць!» — пагладзіў спацелага каня. Калі смех у цемры заціх, конь марудна пайшоў наперад, але праз нейкі час пусціўся ў галоп, спыніўся на сваім падворку. Увайшлі ў хату. Гаспадар прысеў на лаве, сказаў Франку, каб выпрагаў каня. Пры вячэры прызнаўся, што ў гэтым лесе часта нехта страшыць...

Я ж падумаў, што ездзіць у дзень Маткі Боскай Грамнічнай не трэба: альбо ваўкі нападуць, альбо нешта іншае прычэпіцца.

У ліпені 1936 года я з Іркаю паплыў на байдарцы з Галубоў да Дубраўкі — каля 30 кіламетраў. Надвор'е было — проста мара. Ехалі мы супраць цячэння, спыняліся на беразе, каб адпачыць, перакусвалі хлебам з маслам і агуркамі. Калі Нёман чысты і празрысты, то Шчара — яшчэ чысцейшая, яе лічылі каралеваю заплываў на байдарках. Паказваў Ірцы па левым беразе лес у Падрэччы, дзе я малым пасвіў статак. Па правым беразе ракі была пушча, два валокі якой бацька хацеў набыць у Гярбовіча. Даведаўшыся, што Падрэччы па сервітуту належаць скрундзёўскім сялянам, але Гярбовіч


Ірэна, Ганна, Францішак, Юзік і Марак Канановічы. 29 чэрвеня 1925, Лодзь.

пра гэта не сказаў, бацька праз суд адмовіўся ад куплі. Пасля тую зямлю купіў Сачык.

Ад казённага лесу па левым баку цягнуцца дубровенскія пашы. Даехалі да мэты, купілі ў рыбака дзве вязанкі рыбы, прасіў 60 грошаў, Ірка дала яму залатоўку. Навязаўшы байдарку ў вусці Луконіцы, праз 15 хвілін мы былі ў маіх братоў. На другі дзень прыехала кампанія пакупацца на Шчары, змочаныя праліўным дажджом, прыбеглі ў школу і ў нашу хату. Сярод іх былі падляснічы з дзвюма дочкамі, Кунца з жонкаю і шваграм, яшчэ некалькі чалавек. Пераапрануўшы іх у сухое, што знайшлося ў хаце, зладзілі танцы, і мы з Іркаю далучыліся. Казік Панасік ім падыгрываў, як умеў. Скончылася забава назаўтра ранкам. Госці любаваліся паводзінамі Іркі, студэнткі ў вясковым строі. Вярнуліся мы з Казікам Панасікам праз некалькі дзён. Плылі з хуткасцю адзін кіламетр за сем хвілінаў.

У гэты час наш Юзік знаёміў 22-гадовага рыбака Юліка Гядровіча з вялікім местам Варшаваю, а варшавянаў з высокаю культураю вясковага хлопца. Юліка здзіўляла вандроўка ў цягніку, вялікія прасторы паміж Дубраўкаю і Беластокам, і пасля ажно да Варшавы. Не ўяўляў сабе такой вялікай прасторы. У Варшаве Юзік катаў Юліка на трамваі, на самаходах і ліфтах. Найбольш яму спадабаўся трамвай. У інтэрнаце студэнты прынялі Юліка за абітурыента. Паказвалі яму залы і аўдыторыі. Юзік вазіў яго на аэрадром, а ў Адрыі, рэстаране першага класа, селі за свабодны столік насупраць палкоўніка, які падазрона паглядаў на Юліка. Юліка здзіўляла ўсё: электрычнасць, вада ў кране... Праз некалькі дзён ён вяртаўся цягніком да Ражанкі і да Жалудка.

Падарожныя баюць, што ў Швецыі, ці ў Швейцарыі, зусім няма замкоў. У нас было гэтаксама ў вёсках, аддаленых ад вялікіх гарадоў. Там свая культура і цывілізацыя, не горшая за культуру прамысловых цэнтраў. Гарадская культура, якую навязваюць вёскам, толькі марнуе і знішчае добрыя звычаі.

Аднойчы, калі мы снедалі, увайшоў у хату вясковец, але глянуў на маю жонку і не хацеў пры ёй гаварыць. Убачыўшы яго разгубленасць, я сказаў, што гэта мая жонка і пры ёй можна смела казаць тое, што ён хоча сказаць мне. Чалавек пачэмхаў патыліцу і заўважыў: «Франак, я прыйшоў да цябе, бо ты наш чалавек. Скажы мне — падаткі трэба плаціць ці не трэба? У Шчучыне сенатар казаў, што плаціць падаткі трэба, праз два тыдні пасол крычаў, што не трэба».

Жонка параўнала дзяржаву з кароваю. Як карову накорміш, то яна дае малака. А падаткі дзяржаве патрэбныя на такія рэчы, як чыгунка, фабрыкі, войска, дарогі і іншае. Пераканалі мы яго, і ўся вёска заплаціла падаткі. Вясковыя прадаюць свае прадукты па нізкіх цэнах. Ім шмат не трэба — на махорку, на соль, на керасін, — таму мала бяруць за рыбу і перапраўу.

Гаспадар выбраўся з сеткаю на возера лавіць рыбу і мяне запрасіў. Злавіў некалькі плотак, а пад канец сярод возера ў сітнягу закінуў сетку і злавіў шчупака на паўтара кілаграма. Плоткі паўкідаў у возера: «На сёння нам хопіць шчупака, а гэтыя няхай паплаваюць».

Калі пачыналіся грыбы, я іх збіраў — крыху зранку, крыху падвечар. Прыносіў дахаты па 9—11 баравікоў на тоўстых ножках. Жонка іх чысціла і сушыла на дошцы ў печы. Аднойчы заблудзіў. Дахаты вярнуўся ў 11 вечара. Пайшлі неяк з Юзікам на месца, якое добра ведаў. Знайшлі 9 баравікоў. Сумныя, вярталіся дадому. Каля дарогі Юзік падняў грыб і пытае: «Ці гэта шчыры?» Пачалі шукаць і на паляне, як на звычайным надворку, знайшлі 84 баравікі. Юзік зняў марынарку і запакаваў у яе збор. Прыйшлі дадому, пакінулі дабычу і вярнуліся яшчэ раз на тое месца, знайшлі яшчэ 27 штук. І пасля, вяртаючыся дадому з лесу, знаходзілі там па 10—12 баравікоў. Грыбы ўмеюць рабіць неспадзяванкі: альбо знойдзеш шмат, альбо нічога.

Сонечным восеньскім днём збіралі мы з Іркаю арэхі — вялікія, малыя, прадаўгаватыя,

круглыя і пляскатыя — на выбар! Арэхі збіраць гэтак жа прыемна, як баравікі!

Часта думаю пра сваё дзяцінства і маладосць, успамінаю Дубраўку.

У нядзелю Дубраўка пахла блінамі. Жанчыны мелі час і цярплівасць на такое маруднае выпяканне гэтых бліноў.

Маліліся проста — гаварылі пацеры, зрэдку бацька чытаў Святое Пісанне, сабраўшы ўсіх. Здаралася — прыходзіў Гародка, яго называлі «Дзядзькоха», і прыносіў глушца альбо цецеруку. Глушца бацька аддаваў у школу ў Слонім. Цецерука запякалі. У святы елі вэнджаныя кумпякі, свойскія кілбасы, мёд і сыр.

<...>

Найбліжэйшы лекар Навіцкі, які лічыўся добрым, знаходзіўся ў Дзярэчыне. Усе хварэлі на воспу, нават тыя, хто быў прывіты, але тыя — лягчэй.

У вёсцы былі тры каталіцкія сям'і — Канановічы, Скібы, Гародкі. Іх хаты выглядалі лепш: мелі коміны, там мылі падлогу, сцены і печы бялілі некалькі разоў на год. Кухні былі ў самой хаце, толькі ў Канановічаў кухня была асобна. Печ з цэглы зрабіў бацька — вялікую, у яе ўлазіла 1/2 фуры дрэва, а пастаўлена была так, што абагравала абедзве палавіны хаты. На кухні была печ, каб выпякаць хлеб. Пліты з фаеркамі ў нас не было. Скібінскі і Гародка мелі печкі з кафлі.

Праваслаўныя сем'і ў Дубраўцы — Жакі, Каўбаскі, Езабы, Панасікі — мелі курныя хаты з гліняным токам. У Мазаля, Сукача, Вачгура, Сара, Гадзея, Палусі хаты былі курныя, але з падлогаю. Яны то былі праваслаўныя, але палова іх жанчын гаварыла пацеры па-польску, гэта след нейкага каталіцкага мінулага. Этнограф Міхал Федароўскі лічыў, што ў мінулым гэты абшар засялялі яцвягі, рэшткі якіх ацалелі, схаваўшыся ў балотах, бо на іх нападалі і кіяўляне, і палякі, і літва, і татары... У вялікай вёсцы Вострава каля ста дамоў цягнуліся ў адзін рад паўколам каля пяці кіламетраў, там была царква і жыў бацюшка.

У Галынцы быў ураднік. У Дубраўцы над ракою Луконіцаю каля моста стаяла карчма. Габрэй прадаваў трохі гарэлкі, табаку. Заробак у яго быў марны, бо людзі былі бедныя. Маладых хлопцаў забіралі ў войска. Здаецца, дваіх забралі праз гміну на 25 гадоў. Астатніх — на чатыры. З нашай сям'і служыў Фелікс, калі скончыў службу, вярнуўся з Каўказа пехатою.

Не ўжывалі мацюкоў і праклёнаў, часам, у злосці, бацька скажа да сына:

«Ты — падла!», альбо: «Каб цябе трасца!», «Каб цябе воўк заеў!» Слова «халера» прынеслі з войска. Не было злодзеяў. А калі былі, то дома не кралі. Мозаль жыў у Дубраўцы, а хадзіў з канакрадамі ў іншыя вёскі. Яго абавязкам было хаваць украдзеных коней. Аднойчы бацька пры месяцы злавіў, як Мозаль у нашым свірне перасыпаў з вялікай кадушкі муку ў свой мяшок. Я гэта бачыў. Бацька сказаў высыпаць муку назад. Ён упаў на падлогу і прасіўся: «Дзядзька, даруй!» Бацька загадаў яму спусціць порткі і некалькі разоў пацягнуў лейцамі.

Як сон, зімовы ўспамін. Сядзім мы на куццю за сталом, а за вокнамі — завіруха. Нашы сабакі чакаюць куцці на ганку. Раптам пачынаюць енчыць, адзін дык выбіў шыбу, ускочыў у хату праз акно. Бацька ўхапіўся і адразу камандуе: «Ты — да быдла, ты — да авечак, ты — да коней».

Усе зрываюцца і бягуць. А тут дзве авечкі ўжо зарэзаныя, скрадзеныя. Гвалт, лямант, выццё. Зграя каля ста ваўкоў напала на вёску. Ноччу воўка не застрэліш.

Падвечар вяртаюся з суседняй вёскі дахаты, а тут чую — бабы крычаць: воўк, воўк! Падняўся я на горку, бачу — воўк прэцца і порткі цягне за сабою: падкраўся, як бабы мылі, украў хоць порткі.

У вёсцы вучыліся — «ад хаты да хаты» — чытаць. Толькі брат Караль і я скончылі народнае гарадское вучылішча ў Слоніме. Адам, Волесь, Антось вучыліся чытаць дома. Іх вучыў той са старэйшых, хто ўмеў, найлепшым быў Валяр'ян. Потым — Шышлоўскі. Калі поп даведаўся пра тое, што вучаць па-польску, выдаў паліцыі, мусілі ўцякаць у Амерыку. У бацькі былі ў паліцыі «свае людзі», і яны далі знак, што прыйдуць правяраць у пятніцу ці ў суботу. Прыйшлі, а іх ужо няма. Пасля нас вучыла сястра Мальвіна, пасля Адам. І дзяўчат вучылі чытаць і пісаць, але толькі ў каталіцкіх сем'ях.

<...>

Мы гулялі ў жоўтым пяску на «Вінцуковай гары», на вяршыні яе раслі дубы і сосны. Пасвілі свіней і адначасна лавілі кошыкам рыбу і ракаў. Гулялі ў мячыкі сваёй работы — укідалі ў спецыяльную ямку, а пасля выкідалі з ямкі, двое баранілі мячык, а ўсе палкамі заганялі яго назад у ямку. Сукач, пасучы каровы, прыгожа спяваў і беларускія, і рускія песні.

Найболей любіў я пасвіць цялятаў. Іх было 4 ці 5. За вёскаю быў пагорак, зарослы маладою дубровою, а навокал жыта і ячмень. Калі цялятаў заганяў у гэтую дуброву, то яны і так не лезлі ў збожжа, а я сабе сядаў пад куст і спаў. Дома — а дзе Франак? Ідзі, Волесь, пашукай, а Франак спіць, накрыўшыся мяшком, з'еўшы яйка і сыр. Бо ранкам то мяне ўгаворвалі: «Уставай, уставай, Франусь, тут табе яечка і сырок!» Не хацелася, але трэба...

*Пераклад з польскай мовы Данута Бічэль.*

# CONTENTS

We start the new issue of the quarterly magazine «Our Faith» with article «Mercy on the Roads of Human Tragedies» by Bishop of Vitebsk A. Butkevich, which is offered to the readers in connection with the end of the Year of Mercy (p. 2-7).

There are three articles dedicated to St. Mother Teresa, whose canonization took place on the 4th of September this year: by T. Satouskaya «She Was a Gift for the Church and the World» (translated by H. Shauchenka); an excerpt from the homily of Pope Francis during the Holy Mass of Canonization of Mother Teresa «There Is No Alternative to Mercy» (translated by Y. Shedzko); as well as interview with the press-secretary of the Roman-Catholic Archdiocese of the Mother of God in Moscow fr. K. Garbunou «A Saint Is Not an Excellent Person in the Eyes of God» (translated by Y. Shedzko) (p. 8-17).

We continue to publish treatise of St. John of the Cross «The Ascent of Mount Carmel» (translated from Spanish by S. Gresvi) (p. 18-21).

Article «On the Way to Unity» by Doctor of Philology V. Maksimovich is dedicated to the poetry by Simeon of Polotsk during his Belarusian period of work (p. 22-25).

Researcher of History of Religion R. Zianiuk in her article «Father Jozef Marsanger SJ» tells the story of the life and work of this remarkable priest (p. 26-35).

We offer to the readers a review by literary critic I. Bagdanovich of the book by V. Kalinouski «Pani Elżbieta. History of a Friendship» (Smolensk, «Inbelkult», 2016). The book is dedicated to the famous Polish linguist and diplomat Elżbieta Smułkowa, who was the first Ambassador Extraordinary and Plenipotentiary of the Republic of Poland in Belarus in 1992-1995 (p. 36-37).

Art critic V. Buival in his essay «Testimony of Christ's Mercy» tells the readers about the famous work of Spanish artist Murillo (the 17th century) «Christ Healing the Paralytic at the Pool of Bethesda» (p. 38-39).

Literary critic E. Liavonava in her article «The Sensitive Heart» writes about the works of famous Polish writer Eliza Orzeszkowa (p. 40-43).

Article «Učynkam našym pajšli ŭmałot» by L. Kaminskaya is dedicated to the 130th anniversary of the birth of M. Ravienski, an author of the music of the famous Catholic hymn «Mighty God» (verse by N. Arsiennieva (p. 44-46).

In memory of the former author of «Our Faith», member of the editorial board of the magazine, «Pro Christo» (p. 47).

On the occasion of the 50th anniversary of Mihas Skobla (a poet, a journalist, a researcher of literature) we print an essay of one of the oldest Belarusian poets V. Zujonak «Reader to Reader — as Poet to Poet...» as well as new poems by Mihas Skobla (p. 48-53).

In column «Poetry» we place the poems by A. Hatenka and A. Brusevich (p. 54-57).

In column «Presentation» we print article by Doctor of Philology G. Tychko «A Man of a Great Heart», in which the author tells the story of the book «Kuzma Chorny. Man is a Whole World...» (2016, compiler G. Shablinskaya) (p. 58-60).

In interview «There Should Be Chant in Music...» Y. Shedzko talks with the teacher of the Academy of Music V. Yanum about the features of using the music during Christian worships (p. 61-65).

Famous poet D. Bichel offers to the readers her translation of the memories of F. Kananovich «Where Lukonitsa Flows into Shchara» (p. 66-71).

# RESÜMEE

Die neue Nummer der Quartalzeitschrift „Unser Glaube" beginnt mit dem Artikel des Witebsker Bischofs A. Butkewitsch „Barmherzigkeit auf Wegen menschlicher Tragödien". Dieser Artikel wird den Leserinnen und Lesern zum Abschluss des Jahres der Barmherzigkeit präsentiert (S. 2-7).

Drei Beiträge sind Mutter Teresa gewidmet, die am 4. September des laufenden Jahres heiliggesprochen wurde: „Sie war ein Geschenk für die Katholische Kirche und für die Welt" von T. Satouskaja (übersetzt von G. Schautschenka); Auszug aus der Homilie „Barmherzigkeit hat keine Alternative" des Heiligen Vaters Franziskus in der heiligen Messe während der Heiligsprechung von Mutter Teresa (übersetzt von J. Schedsjko); sowie das Interview „Ein Heiliger ist kein Musterschüler von Gott" mit dem Priester K. Garbunow, dem Pressesekretär der römisch-katholischen Erzdiözese der Mutter Gottes in Moskau (übersetzt von J. Schedsjko) (S. 8-17).

Fortgesetzt wird die Veröffentlichung des Traktates „Aufstieg auf den Berg Karmel" des heiligen Johannes vom Kreuz (übersetzt aus dem Spanischen von S. Greswi) (S. 18-21).

Simeon von Polozks Lyrik aus der belarussischen Schaffensperiode ist der Beitrag „Auf dem Weg zur Vereinigung" von Dr. phil. W. Maksimowitsch gewidmet (S. 22-25).

Die Religionsgeschichtsforscherin P. Sjanjuk berichtet im Artikel „Priester Jusaf Marsanger SJ" über das Leben und Werk dieses hervorragenden Priesters (S. 26-35).

Den Leserinnen und Lesern wird die Rezension der Literaturwissenschaftlerin I. Bagdanowitsch zum Buch „Pani Elżbieta. Geschichte einer Zuneigung" von W. Kalinowski (Smolensk, „Inbelkult", 2016) präsentiert. Das Buch ist der bekannten polnischen Sprachwissenschaftlerin und Diplomatin Elżbieta Smulkova gewidmet, die 1992–1995 die erste Außerordentliche und Bevollmächtigte Botschafterin der Republik Polen in der Republik Belarus war (S. 36-37).

Der Kunstwissenschaftler W. Bujwal erzählt im Essay „Zeugnis der Barmherzigkeit Gottes" über das berühmte Werk „Die Heilung des Gelähmten" des spanischen Malers Murillo (XVII. Jh.) (S. 38-39).

Die Literaturwissenschaftlerin E. Ljawonawa scheibt im Artikel „Ein feinfühliges Herz" über das Schaffen der berühmten polnischen Schriftstellerin Eliza Orzeszkowa (S. 40-43).

Anlässlich des 130. Geburtstags von M. Rawenski, der die Musik für die berühmte katholische Hymne „Mächtiger Gott" (Gedicht von N. Arsennewa) geschrieben hat, erscheint der Artikel „Schick unseren Taten Ertrag reiche Ernte" von L. Kaminskaja (S. 44-46).

Dem Andenken an den Kunstwissenschaftler A. Jaraschewitsch (1940 - 2016), ehemaliger Autor der Zeitschrift „Unser Glaube" und ein Freund der Redaktionsleitung, ist das Abschiedswort von Mitarbeiterinnen und Mitarbeitern des Verlags „Pro Christo" gewidmet (S. 47).

Aus Anlass des 50. Geburtstags von Michas Skobla (Poet, Journalist, Literaturforscher) werden der Essay eines der ältesten belarussischen Poeten, M. Sujonak „Der Leser ist für den Leser wie ein Poet für einen Poeten" und die neuen Gedichte des Jubilars veröffentlicht (S. 48-53).

Die Rubrik „Poesie" enthält Gedichte von A. Hatenka und A. Brusewitsch (S. 54-57).

In der Rubrik „Präsentation" ist der Artikel „Ein Mensch mit einem großen Herzen" von Dr. phil. G. Tytschko veröffentlicht, in dem die Autorin über das Buch „Kusma Tschorny. Ein Mensch ist eine ganze Welt…" (2016, Hrsg. G. Schablinskaja) berichtet (S. 58-60).

Im Interview „In der Musik soll Gesang sein" spricht J. Schedsjko mit A. Janum, Dozentin an der Musikakademie, über die Besonderheiten des Musikgebrauchs während christlicher Gottesdienste (S. 61-65).

Die bekannte Poetin D. Bitschel präsentiert den Leserinnen und Lesern die eigene Übersetzung eines Auszuges aus den Erinnerungen von F. Kananowitsch „Wo die Lukoniza in die Schtschara mündet" (S. 66-71).

# PODSUMOWANIE

Najnowszy numer kwartalnika «Nasza wiara» rozpoczyna się artykułem biskupa witebskiego A. Butkiewicza «Miłosierdzie na drogach ludzkich tragedii», który proponuje się uwadze czytelników z okazji zakończenia Roku Miłosierdzia (s. 2-7).

Osobie świętej Matki Teresy z Kalkuty, której kanonizacja odbyła się 4 września tego roku, zostały poświęcone trzy publikacje: T. Sotowskiej «Była darem dla Kościoła i świata» (tłum. H. Szewczenko), fragment homilii Ojca Świętego Franciszka podczas Mszy św. kanonizacyjnej «Miłosierdzie nie ma alternatywy» (tłum. J. Szedźko), oraz wywiad z rzecznikiem prasowym rzymsko-katolickiej archidiecezji Matki Bożej w Moskwie ks. K. Gorbunowym «Święty nie jest piątkowiczem u Boga» (tłum. J. Szedźko) (s. 8-17).

Kontynuujemy publikację traktatu św. Jana od Krzyża «Droga na Górę Karmel» (tłum. z języka hiszpańskiego S. Hreswi) (s. 18-21).

Poezji Symeona Połockiego białoruskiego okresu twórczości poświęcony jest tekst doktora filologii W. Maksymowicza «Na drodze do jedności» (s. 22-25).

Badaczka historii religii R. Zianiuk w artykule «Ksiądz Józef Marsanger SJ» opowiada o życiu i posłudze tego wybitnego kapłana (s. 26-35).

Uwadze czytelników proponuje się recenzję literaturoznawcy I. Bahdanowicz książki W. Kalinowskiego «Pani Elżbieta. Historia jednej przyjaźni» (Smoleńsk, «Inbelkult», 2016). Książka poświęcona jest znanej polskiej językoznawcy i dyplomatce Elżbiecie Smułkowej, która w latach 1992–1995 była pierwszym Nadzwyczajnym i Pełnomocnym Ambasadorem Rzeczypospolitej Polskiej w Republice Białoruś (s. 36-37).

Znawca sztuki W. Bujwał w eseju «Świadectwo miłosierdzia Chrystusowego» opowiada o znakomitym obrazie hiszpańskiego malarza Bartolomégo Estebana Murilla (XVII w.) «Chrystus uzdrawia paralityka przy Sadzawce Betesda» (s. 38-39).

Literaturoznawca E. Lawonawa w artykule «Czułe serce» pisze o twórczości słynnej polskiej pisarki Elizy Orzeszkowej (s. 40-43).

Z okazji 130-tej rocznicy urodzin M. Rawienskiego, autora muzyki znanego katolickiego hymnu «Potężny Boże» (wiersz N. Arsienniewaj) ukazał się artykuł L. Kamińskiej «Uczynkom naszym ześlij omłot…» (s. 44-46).

Pamięci byłego autora i członka kolegium redakcyjnego czasopisma «Nasza wiara», historyka sztuki A. Jaraszewicza  (1940–2016) poświęcone jest słowo pożegnalne pracowników wydawnictwa «Pro Christo» (s. 47).

Z okazji  50-tej rocznicy urodzin M. Skobły (poety, dziennikarza, badacza literatury) zamieszczony jest esej jednego z najstarszych białoruskich poetów W. Zujonka «Czytelnik czytelnikowi – jako poeta poecie», a także umieszczone są nowe wiersze jubilata (s. 48-53).

W rubryce «Poezja» zostały umieszczone wiersze A. Chatenki  i A. Brusiewicza (s. 54-57).

W rubryce «Prezentacja» znajdą Państwo artykuł doktora filologii H. Tyczko «Człowiek wielkiego serca», w którym autorka opowiada o książce «Kuźma Czorny. Człowiek to cały świat…» (2016, autor zbioru H. Szablinskaja) (s. 58-60).

W wywiadzie «W muzyce musi być śpiewność…» J. Szedźko rozmawia z wykładowcą Akademii muzyki W. Janum o możliwościach wykorzystania muzyki podczas nabożeństw chrześcijańskich (s. 61-65).

Znana poetka D. Biczel proponuje uwadze czytelników swoje tłumaczenie z fragmentu wspomnień F. Kananowicza «Gdzie Łukonica wpada do Szczary» (s. 66-71).

# SOMMARIO

Il nuovo numero della rivista trimestrale "Naša vera" inizia con l'articolo del vescovo di Vitebsk A. Butkevič "La Misericordia per le vie delle tragedie umane" che viene sottoposto all'attenzione dei lettori in occasione del fine del Giubileo della Misericordia (p. 2-7).

Alla personalità di Santa madre Teresa, la cui canonizzazione avvenne il 4 settembre dell'anno venturo, sono dedicati tre articoli: "Fu un dono per la Chiesa e per il mondo" di T. Satouskaya (trad. di H. Šaučenka); un brano dell'omelia del Santo Padre Francesco durante la Santa Messa di canonizzazione della Madre Teresa "Non esiste alternativa alla carità" (trad. Di J. Šedzko), nonche' l'intervista con l'Addetto alla stampa dell'Arcidiocesi della Madre di Dio a Mosca, sac. K. Gorbunov "Il santo non è un ottimo alunno di Dio" (trad. di J. Šedzko) (p. 8-17).

Continua la pubblicazione del trattato di San Giovanni della Croce «La salita al monte Carmelo» (trad. dallo spagnolo da S. Gresvi) (p. 18-21).

Alla poesia di Simeone di Polozk del periodo "bielorusso" è dedicato il testo del Dottore di ricerca in Lettere V. Maksimovič "Sulla via dell'unione" (p. 22-25).

La studiosa della storia di religione R. Zianiuk nell'articolo "Il parroco Jusef Marsanger SJ" racconta la vita e l'attività di questo eccellente sacerdote (p. 26-35).

All'attenzione dei lettori si sottopone la recenzione del critico di letteratura I. Bagdanovič al libro V. Kalinouski "Pani Elzbieta. La storia di una simpatia" (Smolensk, "Inbelkult", 2016). Il libro è dedicato alla famosa linguista e diplomatica Elzbieta Smulkova, che negli anni 1992–1995 fu primo Ambasciatore Straordinario e Plenipotenziario della Repubblica di Polonia in Bielorussia (p. 36-37).

Il critico d'arte V. Bujval nel saggio "La testimonianza della Misericordia di Cristo" racconta del famoso quadro del pittore spagnolo Murillo (XVII sec.) "Gesù Cristo guarisce il paralitico presso la piscina di Bethsaida" (p. 38-39).

Il critico di letteratura E. Liavonava nell'articolo "Un cuore sensibile" scrive delle opere della famosa scrittrice polacca Eliza Orzeszkowa (p. 40-43).

Al 130° anniversario della nascita di M. Ravenski, autore della musica del celebre inno cattolico "Dio potente" (poesia di N. Arsenneva) è dedicato l'articolo di L. Kaminskaya "Manda la trebbiatura alle nostre azioni..." (p. 44-46).

Alla memoria del già autore della rivista "Naša vera", l'amico della direzione della rivista il critico d'arte A. Jaraševič (1940–2016) sono dedicate le parole d'addio dei collaboratori della casa editrice "Pro Cristo" (p. 47).

In occasione del 50° anniversario del poeta Mikhas Skobla (poeta, giornalista, studioso di letteratura) si pubblicano il saggio di uno dei poeti più anziani V. Zuionak "Da lettore a lettore come da poeta a poeta..." e le nuove poesie del festeggiato (p. 48-53).

Nella rubrica *Poesia* sono collocate le opere di A. Khatenka e A. Brusevič (p. 54-57).

Nella rubrica *Presentazione* si pubblica l'articolo della Dott.ssa di ricerca in letteratura H. Tyčko "Un uomo dal cuore grande" che racconta del libro "Kuzma Čorny. L'uomo è un mondo intero..." (2016, a cura di H. Šablinskaya) (p. 58-60).

Nell'intervista "Nella musica deve essere il canto..." J. Šedzko parla con la Docente dell'Accademia della Musica V. Janum della specificità dell'uso della musica durante le messe cristiane (p. 61-65).

La famosa poetessa D. Bičel offre all'attenzione dei lettori la sua traduzione dei ricordi di F. Kananovič "Dove Luconiza cade nel Ščara" (p. 66-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — Барталамэ Эстэбан Мурыльё. «Аздараўленне паралітыка». 1670. Палатно, алей. 237x261 см. Лондан, Нацыянальная галерэя.

*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 4 (78)/2016.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 16.11.2016 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 300 экз. Зак № 1441.*
*Надрукавана ў ПУП «Джи энд Ди» Ліцэнзія № 02330/362 ад 06.05.2013.*
*Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, г. Мінск.*



Барталамэ Эстэбан Мурыльё.
«Звеставанне», 1655–1660 гг., Эрмітаж.



Барталамэ Эстэбан Мурыльё.
«Пакланенне каралёў», 1655–1660 гг.,
Мастацкі музей у Таліда (ЗША).



Барталамэ Эстэбан Мурыльё.
«Уцёкі ў Егіпет», 1647–1650 гг.,
Мастацкі музей у Дэтройце (ЗША).



Барталамэ Эстэбан Мурыльё.
«Святая Сям'я з сабакам», 1645–1650 гг.,
Музей Прада, Мадрыд (Іспанія).



Барталамэ Эстэбан Мурыльё.
«Пакланенне пастухоў», 1650 г.,
Музей Прада, Мадрыд (Іспанія).